Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

# ЛіМ Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 35 (4630) 2 верасня 2011 г.

Міхась РУДКОЎСКІ

## Ганцавічы

*Васілю Праскураву*

*Ёсць ціхі гарадок*
*над рэчкай Цною,*
*сярод лясоў палескіх*
*і балот...*
*Не знаю, што ў жыцці*
*было б са мною,*
*калі б яго на свеце не было.*

*Відаць, я б жыў, відаць бы,*
*не загінуў,*
*пісаў бы вершы,*
*сена ў копы клаў, —*
*ды толькі не такой*
*была б Айчына*
*І песня незакончанай была.*

*Там у мяне сяброў*
*харошых многа,*
*з якімі па вясне блудзіў,*
*як Лель;*
*дзесь там,*
*ля партызанскае дарогі,*
*буяе той,*
*пасеяны мной хмель.*

*Хай я пайшоў*
*і хай змяніў прызнанне,*
*хай я не быў у краі*
*тым даўно, —*
*мая любоў высокая,*
*бы ранне,*
*к вам прыляціць,*
*пастукае ў акно.*

*Калі пачуеце, не адпужніце:*
*яна усё такая ж,*
*як калісь, —*
*як ластаўка,*
*як той на дубе ў жыце*
*зялёны і незапылёны ліст.*

*З забытасці*
*засмужана-гуллівай*
*яна ляціць туды,*
*у маладосць...*
*Ёсць Ганцавічы —*
*ёсць! —*
*і я шчаслівы,*
*шчаслівы,*
*што яны на свеце ёсць.*




*Фота Анатоля Клешчука, калаж Віктара Калініна*

## Удзельнікам і гасцям урачыстасцей Дня беларускага пісьменства

ПАВАЖАНЫЯ СЯБРЫ!

Сардэчна віншую вас з Днём беларускага пісьменства, які адзначаецца сёлета на гасціннай Брэсцкай зямлі, у Ганцавічах.

З года ў год гэта свята робіцца знакавай падзеяй культурнага жыцця краіны, сведчыць пра багацце гістарычнай спадчыны і духоўных традыцый нашага народа. Многія стагоддзі айчынная кніжнасць замацоўвае вечныя ідэалы дабра і справядлівасці, з’яўляецца жыватворнай крыніцай мудрасці і ведаў.

Ганцаўшчына непарыўна звязана з жыццём і творчасцю выдатнага песняра Якуба Коласа. Святкаванне Дня пісьменства ў гэтых памятных мясцінах яшчэ раз звяртае нас да каштоўнасцей, якія занатаваны ў яго кнігах. І галоўныя з іх — павага да простага чалавека, маральная чысціня, высакароднасць і самаадданая любоў да роднай зямлі.

Менавіта на такім падмурку і будуецца ідэалогія сучаснай Беларусі. Таму наша дзяржава будзе заўсёды спрыяць развіццю нацыянальнай культуры і падтрымліваць творцаў, якія з’яўляюцца сапраўднымі патрыётамі сваёй Радзімы.

Шчыра жадаю ўсім удзельнікам і гасцям урачыстых мерапрыемстваў шчасця, згоды, плённай працы і дабрабыту.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь
Аляксандр ЛУКАШЭНКА

# Дарагія чытачы газеты, шаноўныя ўдзельнікі святкавання Дня беларускага пісьменства!

Сёняшняя ўрачыстасць — гэта падзея ў жыцці не толькі свецкай грамадскасці нашай краіны, але і Беларускай Праваслаўнай Царквы. Усе мы ведаем, што хрысціянства стаяла ля вытокаў нашай нацыянальнай культуры і, перш за ўсё, прыгожага пісьменства, бо першымі кнігамі на беларускай зямлі былі кнігі Свяшчэннага Пісання. Як нам не прыгадаць сёння такія славутыя імёны нашай гісторыі, як прападобная Еўфрасіння Полацкая і свяціцель Кірыла Тураўскі?..

Але няслушна меркаваць, быццам пра ўзаемныя дачыненні Царквы і айчыннай культуры мы можам разважаць толькі тады, калі размова ідзе пра сівую даўніну. Царква і сёння імкнецца быць блізкай да культурнага жыцця нашага грамадства.

Вядомы мысляр протаіерэй Сергій Булгакаў аднойчы заўважыў, што мастацтва можа быць вольным ад рэлігіі, але гэта не значыць вольным ад Бога; мастацтва можа быць вольным ад этыкі, але не ад Дабра. Вось гэтая формула і ўяўляецца мне найбольш удалай спробай акрэсліць прысутнасць хрысціянства ў сучаснай культуры.

І я прашу Госпада, каб непагасная лампада з агнём ад Гроба Гасподняга, якая ў гэтыя дні прыносіцца вернікамі ў сталіцу свята — горад Ганцавічы, паслужыла напамінам пра Бога і Дабро — стала знаменнем, звернутым да беларускай культуры, яе дзеячаў, захавальнікаў і носьбітаў.

Хрысціянская спадчына павінна таксама праявіцца ў такіх прынцыпах мастацтва, як іерархія і адбор. Бо тое слова, што поруч з "літаратурай" складае назву нашай газеты, змяшчае ў сабе пэўную адзнаку.

Тое, што робіцца здабыткам нацыянальнай і — больш шырока — сусветнай культуры, праходзіць пэўны іспыт — выпрабаванне часам, выпрабаванне людскімі душамі. Толькі пасля гэтага твор узыходзіць на мастацкую вяршыню. Не кожны раман ці спектакль, карціну ці песню мы ўзнагароджваем годным найменнем "мастацтва". Толькі самае дасканалае з таго, што мы сустракаем у пошуках хараства, падчас іерархічнага ўзыходжання ад цялеснага да душэўнага і далей да здабыткаў духу, — толькі гэта мы мусім зберагчы як каштоўнасць нашых сэрцаў.

Царква жыве ў гісторыі таксама дзякуючы мастацтву. Маю на ўвазе не столькі розныя кірункі мастацтва як "рамяства", але найперш тое, што мы з глыбокай пашанай называем найвышэйшым мастацтвам — святасць. Шлях святасці — гэта шлях ачышчэння і асвячэння пачуццяў. Таму мы можам сцвярджаць, што Царква знаходзіцца ў саюзе з добрым мастацкім густам. Заклік апостала Паўла *"Усё выпрабоўвайце, добрага трымайцеся"* (1 Фес. 5: 21) мае, у тым ліку, і культуралагічнае вымярэнне, — і я лічу гэтыя словы надзвычай надзённымі пры абмеркаванні мастацкай тэмы.

Чытанне адкрывае для чалавека безліч скарбаў. Сам факт вынаходніцтва і існавання кнігі пераканаўча сведчыць пра тое, што чалавецтва памятае пра сваю магчымасць дасягнуць падабенства з Богам праз творчую працу са словам. Невыпадкова знаўцы так любяць узгадваць пралог Евангелля ад Іаана: *"Напачатку было Слова"* (Ін. 1: 1). І невыпадкова Новы Запавет прапаноўвае нам у якасці сімвалічнага вобраза Бога першую і апошнюю літары алфавіта: *"Я — Альфа і Амега"* (Адкр. 1: 8, 10).

Бог дзейнічае паміж людзей, якія ўспрымаюць свет праз прызму чытання і пісьма, і размаўляе на іх мове. Той, хто не любіць кнігу і не любіць чытаць, не здолее палюбіць і Кнігу кніг — Свяшчэннае Пісанне. Таму я малітоўна заклікаю благаславенне Божае на працу ўсіх падзвіжнікаў беларускай літаратуры, журналістыкі, філалогіі, бібліятэчнай справы і сумежных сфер дзейнасці.

Я падзяляю з вамі надзеі на тое, што ў будучыні беларусы застануцца народам, які чытае — у тым ліку на сваёй роднай мове. Спадзяюся, што і далей у нас будзе існаваць сапраўдная літаратура высокага кшталту. Веру, што наступныя пакаленні нашых суайчыннікаў, нягледзячы на ўсе цяжкасці і выпрабаванні, будуць у стане вымавіць услед за класікам: "На Беларусі Бог жыве".

Са святам, сябры!

**ФІЛАРЭТ,**
**Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі,**
**Патрыяршы Экзарх**
**усяе Беларусі**

# Глыбокапаважаныя чытачы!

З нагоды чарговага Дня беларускага пісьменства, які сёлета адзначаецца 4 верасня ў г. Ганцавічы Брэсцкай вобласці, прыміце мае самыя цёплыя віншаванні і найлепшыя пажаданні.

Вельмі добра, што традыцыя правядзення Дзён беларускага пісьменства падтрымліваецца. Менавіта яна дапамагае сучаснаму чалавеку лепей пазнаць гісторыю, спадчыну і культуру сваёй Бацькаўшчыны і такім чынам захаваць сваю самабытнасць.

Касцёл, які разам з усім чалавецтвам ідзе па дарогах гісторыі, вельмі руплівa адносіцца да доследу і захавання гістарычнай, культурнай і рэлігійнай спадчыны народаў. Паводле сацыяльнага навучання, Касцёл, будучым не ад гэтага свету, жыве і існуе ў свеце і, у адпаведнасці са сваім пакліканнем, павінен яму служыць. Пры гэтым свет павінен прызнаць Касцёл як рэальнасць і закваску гісторыі. Касцёл жа, у сваю чаргу, не павінен замыкаць вачэй на тое, што атрымаў ад гісторыі і эвалюцыі чалавецтва.

Стаўшы ў гісторыі знакам Божай любові да людзей і заклікаючы да еднасці ўсяго чалавечага роду, Касцёл прапануе здольны адухавіць чалавецтва гуманізм, які можна ажыццявіць тады, калі людзі і цэлыя супольнасці будуць выхоўваць у сабе маральныя і сацыяльныя цноты, каб дзякуючы Божай ласцы паявіліся новыя творцы новага чалавецтва. У выхаванні гэтых цнотаў вялікае значэнне мае як старажытнасць і духоўная спадчына, так і новыя напрамкі духоўнага развіцця чалавецтва і яго культуры. Цешыць тое, што Дзень беларускага пісьменства імкнецца аб'яднаць былое і новае (vetera et nova), для духоўнага абагачэння нашага жыцця. Як немагчыма жыць толькі мінулым, так і немагчыма будаваць новага без падмурку.

Выказваю надзею, што Дзень беларускага пісьменства стане чарговым крокам да будавання нашага новага заўтра.

Жадаю арганізатарам і ўдзельнікам гэтага форуму поспехаў. Няхай добры Бог адорыць усіх вас сваімі дабротамі і благаслаўленнем, каб ён стаўся новай крыніцай новага гуманізму ў духоўным адраджэнні нашай Краіны.

З малітвай і бласлаўленнем

**Арцыбіскуп**
**Тадэвуш КАНДРУСЕВІЧ,**
**Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі,**
**Апостальскі Адміністратар**
**Пінскай дыяцэзіі**

## Мікалай ЧАРГІНЕЦ:

# "Дзень пісьменства — свята пісьменнікаў"



**У пярэдадзень Дня беларускага пісьменства мы звярнуліся да старшыні Саюза пісьменнікаў Беларусі Мікалая ЧАРГІНЦА з просьбай акрэсліць ролю, значэнне свята з пункту гледжання пісьменніцкай грамады краіны.**

**— Мікалай Іванавіч, з чым прыходзім да свята?**

— З кнігамі, новымі творамі. А што можа быць важней для літаратара, як данесці сваё слова да чытача?! Мне імпануе, што ў нашай краіне так шырокамаштабна развіваецца кнігавыдавецкая дзейнасць. І наша творчае супольніцтва, мае калегі, якіх аб'ядноўвае Саюз пісьменнікаў Беларусі, прыкладваюць самыя сур'ёзныя намаганні, каб дзяліцца сваімі творчымі здабыткамі з народам Беларусі. Ці не самы яркі прыклад — выданне "Бібліятэкі Саюза пісьменнікаў Беларусі", праект, які ажыццяўляецца з выдавецтвам "Харвест". За некалькі апошніх гадоў дзясяткі кніг прозы, паэзіі, публіцыстыкі прыйшлі да чытача ў межах гэтай адмысловай серыі. Асабліва мы падтрымліваем у рамках "Бібліятэкі..." пісьменнікаў старэйшага пакалення. Але ж у выдавецкіх памкненнях СПБ не забываецца і пра моладзь.

**— У пярэдадзень Дня беларускага пісьменства падводзяцца вынікі Рэспубліканскага літаратурнага конкурсу...**

— Так, і пераможцам яго будуць уручаны ўзнагароды. Ужо сёння можна павіншаваць празаіка Віктара Праўдзіна, які адзначаны за кнігу "Нелюбімыя гінуць". Паэт Мікола Мятліцкі адзначаны за зборнік "На беразе маім". Узнёслая, грамадзянская паэзія! У галіне дзіцячай літаратуры пераможцай стала Алена Масла. Яе кніга казак "Першая прыгажуня" сведчыць пра творчы рост пісьменніцы і ўвогуле нашай айчыннай дзіцячай літаратуры. Сярод публіцыстаў перамогу атрымаў Уладзімір Сауліч, аўтар кнігі "Антэі Прыдзвіння". У галіне літаратурнай крытыкі і літаратуразнаўства за працу "Традыцыйны кітайскі каляндар і славянскія міфічныя паралелі" ўзнагароду атрымае доктар філалагічных навук Таццяна Шамякіна. Валерый Грышкавец прызнаны лепшым перакладчыкам. Сярод драматургаў лепшай вызначана Алена Папова. Казімір Камейша — пераможца ў гісторыка-краязнаўчым жанры. А лепшым песеннікам названы паэт Канстанцін Нілаў за цыкл песень "Вянок Беларусі". Віншуючы пераможцаў, выказваю спадзяванне, што іх здабыткі заўважаць бібліятэкары, чытачы, арганізатары культурна-асветніцкай работы. Каб кніга працавала, станавілася падзеяй, патрэбны агульныя грамадскія намаганні. І пісьменнікі Беларусі, якія імкнуцца выкладаць у сваіх творах разважлівую грамадзянскую, дзяржаўную пазіцыю, спадзяюцца на ўвагу да плёну сваёй працы.

# На скрыжаванні літаратурных шляхоў

**Трэці раз Берасцейшчына прымае Свята беларускага пісьменства. Яно ўжо праходзіла ў Пінску і Камянцы. І кожны раз гэта нагода падвесці нейкія вынікі, азірнуцца ў мінулае. Пра гэта — у размове са старшынёй Брэсцкага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі Анатолем Крэйдзічам.**



**— Якія найбольш значныя імёны ці падзеі вы маглі б прыгадаць з літаратурнай гісторыі Берасцейшчыны?**

— Пра ўсё, так бы мовіць, расказаць — не пераказаць. Пра вытокі пісьменства — у грунтоўным энцыклапедычным выданні "Літаратурная карта Берасцейшчыны" (2008 г.).

У сярэдзіне XVI стагоддзя ў горадзе дзейнічала друкарня, заснаваная старастам, некаранаваным уладаром Вялікага Княства Літоўскага Мікалаем Радзівілам Чорным. У ёй было выдадзена каля чатырох дзясяткаў кніг на польскай і лацінскай мовах, у тым ліку шэдэўр кнігадрукарскага мастацтва — Брэсцкая, ці, як яе яшчэ называюць, Радзівілаўская Біблія (1563).

З брэсцкай зямлёй звязаны і такія імёны, як Лаўрэнцій Зізаній (падрыхтаваў да выдання вучэбных кніг "Лексис" і "Граммматику словенску съвершеннаго искуства осми частій слова и иных нуждных"), Іпацій Пацей (прадстаўляў Брэсцкае ваяводства на Люблінскім сейме 1569 года).

У Брэсцкім езуіцкім калегіуме вучыліся "брэсцкі Джардана Бруна" Казімір Лышчынскі, будучыя пісьменнікі Марцін Матушэвіч і Юльян Нямцэвіч. У сувязі з вайной 1812 года тут апынуліся вядомыя рускія пісьменнікі А. Грыбаедаў, А. Шахоўскі і Ф. Глінка. Брэст — радзіма знакамітых польскіх пісьменнікаў І. Сікірыцкага, У. Маценгі, Х. Джаноўскага.

Літаратурнае жыццё Берасцейшчыны актывізавалася дзякуючы прыезду сюды ў 1954 годзе Уладзіміра Калесніка. А таксама дзейнасці Міколы Засіма, які з 1948 года ўзначаліў літаратурнае аб'яднанне пры рэдакцыі абласной газеты "Заря".

**— Узгадваючы гісторыю, справядліва будзе расказаць пра творцаў, якія працуюць сёння.**

— Сёння на Берасцейшчыне жыве і працуе больш як сотня пісьменнікаў. 42 з іх — члены абласнога аддзялення СПБ. Сярод іх — Зінаіда Дудзюк, Валерый Грышкавец, Расціслаў Бензярук, Валерый Гапееў, Валянціна Локун, Мікола Антаноўскі, Георгій Тамашэвіч, Анатоль Шушко ды многія-многія іншыя.

**— Якую ўласную ініцыятыву вы лічыце найбольш значнай для ажыўлення літаратурнага жыцця краю?**

— Акрамя стварэння "Літаратурнай карты Берасцейшчыны", заснаванне ў 2007 годзе абласной літаратурнай прэміі імя Уладзіміра Калесніка. На той час гэта першая ў рэспубліцы рэгіянальная літаратурная прэмія такога ўзроўню. Па шчырасці, яна заўважна ажывіла літаратурнае жыццё рэгіёна. А дзіцячы конкурс як нельга дарэчы перакінуў масцік ад сённяшняга слоўнага мастацтва да заўтрашняга. Сёлетні літконкурс прысвечаны 75-годдзю паэта Міхася Рудкоўскага.

**— Захаванне нацыянальных традыцый, далейшае развіццё і прапаганда беларускай літаратуры не тое што не выключаюць, а нават прадугледжваюць стасункі з іншымі краінамі.**

— Канечне. І ў сувязі з гэтым не магу не сказаць пра сваю намесніцу Любоў Красеўскую, якая шмат робіць, бывае на літаратурных мерапрыемствах у Маскве, Даніі, Германіі... Дапамагае нам і Рускае таварыства, якое выступае спонсарам самых розных конкурсаў і сустрэч.

Летась і пазалетась дэлегацыі берасцейскіх пісьменнікаў бралі ўдзел у мерапрыемствах на Беласточчыне, якія ладзілі літаб'яднанне "Белавежа" на чале з прафесарам Беластоцкага ўніверсітэта Янам Чыквіным і культурны цэнтр Беларусі ў Польшчы. Аналагічны міжнародны форум (з удзелам беларускіх пісьменнікаў Польшчы, Гарадзеншчыны і Берасцейшчыны) ладзіўся летась у Гродне. Сёлета месца яго правядзення — Берасцейшчына.

Наладжаны трывалыя сувязі і з Люблінскім аддзяленнем Саюза пісьменнікаў Польшчы. Мы перакладаем творы з беларускай на польскую і наадварот і друкуем іх у літаратурных выданнях. Удзельнічаем у мерапрыемствах. Абменьваемся творамі і дэлегацыямі з Валынскай пісьменніцкай арганізацыяй (Украіна).

Гледзячы на ўсе гэтыя справы, можна сказаць, што беларускую літаратуру і беларускіх літаратараў ведаюць і за мяжой. І мы годна прадстаўляем наша роднае слова.

**Гутарыла**
**Таццяна КУЗНЯЧЭНКАВА**

Літабсягі

# Аўтар асветніцкага летапісу

**У Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі адбылася прэзентацыя кнігі Рамана Матульскага "Бібліятэкі Беларусі. З мінулага ў будучыню".**

**Сяргей ШЫЧКО, фота Кастуся Дробава**



Раман Матульскі не так даўно адзначыў свой пяцідзесяцігадовы юбілей. Своеасаблівай адзнакай да гэтай прыгожай даты ў жыцці руплівага арганізатара бібліятэчнай справы, бібліятэказнаўца, дырэктара Нацыянальнай бібліятэкі Рэспублікі Беларусь стаў выхад яго кнігі "Бібліятэкі Беларусі. З мінулага ў будучыню". Адбылося гэта дзякуючы выдавецтву "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі".

На прэзентацыю каштоўнага выдання завіталі ўдзячныя і зацікаўленыя чытачы, калегі Рамана Матульскага па культурна-асветніцкай дзейнасці, кіраўнікі розных бібліятэчных устаноў. З кнігай і з юбілеем Рамана Сцяпанавіча павіншавалі першы намеснік міністра інфармацыі Рэспублікі Беларусь Лілія Ананіч, намеснік міністра культуры Тадэвуш Стружэцкі, дырэктар выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" Таццяна Бялова, галоўны рэдактар энцыклапедычнага выдавецтва, кандыдат гістарычных навук Ларыса Языковіч, акадэмік-сакратар Нацыянальнай Акадэміі навук Беларусі, доктар гістарычных навук Аляксандр Каваленя, славуты бібліятэказнаўца, педагог Васіль Лявончыкаў і шмат хто яшчэ з вучоных, пісьменнікаў, кіраўнікоў бібліятэчнай галіны.

Выданне "Бібліятэкі Беларусі. З мінулага ў будучыню" з'яўляецца вынікам шырокамаштабнай працы вучонага, даследчыка па ўзнаўленні бібліятэчнай памяці нашай Айчыны. Расказваючы пра тое, як узнікла творчая задума па стварэнні адмысловага асветніцкага летапісу, Раман Сцяпанавіч адзначыў, што ў многім яму дапамаглі калегі, вопыт папярэднікаў, і расказаў пра тое, якія перспектывы ў дадзенага даследавання, бо на кнізе, прадстаўленай удзельнікам святочнай імпрэзы, была пазначана лічба "1". Значыць, трэба чакаць працягу.

Варта заўважыць, што сімпатычны фаліянт выдадзены на высокім паліграфічным узроўні. Па-добраму ўражвае, выклікае захапленне дызайн кнігі. А ў гэтым — заслуга загадчыка рэдакцыі мастацкай і тэхнічнай падрыхтоўкі выданняў, таленавітага кніжнага дызайнера "Беларускай Энцыклапедыі" Алены Сітайлы. Нельга не нагадаць, што ў апошнія гады многія выданні энцыклапедычнага выдавецтва займаюць прызавыя месцы ў беларускім і ў конкурсе краін СНД "Мастацтва кнігі". Будзем спадзявацца, што поспех чакае і кнігу, якая толькі што была прэзентавана ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі. Усе падставы на тое ёсць.

Артлінія

# "Варажбіт" у Заслаўі



**Надзвычайны сюрпрыз падрыхтаваў для сваіх наведвальнікаў Гісторыка-культурны музей-запаведнік "Заслаўе". Тут адкрылася выстаўка калекцыі музычных інструментаў Івана Кірчука і этнатрыа "Троіца". Гэты самабытны праект атрымаў назву "Варажбіт. Працяг", бо стаўся своеасаблівым дадаткам да вядомай канцэртнай праграмы самабытнага беларускага гурта.**

**Алесь СУХАДОЛАЎ, фота аўтара**

Прадстаўленая калекцыя інструментаў раней экспанавалася ў Польшчы, Галандыі, Нямеччыне, Эстоніі, Расіі і ўпершыню паказваецца ў Беларусі. Безумоўна, гэта заўважная для нас падзея ў культурным жыцці, якая перагукаецца з вядомай выстаўкай, што ладзілася да 40-годдзя Беларускага дзяржаўнага ансамбля "Песняры" ў Дзяржаўным літаратурным музеі Янкі Купалы. Адкрыццё праекта "Варажбіт. Працяг" засведчыла, наколькі запатрабаванай творчасць этнатрыа "Троіца", а значыць, і аўтэнтычны фальклор, у інтэлектуальных колах краіны. Сярод прыхільнікаў глыбіннага, сучасна арыентаванага прачытання культурнай спадчыны, што дэманструе калектыў І. Кірчука, — людзі розных узростаў, але пераважала сярод публікі моладзь.

Асабліва прывабіў наведвальнікаў адкрыцця выстаўкі монаспектакль І. Кірчука. З прычыны неверагоднага наплыву аматараў музыка мусіў паказаць яго ажно тройчы. Пастаноўка ўяўляе сабой сакавіты кактэйль з песень, замоў, абрадавых дзеянняў і, вядома ж, гучання самых розных музычных інструментаў. Дыяпазон выканальніцкага майстэрства І. Кірчука вагаўся ад традыцыйных пераліваў дуды да высякання мелодыі… з краменьчыкаў, а акцэнт быў зроблены на матывах ураджайнасці ды плоднасці — адпаведна календару.

Што да самой выстаўкі, то яна ўяўляе сабой багатую калекцыю народных музычных інструментаў з Беларусі, а таксама з іншых краін свету. Тут прадстаўлены вырабленыя народнымі майстрамі скрыпкі, гармонікі, барабаны, дуды, рогі, акарыны і г. д. Пра каштоўнасць калекцыі гаворыць той факт, што некаторыя экспанаты датуюцца пазамінулым стагоддзем. Цікава арганізавана выставачная прастора: частку інструментаў можна не толькі разглядзець, але і патрымаць у руках. Экспануюцца і фотаздымкі, што ілюструюць насычаную на падзеі гісторыю "Троіцы".

Найбольшай адметнасцю ў арганізацыі выстаўкі, мяркую, сталася месца яе правядзення: не раскручаная пляцоўка ў цэнтры сталіцы, а ўтульныя сцены краязнаўчага музея горада Заслаўя. Такі рызыкоўны выбар сугучны пасылу творчасці І. Кірчука, дзе асноўным лейтматывам выступае зварот чалавека да сваіх каранёў.

***На здымку: Іван Кірчук разам з асістэнткай паказваюць монаспектакль "Варажбіт. Працяг".***

Повязі

# Акцэнт — на ўзаемаразуменне

**У пярэдадзень Дня беларускага пісьменства ў Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі пройдзе міжнародны "круглы стол" "Беларускі акцэнт: вопыт і перспектывы міжнароднага культурнага супрацоўніцтва".**

**Кастусь ЛАДУЦЬКА, фота Кастуся Дробава**



Традыцыяй стала штогадовае правядзенне ў першую суботу верасня "круглага стала" з удзелам замежных пісьменнікаў. І сёлета ў госці да беларускіх літаратараў па запрашэнні Міністэрства інфармацыі краіны прыехалі паэты, празаікі, літаратуразнаўцы з Расіі, Украіны, Чарнагорыі, Таджыкістана, Казахстана, іншых краін свету. Размова за "круглым сталом", які ладзяць рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва", часопіс "Нёман" і выдавецтва "Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі" пры актыўным удзеле Саюза пісьменнікаў Беларусі, пойдзе пра ўзаемастасункі літаратур, працэсы глабалізацыі ў свеце культуры і асветніцтва. Беларускія пісьменнікі збіраюцца расказаць сваім калегам пра той вопыт перакладчыцкай дзейнасці, які існуе ў нашай краіне, пра выданні, што праяўляюць увагу да здабыткаў іншых літаратур. Літаральна да "круглага стала" прымеркаваны шэраг кніжных выданняў. І сярод іх — кніга паэзіі народаў свету "Лучнасць", якая выйшла пры падтрымцы Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Аўтар перакладаў — лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь галоўны рэдактар часопіса "Полымя" Мікола Мятліцкі. Пад адной вокладкай сабраны вершы паэтаў Расіі, Польшчы, Славакіі, Таджыкістана, Туркменістана, Казахстана, Азербайджана, Кітая, Індыі, Арменіі і іншых краін.

Перакладчыцкія стасункі — галоўны мост для пашырэння ведамасці нацыянальных літаратур. І сёння развіццё гэтай прасторы немагчыма без сустрэч, дыскусій, перамоў. Актыўную дапамогу пісьменніцкай грамадзе Беларусі ў гэтым плане аказваюць кіраўнікі дыпламатычных місій Расіі, Казахстана, Таджыкістана, Польшчы, Індыі і іншых дзяржаў. На старонках часопісаў "Белая Вежа", "Нёман", "Полымя", "Маладосць", "Бярозка", у газеце "Літаратура і мастацтва" друкуюцца творы многіх замежных літаратараў. Не выпадковым з'яўляецца і той факт, што ў склад Саюза пісьменнікаў Беларусі ўваходзяць і грамадзяне іншых краін — пісьменнікі Літвы, Расіі, Таджыкістана…

Пункцірам

Кіраўнік дзяржавы Аляксандр Лукашэнка падпісаў Указ аб прысуджэнні Дзяржаўных прэмій Рэспублікі Беларусь за 2010 год. Прэмія ў галіне літаратуры, мастацтва і архітэктуры прысуджана творчаму калектыву ў складзе Леаніда Левіна, Аляксандра Фінскага і Святланы Катковай за мемарыял "Дзецям — ахвярам Вялікай Айчыннай вайны" у г.п. Красны Бераг Жлобінскага раёна, створаны на месцы нямецка-фашысцкага лагера. Мемарыял адыгрывае важную выхаваўчую і эстэтычную ролю, атрымаў высокую ацэнку беларускіх і замежных спецыялістаў, а таксама шматлікіх наведвальнікаў. Прэмія прысуджана таксама Паўлу Татарнікаву за серыю графічных твораў "Брама мінулага". Творчасць мастака атрымала прызнанне ў свеце, аўтар з'яўляецца адзіным у краіне ўладальнікам вышэйшай узнагароды Браціслаўскай біенале кніжнага мастацтва — прэміі "Залаты яблык". Серыя "Брама мінулага" прысвечана гісторыі Беларусі, выбітным землякам і помнікам нацыянальнай культуры.

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў народнага артыста Украіны і СССР Багдана Ступку з 70-годдзем. "На беларускай зямлі Вы карыстаецеся прызнаннем і любоўю не толькі як выдатны артыст, але і як добры сябар нашай краіны, злучаны даўнімі творчымі звязкамі з айчынным тэатрам і кіно", — сказана ў віншаванні.

Кіраўнік дзяржавы павіншаваў галоўнага хормайстра Нацыянальнага акадэмічнага Вялікага тэатра оперы і балета Беларусі народную артыстку Беларусі Ніну Ламановіч з юбілеем. У віншаванні, у прыватнасці, сказана: "Пад Вашым кіраўніцтвам хор Вялікага тэатра ператварыўся ў славуты калектыў з непаўторным мастацкім абліччам".

Прэзідэнт Беларусі Аляксандр Лукашэнка павіншаваў з 60-годдзем народнага артыста Расіі Аляксея Учыцеля. Як зазначыў Прэзідэнт, яркі рэжысёрскі талент і высокае майстэрства прынеслі А. Учыцелю шырокую вядомасць і павагу шматлікіх прыхільнікаў.

Узнагароды пераможцам творчага конкурсу "Мастацтва кнігі-2011" будуць уручаны падчас Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-ярмаркі, а не на Дні беларускага пісьменства, як гэта звычайна было. Як зазначыла першы намеснік Міністра інфармацыі Лілія Ананіч, такое рашэнне дапаможа паўней прадставіць кнігу — адначасова як творчы і тэхналагічны прадукт. Аднак і на свяце ў Ганцавічах будуць ушанаваны лепшыя творцы.

За першае паўгоддзе гэтага года ў Беларусі выдадзена 5610 найменняў кніг і брашур, што на 3 працэнты менш, чым за аналагічны перыяд мінулага года. У той жа час тыражы знізіліся на 15 працэнтаў. З названай колькасці кніг каля 10 працэнтаў — на беларускай мове. Аднак, лічыць першы намеснік міністра інфармацыі Лілія Ананіч, хацелася б, каб іх колькасць была значна большай — каля 50 працэнтаў.

Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка выразіў шчырыя і глыбокія спачуванні родным і блізкім народнай артысткі СССР Іі Савінай у сувязі з яе заўчаснай канчынай.

**Падрыхтавалі Ірына АЛЯКСАНДРАВА і Таццяна МАСТОЎСКАЯ**

# Святло Ганцавіцкіх зор

**Памаладзелыя, адноўленыя Ганцавічы шчыра сустракаюць шматлікіх гасцей традыцыйнага свята — Дня беларускага пісьменства. Давайце, шаноўны чытач, разам здзейснім невялікую вандроўку па гэтым унікальным куточку Палесся, пазнаёмімся з яго працавітымі і таленавітымі людзьмі!**

**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ,**
**фота Анатоля КЛЕШЧУКА**

Наша легкавушка зварочвае на роўную чыстую вуліцу Люсіна. Просім кіроўцу збавіць хуткасць. З цікавасцю аглядаем дыхтоўныя дамы, як званы, аблепленыя талеркамі-тэлеантэнамі. Амаль у кожным двары блішчаць "форды" і "таёты", у агародах лысеюць гарбузы і кабачкі, у садах даспяваюць сакавітыя антонаўкі. І куды ні кінь — яркія астры, гладыёлусы, вяргіні... Кучы бярвенняў, праўда, абрэзаных на пілараме, высокія штабялі свежых дошак дзенідзе ляжаць на падворках. Вёска будуецца, пашыраецца.

У мясцовым сельвыканкаме расказалі, што цяпер у Люсіне жыве паўтары тысячы чалавек, тут шмат моладзі, 45 шматдзетных сем'яў. У дзіцячы садок — чарга. Таму яго давядзецца дабудоўваць. У школе не 37 вучняў, як пры Лабановічу (Коласу), а 270.

> *"Невялічкая вёска ў адну вуліцу выглядала непрыкметна і непрытульна. На ўсім ляжыць пячатка нядбайнасці і нейкай недаробленасці, нібы тутэйшыя гаспадары будаваліся на скорую руку, усё рабілі да часу і яшчэ не ўправіліся даць той лад і парадак, якім наогул адзначаецца беларуская вёска. Амаль што каля кожнай хаты ляжалі кучы бярвенняў і гнілі, але нікому не прыходзіла ў галаву палажыць кладачку хоць супраць сваёй хаты, каб льга было прайсці праз балота, у якім тапілася гэта вёска. А гразь была густая, чорная, як дзёгаць, размешаная паляшуцкімі лапцямі, быдлячымі і конскімі нагамі. Але палешукі звыкліся і зжыліся з гэтай граззю і не звярталі на яе ўвагі".*
>
> **З аповесці Якуба Коласа "У палескай глушы"**

З задавальненнем гутарым з жанчынамі каля вясковай крамы, механізатарамі, якія за ваколіцай узнімалі зябліва. І зноў міжволі ўспомніліся словы Я. Коласа: "Палешукі — людзі паважаныя, сталыя, асцярожныя, не адразу і не кожнаму расчыняюць сваю душу, бо ўжо, мусіць, сама прырода Палесся палажыла на іх сваю адзнаку. Бясконцыя балоты вучылі іх мудраму разважанню, мора лясоў выхоўвала ў іх асцярогу..."

Не, Люсіна (Цельшына) ніяк не назавеш глухім паселішчам у адну вуліцу. Як і Хатынічы (Хатовічы), Малькавічы (Малкавічы), многія іншыя вёскі Ганцавіцкага раёна, пра якія згадваў Колас (Лабановіч) у аповесці "У палескай глушы". Цяпер тут бурліць жыццё, а па восені шчаслівыя бацькі спраўляюць вяселлі сынам і дочкам, на якія збіраюцца дзясяткі гасцей са сваімі песнямі, пажаданнямі, жартамі.

Аднак варта зазначыць, што працэс удасканалення сельгасвытворчасці ішоў вельмі няпроста з-за ўсеагульнай беднасці, а імклівая і суцэльная калектывізацыя, якая пачалася яшчэ ў канцы 40-х гадоў, не абышлася без сур'ёзных перагібаў і памылак. Выключна за кошт тэхнічнага пераўзбраення, падрыхтоўкі кадраў, укаранення перадавых тэхналогій у сямідзясятыя гады цяжкая эканамічная сітуацыя пачала выпраўляцца. А ў апошняе дзесяцігоддзе быў узяты рашучы курс на стварэнне ў буйнейшых вёсках аграрных гарадкоў, дзе ёсць галоўная ўмова поспеху: дабротнае жыллё, праца і неабходны комплекс сацыяльна-бытавых паслуг.

Такія сучасныя аграгаспадаркі плённа працуюць на цэнтральных сядзібах былых калгасаў, а сярод іх вылучаюцца багатымі здабыткамі кааператывы "Дубнякі", "Будча". Справядліва будзе заўважыць, што, нягледзячы на складаныя ўмовы пераходу да рыначных адносін у эканоміцы, земляробы з году ў год няўхільна павышаюць ураджайнасць асноўных культур, вытворчасць малака, мяса і, адпаведна з тым, паляпшаецца дабрабыт працаўнікоў, хаця і тут застаецца яшчэ шмат нявырашаных пытанняў і праблем. Напэўна, гэта часовыя цяжкасці, бо райвыканкам, яго структурныя падраздзяленні робяць усё для таго, каб дынамічна развіваліся сельскагаспадарчая і прамысловая вытворчасці, удасканальвалася сацыяльная сфера.

— Толькі за апошнія пяць гадоў аб'ём прамысловай прадукцыі ўзрос у 2,4 разы і склаў 280 млрд. рублёў, спажывецкіх тавараў выраблена на 52 млрд. рублёў. Эканоміка раёна працуе са станоўчым фінансавым вынікам, што спрыяе правядзенню актыўнай інвестыцыйнай дзейнасці. Аб'ём інвестыцый у асноўны капітал за 2006—2010 гады склаў 350 млрд. рублёў, — не без гонару адзначае начальнік аддзела эканомікі райвыканкама Артур Грыгаран.

Ва ўсіх галінах народнай гаспадаркі адбываецца тэхнічнае пераўзбраенне. Напрыклад, у рамках рэалізацыі інвестыцыйнага праекта на ААТ "Модуль" створана зусім новая вытворчасць, якая дае магчымасць выпускаць канкурэнтаздольную прадукцыю, а на камбінаце панэльнага домабудавання рэалізуецца інвестыцыйны праект па выпуску панэлей для будаўніцтва жылля метадам "Шырокі крок".

Ладзяцца справы ў працаўнікоў хлебазавода, лясгаса, райаграсэрвіса, іншых буйных і драбнейшых прадпрыемстваў.

Нямала зроблена для паляпшэння сацыяльнай сферы. У горадзе і сельскай мясцовасці працуюць 12 сярэдніх і базавая школа, 5 садкоў-школ, 13 дашкольных устаноў. У раёне каля 4000 вучняў, у дашкольных установах выхоўваецца больш як 1200 дзяцей. У сельскагаспадарчым ліцэі 400 юнакоў і дзяўчат асвойваюць спецыяльнасці аператара ЭВМ, лесніка-вадзіцеля, лесніка-егера, вадзіцеля аўтамабіля, маляра, тынкоўшчыка, прадаўца, садоўніка-агародніка.

Здароўе людзей, улічваючы наступствы чарнобыльскай катастрофы, сёння не можа не хваляваць кіраўніцтва раёна. Медыцынскую дапамогу насельніцтву аказваюць больш як 29 устаноў аховы здароўя, у якіх працуюць 70 урачоў і больш як 330 медыцынскіх работнікаў з сярэдняй адукацыяй. Усе медустановы забяспечаны найноўшай тэхнікай і сучасным абсталяваннем.

— Цяпер, як ніколі раней, насельніцтвам запатрабаваны ўстановы культуры, — дзеліцца сваімі ўражаннямі начальнік аддзела ідэалагічнай работы райвыканкама Лідзія Занька. — У нас працуюць дзве гарадскія, 15 сельскіх бібліятэк і бібліятэка-музей, а таксама 160 калектываў мастацкай самадзейнасці, 46 аматарскіх аб'яднанняў, у якіх занята больш як дзве тысячы чалавек. Многія энтузіясты сваёй справы ўдастоены высокіх узнагарод. Так, напрыклад, начальнік аддзела культуры Ірына Марцінкевіч узнагароджана нагрудным знакам "За ўклад у развіццё культуры Беларусі", Ганаровай граматай Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Дырэктар раённага Дома рамёстваў Марыя Муха — дыпламант "Славянскага базару", лаўрэат Другой нацыянальнай выстаўкі "Жывыя крыніцы", кіраўнік Агарэвіцкага сельскага Дома культуры Ірына Сабецкіс — пераможца абласнога конкурсу "Клуб года-2008". І гэты спіс можна доўжыць.

Асноўнымі напрамкамі ў рабоце з моладдзю з'яўляюцца прапаганда здаровага ладу жыцця, духоўна-маральнае і патрыятычнае выхаванне, падтрымка таленавітых юнакоў і дзяўчат. Штогод праводзяцца зімовая і летняя спартакіяда "Абаронца Айчыны", лыжныя гонкі і біятлон ("Снежны снайпер"), вялікай папулярнасцю карыстаюцца спаборніцтвы "Палескі край". Адсюль выйшлі шматлікія майстры спорту міжнароднага класа, удзельнікі Алімпійскіх гульняў і чэмпіянатаў Еўропы.

За ўсімі гэтымі здабыткамі, якімі славіцца ціхі куток Палесся, стаіць чалавек — змагар, стваральнік. Сярод выдатных людзей — меліяратар, Герой Сацыялістычнай Працы Віктар Шапавал, механізатар, поўны кавалер ордэна Працоўнай Славы Іосіф Равінскі, дырэктары адкрытага акцыянернага таварыства "Модуль" і лясгаса Эдуард Буракоўскі і Аляксей Крупеніч, галоўны заатэхнік СВК "Дубнякі" Галіна Яська, дырэктар СШ № 3 Варвара Дыдышка, урач-хірург, ветэран працы Казімір Шчука і многія-многія іншыя. Іх імёны згаданы ў кнізе "Ганцаўшчына — край легенд і талентаў народных", якую прэзентуюць удзельнікам Дня беларускага пісьменства. Дарэчы, у кнізе распавядаецца і пра творцаў, каму, як зазначае яе аўтар, пісьменнік Віктар Гардзей, "капрызная Муза не пашкадавала паэтычнага натхнення і сапраўднай удачы".



Пра таленавітых і працавітых людзей раёна, маляўнічыя, казачныя мясціны можна расказваць бясконца. Напрыклад, як у цяжкія часіны палешукоў выручаў бацюхна-лес, пад які і цяпер занята больш як 50 працэнтаў тэрыторыі краю. Пры лясгасе на 26 гектарах створаны лесагадавальнік, дзе растуць саджанцы каштоўных парод дрэў і дэкаратыўных кустоў. Яшчэ адна славутасць — грыбы, лясныя і балотныя ягады. Для захавання прыродных багаццяў створаны два заказнікі-журавіннікі рэспубліканскага значэння — "Борскі" і "Ялоўскі", дзе на вялікіх плошчах балоты пакінуты ў некранутым стане. А на цэнтральнай базе "Журавінка" вучоныя Батанічнага саду Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі займаюцца вывядзеннем і выпрабаваннямі новых гатункаў, а таксама ўдасканаленнем тэхналогіі вырошчвання буйнаплодных журавін, брусніц і буякоў высокіх. У гэтыя дні якраз сакавітыя, чырвоныя ягады, здаецца, так і просяцца ў кошык.

Меў рацыю старшыня райвыканкама Уладзімір Столяр, калі ў адным з інтэрв'ю зазначыў:

— Дзесяць гадоў таму, калі мяне накіроўвалі ў Ганцавічы старшынёй райвыканкама, я, прызнацца, ехаў сюды з вялікай неахвотай. З расказаў знаёмых пра гэты край складвалася не зусім прыемнае ўражанне. Мне малявалі яго як глухі і Богам забыты кут, як нейкую глухамань коласаўскіх часоў, а жыхароў яго — як забітых і малаадукаваных людзей. Якія гэта былі памылковыя і далёкія ад сапраўднасці ўяўленні! Вельмі хутка я пераканаўся, што няма для мяне на свеце даражэйшага куточка на зямлі, чым гэты, з яго надзіва прыгожымі, працавітымі і таленавітымі людзьмі, з іх самабытнай культурай і векавымі традыцыямі.

Думаецца, што госці свята беларускага пісьменства пераканаюцца ў гэтым. Іх пачастуюць мясцовымі прысмакамі і напоямі, ім праспяваюць непаўторныя матчыны песні, падораць ручнікі, наміткі і саламяныя збанкі... Творчы патэнцыял ганцавіцкіх пісьменнікаў, музыкаў, спевакоў і народных умельцаў — па сутнасці невычэрпны. Не выпадкова ж у сучасным гербе горада закладзены добра зразумелы паэтычны сімвал: два крылатыя жураўлі на блакітным фоне горда імкнуцца ў вышыню.



***На здымках: старшыня райвыканкама Уладзімір Столяр; на вуліцы аднаго з аграгарадкоў.***

# Наш Колас — сельскі інтэлігент, інтэлектуал, рамантык

**Скульптар адлюстроўвае не ўсё, што яму вядома пра партрэтаванага чалавека, а толькі самую сутнасць яго ўнутранага свету. Для творцы важна перадаць у статуі не прыблізную, а поўную і тыповую праўду пра героя свайго твора. Менавіта гэтых патрабаванняў мастацтва прытрымліваліся брэсцкія скульптары Алеся Гуршчанкова і Павел Герасіменка падчас працы над помнікам маладому Якубу Коласу, які будзе адкрыты на Свяце беларускага пісьменства.**



**Алеся:** Безумоўна, ведаў са школьнай і інстытуцкай праграмы пра жыццё і творчасць Якуба Коласа аказалася мала. Уважліва прачыталі аповесць “У палескай глушы” з трылогіі “На ростанях”. Твор мае ў пэўнай ступені аўтабіяграфічны характар. Многія факты і падзеі, адлюстраваныя ў ім, мелі месца ў жыцці аўтара (вучоба ў семінарыі, настаўніцтва ў Цельшынскай школе, каханне да Ядвісі — дачкі падлоўчага Баранкевіча).

**Павел:** Якуб Колас, бадай, першы ў беларускай літаратуры стварыў вобраз змагара за грамадскі прагрэс, паказаў чалавека вялікага інтэлекту, здольнага радавацца і сумаваць, хваляваць і быць спакойным, адчуваць хараство роднай прыроды, ненавідзець пошласць і агіднасць, быць мужным і непахісным. У дзейнасці маладога настаўніка Андрэя Лабановіча ўвасоблены рэвалюцыйны пафас эпохі, думкі і мары перадавых людзей Айчыны, тэорыя і практыка чалавека новага грамадства. Канечне, перадаць усё гэта ў скульптурнай кампазіцыі было няпроста. Да таго ж, фотаздымкаў маладога пісьменніка засталося не дужа многа.

**А.:** Многія скульптары ў сваіх работах увасобілі вобраз класіка. На наш по гляд, найбольш гэта ўдалося Заіру Азгуру. Помнік Якубу Коласу на аднайменнай плошчы ў Мінску прыцягвае ўвагу. На ім — народны пясняр, прытомлены часам і турботамі, акадэмік, дэпутат, аўтар вялікіх эпічных палотнаў, змагар сапраўдных жамчужын слоўнага мастацтва.

**П.:** А наш Колас — гэта малады вясковы інтэлігент, інтэлектуал, рамантык, які толькі робіць першыя крокі на літаратурнай ніве. Як вядома, у 1902 годзе, у Люсіне, ён пачаў працаваць над вялікім па задуме творам на рускай мове “Адзін з сотні”, фрагменты якога ў перапрацаваным выглядзе былі выкарыстаны ў аповесці “У палескай глушы”.

**А.:** Разам з архітэктарамі мы выязджалі ў Ганцавічы, выбіралі пляцоўкі для помніка, іншых скульптурных кампазіцый, якія ўдала ўстаяляваны на Алеі пісьменства. За гэта хочацца падзякаваць дырэктару камбіната “Мастацтва” Аляксандру Грышчуку, спецыялістам упраўлення архітэктуры аблвыканкама, прадпрымальнікам Уладзіміру Зубанаву і Юліі Скаляйчук, усім, хто прымаў удзел у распрацоўцы і ажыццяўленні праекта.

**П.:** Асаблівая ўдзячнасць Уладзіміру Столяру — старшыні Ганцавіцкага райвыканкама. Памятаецца, пры першым знаёмстве ён сказаў: “Грошай у нас малавата, але Алею пісьменства абавязкова пабудуем”. І стрымаў слова. З такімі кіраўнікамі нам, творчым людзям, працаваць заўсёды цікава.

Гэты, здавалася б, нязначны факт сведчыць пра многае. У першую чаргу пра тое, што ганцавічане шануюць памяць не толькі пра славутага беларускага песняра, але і пісьменнікаў-землякоў. Памятаць — гэта ўсё роўна што разумець, а чым больш разумееш, тым больш добрага бачыш вакол сябе.

**Запісаў Уладзімір ЗАЛУЖНЫ, фота Уладзіміра Бацкалевіча**

***На здымку: Алеся Гуршчанкова і Павел Герасіменка ў майстэрні. На заднім плане — помнік Якубу Коласу.***

Школа добрых пачуццяў



## “Да Кузьмы з Парыжа”

**Раіса БАРАВІКОВА**

Безумоўна, у гэтай рубрыцы я магла б сёння павесці гаворку пра чароўную паэзію Віктара Гардзея, для якога Ганцавіцкі край не проста малая радзіма, а тая цудадзейная крыніца, што наталяе душу лепшымі пачуццямі, якія знаходжу і ў яго паэзіі, і ў яго прозе.

Але пакуль хочацца паразважаць пра іншае. У адным са сваіх артыкулаў Віктар Гардзей напісаў: “Асабліва шмат бытуе ў нашым краі твораў вуснай народнай творчасці, у якіх ярка выражаны міфалагічны, чарадзейны змест. Так, у сваёй роднай вёсцы Малыя Круговічы яшчэ ў дзяцінстве я пачуў легенду пра камень-следавік, а пазней напісаў верш “Андрэеў камень”... Запаветам Якуба Коласа — збіраць і запісваць народную мудрасць, — трэба сказаць, якраз і кіруюцца ў сваёй краязнаўчай працы нашы раённыя бібліятэкары, якія, праяўляючы вялікую цікавасць да фальклорнай спадчыны, ужо маюць багатую калекцыю казак, легенд і паданняў, што сведчаць пра самабытнасць і мудрасць народа, прыгажосць яго мовы...”

Сапраўды, вельмі цікавыя і самабытныя паданні ды легенды пераказваюцца і запісваюцца ў гэтай маляўнічай глыбінцы нашага Палесся. Прызнацца, мне асабіста шкада, што яны існуюць і захоўваюцца толькі як пэўны фальклорны збор, як тая самая багатая калекцыя... А мы ж, гаворачы сучаснаю моваю, увесь гэты скарб можам раскруціць! Упэўнена, што на Ганцавіцкай зямлі ёсць шмат прадпрымальных людзей, якія не супраць былі б распачаць сваю справу, свой уласны бізнес, як гэта ўжо шмат дзе робіцца. Маю на ўвазе экатурызм ці той самы “прыдарожны сэрвіс”, які ў нас амаль адсутнічае. Але ў гэтай справе мала паказаць толькі нейкую знешнюю атрыбутыку хай сабе і цікавага старадаўняга побыту нашых прадзедаў. Прыезджы чалавек хоча большага, яму хочацца пабачыць, адчуць нашу душу, наш характар, нашы звычаі... Тую самую самабытнасць і непаўторнасць, якая не дэманструе побыт, а раскрывае Чалавека!

Вось тут і можна скарыстаць легенды ды паданні... Скажам, тая ж самая легенда “Зязюлька”. Які цікавы выхаваўчы сюжэт, што чалавек (у дадзеным выпадку дзяўчына) павінен трымаць дадзенае слова і калі ўжо дэклявала, дык і пайсці замуж за Вужа, які адразу стаў бы прыгожым хлопцам. Сваім учынкам яна зняла б з яго чары... Зачараванага хлопца-Вужа звалі Якавам. І якая прывабная магла б атрымацца беларуская карчомка “У Якава” з пераказам легенды на адваротным баку спісу рознага смакоцця, і тут жа недзе дэкаратыўны вуж, і час ад часу журботнае “ку-ку” дзяўчыны, якая ператварылася ў Зязюлю.

А ўзяць вельмі дасціпнае паданне “Кузьма ў Парыжы”! Так, калісьці атрымаўся вялікі пасаж з Кузьмою, якога князь Радзівіл узяў з сабою ў Парыж, але ж не адно стагоддзе мінулася з таго часу... І беларус-Кузьма ўжо зусім іншы, дык чаму б у якой-небудзь прыгожай мясцінцы не з’явіцца сядзібе для турыстычнага маршруту “Да Кузьмы з Парыжа”... Тыя ж самыя французы, людзі з тонкім гумарам, і праз стагоддзі ахвотна рабілі б гэтае візаві, а па вяртанні маглі б расказваць сваім блізкім ды знаёмым і пра легенду, як Кузьма наведваў Парыж, і пра сваё цяперашняе гасцяванне ў “Кузьмы”. Залацінкі нашай самабытнай і, як усё самабытнае, непаўторнай фальклорнай спадчыны толькі б узмацнілі ўражанні, зрабілі б іх надоўга запамінальнымі.

Як вось і мне да гэтага часу помніцца вясновае падарожжа ў славутае Люсіна, якое належала ў дзесяці ў сярэдзіне васьмідзясятых Васіль Праскураў для Зіны Дудзюк, Валі Аколавай і мяне. З той пары і стала блізкаю зямля Ганцавіцкага краю.

**Віктар ЗАЛЕСКІ**

# Цярністы шлях да храма

**Сённяшняя праваслаўная святыня Ганцавіч — Свята-Ціханаўская царква — будавалася больш як 12 гадоў, а па-сапраўднаму справы пайшлі хутка, калі ў 1994 годзе служыць сюды прыехаў святар Пётр Піліпчук, які застаў на пляцы яшчэ не закончаны падмурак. У будаўніцтве храма дапамагалі многія арганізацыі горада: лясгас, лесапункт, камбінат панэльнага домабудаўніцтва, “Сельгастэхніка”, камунгас, ААТ “Модуль”, іншыя прадпрыемствы і арганізацыі.**

За ходам узвядзення святыні пастаянна сачыла раённая газета “Савецкае Палессе”. Вось што яна паведамляла ў заметцы “Будзе і ў Ганцавічах храм” ад 17 снежня 1993 года: “Нарэшце скранулася з мёртвай кропкі будаўніцтва царквы святога Ціхана ў горадзе. У паўднёва-ўсходняй частцы райцэнтра, паблізу скрыжавання вуліц Будаўнікоў і Кастрычніцкай (у перспектыве тут будзе новы цэнтр Ганцавіч), працаўнікі ПМК-14 прыступілі да работы. Зрабілі разбіўку і апалубку падмурка будучага будынка новай царквы. І толькі моцныя маразы перашкодзілі ім пачаць закладку падмурка. З адносным пацяпленнем работы на аб’екце ўзновяцца”.

Але прайшло яшчэ нямала часу, пакуль будынак храма набыў дасканалы, закончаны выгляд. А ўжо 13 лютага 2005 года адбылося асвячэнне Свята-Ціханаўскай царквы ў прысутнасці вялікай колькасці ганцаўчан. Абрад асвячэння правёў Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі Філарэт, Патрыяршы Экзарх усяе Беларусі. Іверскай іконай Божай Маці ён блаславіў прыхаджан, якія сабраліся ў храме. На богаўгодным мерапрыемстве прысутнічала духавенства, кіраўнікі вобласці і раёна. За вялікі асабісты ўклад у будаўніцтва царквы Мітрапаліт узвёў у сан протаіерэя Пятра Піліпчука і ўзнагародзіў яго асаблівым Крыжам з упрыгажэннямі. Цяпер гэты цудоўны чалавек, змагар за праваслаўную веру — настаяцель храма святога Ціхана, акрамя таго ён з’яўляецца благачынным цэркваў Ганцавіцкай акругі.

Новы Божы Храм, што ўсімі сваімі купаламі ярка зіхаціць у промнях сонца і далёка відзён у наваколлі, за кароткі час стаў галоўнай славутасцю Ганцавіч. Мала сказаць, гэта сама прыгажосць — такую дасканаласць не сустрэнеш і ў вялікім горадзе. Паводле доследу спецыялістаў, пяцікупальны храм са званіцай вырашаны ў традыцыях старажытнарускага царкоўнага дойлідства. Фасады прарэзаны вузкімі, вертыкальна выцягнутымі арачнымі аконнымі праёмамі, купалы маюць форму розных па велічыні цыбулін і ўстаноўлены таксама на неаднолькавых па вышыні светлавых барабанах. Увесь царкоўны комплекс прываблівае зграбнасцю архітэктурных форм, маляўнічым “візантыйскім” сілуэтам, вертыкальнай імклівасцю, дык заканамерна, што колькасць прыхаджан, якія з радасцю наведваюць сваю святыню, з кожным разам у Ганцавічах павялічваецца.

Вера ў Бога нам патрэбна, як патрэбны хлеб і вада, таму што велічныя храмы становяцца помнікамі духоўнай культуры, асновай высокай маральнасці народа. Але менавіта ці не такую ж мэту бачыць перад сабой і Рэспубліканская навукова-асветніцкая экспедыцыя “Дарога да святыняў”, што, па сутнасці, з’яўляецца неад’емнай часткай штогадовага Дня беларускага пісьменства.

**Праект — лаўрэат VII Нацыянальнага конкурсу друкаваных СМІ "Залатая Ліцера"**

## Словакраязнаўцы



**Наталія Пракаповіч, галоўны захавальнік фондаў музея-сядзібы "Пружанскі палацык", разважае пра адметнасці краязнаўчых даследаванняў:**

— Вялікую ролю ў з'яўленні ў мяне цікаўнасці да мінулага адыгралі родныя. Спачатку гэта захапленне было неасэнсаваным, грунтавалася на сямейных успамінах, чытанні мастацкай і навукова-папулярнай літаратуры, удзеле ў алімпіядах і конкурсах, і толькі потым вылучылася ў рэальную мэту — стаць гісторыкам. Вучоба ў Брэсцкім дзяржаўным універсітэце імя А. С. Пушкіна дазволіла набыць любімую прафесію. Яшчэ падчас студэнцтва быў зроблены сур'ёзны крок у галіне даследавання мастацкай спадчыны Пружаншчыны XVI — XIX стст. Далейшая праца ў школе, удзел у распрацоўцы факультатыва "Мая Пружанская зямліца", які быў уведзены ў многіх школах раёна, праца ў музеі-сядзібе "Пружанскі палацык" не дазваляюць згаснуць празе да ведаў пра падзеі, што даўно адышлі.

Кожны, хто займаецца краязнаўствам, выбірае кірункі для вывучэння, якія яму найбольш цікавыя. Кола маіх інтарэсаў даволі шырокае: знакамітыя асобы роднага краю, падзеі розных часоў, звязаныя з Пружаншчынай, мастацтва, археалогія, геральдыка, генеалогія... Чым больш вывучаеш, тым больш узнікае пытанняў, тым больш з'яўляецца тэм для даследавання. Бывае дастаткова слова ці сказа, каб пачаць новую распрацоўку.

Асаблівасць краязнаўчага даследавання яшчэ і ў тым, што яно не мае заканчэння, адна тэма перакрыжоўваецца з іншай — атрымліваецца своеасаблівая павуцінка, якая ўсё больш і больш зацягвае даследчыка. Вельмі хочацца, каб нашы суайчыннікі ведалі і ганарыліся сваім багатым мінулым. Для гэтага трэба рабіць рэальныя крокі — назапашваць, зберагаць і расказваць пра яго. Краязнаўчая дзейнасць адметная таксама сваёй даступнасцю і адкрытасцю. Займацца ёю можа любы чалавек, было б толькі жаданне і імкненне да самаадукацыі. У той жа час краязнаўства — гэта навуковая дысцыпліна, таму даследчык павінен скрупулёзна і адказна ставіцца да матэрыялаў, з якімі працуе, выносіць іх на шырокае абмеркаванне.

На маю думку, краязнаўства — адзін з лепшых, найцікавейшых і выніковых спосабаў паглыблення ў гісторыю, якая сярод іншых навук стаіць на першым месцы па сваім маральна-выхаваўчым патэнцыяле. Лічу, што для нашай краіны ўсведамленне гэтага можа адыграць вялікую ролю ў канчатковай самаідэнтыфікацыі беларусаў.

## Музейны ўнікат

# Зверым час па імператарскім гадзінніку

**Краязнаўчы музей у горадзе Ганцавічы параўнальна малады, ён створаны ў 1997 годзе, а першых наведвальнікаў прыняў толькі ў 2002-м, у час святкавання 120-годдзя з дня нараджэння Якуба Коласа. Адной з галоўных задач калектыву музея, як увогуле ўсіх устаноў падобнага кшталту, з'яўляецца збор, апрацоўка і захаванне музейных прадметаў. Сёння ў яго фондах — больш як пяць тысяч прадметаў, аб'яднаных у калекцыі: археалагічную, нумізматычную, рэчавую і іншыя. І ў кожным са збораў можна знайсці ўнікальныя па сваёй сутнасці рэчы.**



**Наталля КУЛЕШ,**
**галоўны захавальнік фондаў Ганцавіцкага раённага краязнаўчага музея**

Калекцыя дакументаў змяшчае кліравыя ведамасці Будчанскай Спаса-Праабражэнскай царквы 1914—1925 гадоў, рукапісы паэтаў-землякоў. Гонар нумізматычнага збору — значкі Героя Сацыялістычнай Працы Віктара Шапавала



"XXX з'езд КПСС", "XXX з'езд КПБ", "XXXI з'езд КПБ".

Сярод самых адметных экспанатаў музея — насценны гадзіннік, падораны за выдатную працу асабіста імператарам Аляксандрам III Кліменцію Крупенічу, былому майстру чыгуначнай станцыі Малькавічы. Гадзіннік гэты з лагатыпам — на цыферблаце прачытваюцца тры літары П. Ж. Д. — "Полесские железные дороги". Ён не працуе ў прамым сэнсе, але спраўна адлічвае гістарычны час. У музей гадзіннік перадала праўнучка славутага майстра Ларыса Юрчанка.

Два вясельныя фужэры, сувенірныя шкляныя шары... Здавалася б, што ў іх адметнага? Але гэта прадукцыя завода аконнага і люстранога шкла Акцыянернага таварыства Юліуса Столе, якое працавала ў мястэчку Ганцавічы ў пачатку XX стагоддзя. На жаль, мала засталося ў мясцовых жыхароў вырабаў таварыства Столе, таму музей з вялікім задавальненнем захоўвае гэтыя прадметы як каштоўнасці.

Да ліку рарытэтаў можна смела аднесці прас, выпушчаны ў Ганцавічах у 1948 годзе арцеллю "4 Пяцігодка". Ён знаходзіцца ў экспазіцыі на самым відным месцы. Вялікі дзякуй Ганне Канановіч з вёскі Востраў, якая падаравала гэты рарытэтны прадмет.

Паколькі музей яшчэ досыць малады, то значную ролю ў фарміраванні яго фондаў адыгрываюць мясцовыя жыхары, іх актыўнасць і жаданне перадаць рэчы з прыватных калекцый у музейную. Так, Таццяна Качурка прынесла фарфоравы посуд. На адваротным баку кожнага прадмета — нямецкая свастыка і дата — 1941 г. Аказалася, посуд гэты — з нямецкай сталовай, якая ў гады Вялікай Айчыннай вайны размяшчалася ў Ганцавічах. Марыя Асіеўская, якая тады працавала ў сталовай, прынесла яго дадому. І сёння нямецкі посуд распавядае сваю гісторыю, знаходзячыся ў адной з вітрын музея.

***На здымку: прас 1948 г.; насценны гадзіннік і партрэт Кліменція Крупеніча ў музейнай экспазіцыі.***

## Гістарычны пляц

**Аляксандр АЛЯКСЕЙЧЫК**

# Шляхта не плача

**Ёсць у Ганцавіцкім краі невялічкая вёсачка Ясянец, насельніцтва якой на цяперашні час складае каля 30 чалавек. Калісьці яна належала заможнаму шляхецкаму роду Абуховічаў, які праіснаваў амаль шэсць вякоў, меў герб "Ключ раздвоены". Яго прадстаўнікі займалі важныя дзяржаўна-адміністрацыйныя і ваенныя пасады ў Вялікім Княстве Літоўскім.**

Упершыню Ясянец згадваецца ў пісьмовых крыніцах толькі ў XIX ст. Але пра тое, што гэтыя землі былі заселены значна раней, сведчаць курганы X—XIII стст. і могілкі. Дакладна не вядомы час, калі пачалі хаваць на ясянецкіх каталіцкіх могілках. Старажылы распавядаюць, што калісьці могілкі займалі нашмат большую тэрыторыю, чым цяпер. У сярэдзіне XX ст. падчас сельскагаспадарчых работ за агароджай выкопвалі каменныя помнікі, датаваныя XV ст. Да Вялікай Айчыннай вайны тут стаяла невялікая каталіцкая капліца. У ваенныя часы ў капліцы было растраляна шмат людзей, якіх пахавалі на гэтых жа могілках. З часам капліца развалілася, а потым была спалена. Засталіся толькі падмурак і звон, які цяпер знаходзіцца ў царкве вёскі Нача.

Ясянецкія могілкі — шляхецкія. Амаль да паловы XX ст. на іх дазвалялася хаваць толькі тых, хто меў шляхецкія карані. Для пахаванняў прывозілі людзей здалёк — з Янавіч, Баранавіч, Нясвіжа, Клецка, Наваградка, нават з Варшавы. Найбольш вядомыя пахаванні — капліцы шляхціцаў Вендорфаў і Яленскіх. Чаму першыя прадстаўнікі гэтых родаў, жывучы на тэрыторыі Клецкага раёна, менавіта Ясянец абралі месцам свайго пахавання? Магчыма, там дзе пражывалі паны, не было каталіцкіх могілак. А калі месца абрана, наступныя пакаленні хацелі быць пахаванымі разам са сваімі продкамі.

Яленскія — літоўскі дваранскі род герба "Корчак". Ёсць меркаванне, што род Яленскіх больш старажытны, а род Вендорфаў — адно з яго адгалінаванняў. Магчыма, менавіта Яленскім належалі ясянецкія могілкі. Капліца гэтага роду пабудавана прыкладна ў 1830-х гадах і размешчана ў паўднёвай частцы могілак. З яе адваротнага боку маецца невялікая адтуліна — уваход у пахавальны пакой. У сярэдзіне капліцы знаходзіцца сем ніш для трун. Некалі ў склепе былі жалезныя дзверы, якія зачыняліся на вялізны шаснаццацікілаграмовы замок на 16 абаротаў. Выкаваў гэты цуд мясцовы каваль Антон Маеўскі. У гады Вялікай Айчыннай вайны марадзёры адчынілі сакрэтны замок толькі з дапамогай міны.

У 1924 г. у склепе Яленскіх быў пахаваны дваццацігадовы Юрый Яленскі, які, па тагачасных чутках, праваліў экзамен у Нясвіжскую гімназію, а сялянскі сын паступіў. З сораму пан Яленскі павесіўся. Прыкладна ў 1975 г. нашчадкі Яленскіх замуравалі склеп, магчыма, каб больш ніхто не мог здзекавацца з астанкаў родзічаў.

Звесткі пра Вендорфаў у Беларусі знайсці цяжка. Вядома толькі, што гэты род быў набліжаным да Радзівілаў, сядзіба знаходзілася ў вёсцы Галынка цяперашняга Клецкага раёна. Больш дэталёвую інфармацыю захавалі толькі ясянецкія могілкі, дзе размешчана адна з самых шыкоўных пахавальных капліц XVII ст. Пры капліцы Вендорфаў заўсёды знаходзіліся наглядчыкі, у якіх захоўваўся ключ ад дзвярнога замка. Замок зачыняўся на 30 паваротаў. На цяперашні час ключ згублены, замок паржавеў.

У сярэдзіне капліцы, перад уваходам калісьці вісеў партрэт Мікалая II ва ўвесь рост. На фасадзе з масіўным паўцыркульным франтом сіметрычна арачнаму дзвярному праёму ўмураваны памятныя гранітныя пліты. Да нашага часу захавалася толькі адна, справа ад увахода.

Вядома, што ў гады Вялікай Айчыннай партызаны хавалі ў склепе Вендорфаў боепрыпасы. З сярэдзіны 1940-х гадоў капліцу пачалі па-варварску рабаваць. Усё золата, упрыгожванні былі вынесены. Тыя труны, якія вынесці не ўдалося, адчынялі і рабавалі на месцы...

Пайшоў з жыцця ў дваццацігадовым узросце Аляксандр Абуховіч. Пахаваны таксама на Ясянецкіх могілках. У Польшчы ён пакахаў дзяўчыну, якая не была знатнага роду, — спявачку і танцоўшчыцу. Але бацька не даў сыну дазвол на жаніцьбу. 20-гадовы паніч і яго каханка скончылі жыццё самагубствам. Дзяўчына пахавана ў Варшаве. На магіле Аляксандра стаіць помнік белага мармуру з датай 1888 і надпісам на польскай мове: "Спадабалася Богу душа яго, і для гэтага паквапіўся ён весці яго сярод няправасці".

Кожны помнік на Ясянецкіх могілках — асобны лёс, асобная гісторыя. Кажуць, што пад надмагіллем, выкананым у выглядзе аркуша паперы, ляжыць пісьменнік. Ёсць два помнікі з дзіцячымі фігуркамі — там пахаваны дзеці. Ёсць і дзіцячая пахавальная капліца. Існуюць розныя меркаванні наконт таго, чый прах у ёй знаходзіцца, аднак мясцовыя жыхары сцвярджаюць, што тут была пахавана дзесяцігадовая дзяўчынка з адной сям'і роду Абуховічаў.

## "Слодыч лета"

**Чэслава ПАЛУЯН**

Патанчыць беларускія танцы, паслухаць вершаваныя апавяданні Якуба Коласа ў выкананні прафесійнага акцёра, а таксама атрымаць асалоду ад цёплых балканскіх народных песень можна было ў Дзяржаўным літаратурна-мемарыяльным музеі Якуба Коласа. Тут прайшло музычна-забаўляльнае свята "Слодыч лета". Так, майстар-клас па танцах правёў удзельнік Міжнароднай асацыяцыі гістарычнага танца гурт "Гістрыён"; вершы чытаў вядучы майстар сцэны Нацыянальнага акадэмічнага драматычнага тэатра імя Якуба Коласа Валянцін Салаўёў, а песні спявала Кацярына Ваданосава з гуртом "Alta Mente".

Фотаэкскурсія

# Станцыя — мястэчка — горад

**Кожны горад з цягам часу і пад уплывам розных гістарычных калізій змяняе сваё аблічча. Разрастаецца. Дабудоўваецца. Мадыфікуе канфігурацыю вуліц і плошчаў, размяшчэнне важных адміністрацыйных і культавых будынкаў. Але старыя фотаздымкі сёння дапамогуць нам здзейсніць падарожжа ў мінулае Ганцавіч, пабачыць, якім быў горад (дакладней, мястэчка) тады, у канцы XIX — пачатку XX ст. Першым прыпынкам нашай экскурсіі стане чыгуначная станцыя, і гэта зусім не выпадкова.**

*Віталь Герасіменя, навуковы супрацоўнік Ганцавіцкага раённага краязнаўчага музея*



Касцёл Звеставання Найсвяцейшай Панне Марыі.

## Чыгуначная станцыя

Гісторыя горада Ганцавічы, як і ўсяго раёна, цесным чынам звязана з гісторыяй Палескай чыгункі. План будаўніцтва чыгункі на Палессі зацверджаны 14 лютага 1883 года імператарам Аляксандрам III. Імператар звярнуў увагу на недахоп стратэгічных шляхоў зносін у мясцовасці, што мяжуе з Заходняй Еўропай, а таксама неабходнасць уздыму гаспадарча-культурнага значэння Палесся, дзе велізарныя прасторы з-за адсутнасці шляхоў зносін заставаліся амаль нявыкарыстанымі і лес, якога тут было шмат, прападаў на корані, бо яго немагчыма было вывезці. 12 мая гэтага ж года пачалося будаўніцтва.

Рух па Палескай чыгунцы меркавалі адкрываць толькі ў ваенны час, потым планавалася выкарыстоўваць дарогі толькі днём, і ўжо пазней вырашана эксплуатаваць іх звычайным парадкам. 30 снежня 1884 года завяршылася будаўніцтва другога ўчастка Палескай чыгункі: Вільня — Лунінец — Пінск (353 вярсты — 376,3 км), па якім з Пінска ў бок Вільні ў гэты ж дзень прайшоў першы таварны састаў, тым самым пачаўся правільны рух цягнікоў.

З будаўніцтвам Палескай чыгункі на тэрыторыі сучаснага Ганцавіцкага раёна ўзніклі тры станцыі: Ганцавічы (1884 год), Малькавічы (1884 год) і Люсіна (1898 год). Новы і больш сучасны від транспарту адыграў вялікую ролю ў развіцці не толькі Палесся ў цэлым, але і Ганцавіцкага краю. Магчымасць хуткага і зручнага вывазу лесу, зерня, рыбы, ільну, іншых тавараў і сыравіны ў больш аддаленыя раёны Расійскай імперыі ў значнай ступені садзейнічала развіццю гандлю і рамёстваў, часткі галін гаспадаркі і будаўніцтву прамысловых прадпрыемстваў. Узнікалі новыя населеныя пункты, расла колькасць жыхароў ва ўжо існуючых. Да прыкладу, пасёлак пры станцыі Ганцавічы, які ў 1884 годзе хутчэй за ўсё пачынаўся з нуля, у 1909 годзе налічваў 48 двароў і 376 жыхароў. Працу тут пачалі два дастаткова буйныя прадпрыемствы: лесапільны завод пінскага купца Веніяміна Вола, шкляны — Вільгельма Краеўскага і Юліуса Столе.



*Рабочыя лесапільнага завода Боруха Капытмана. Завод размяшчаўся паблізу чыгуначнай станцыі Ганцавічы. Красавік, 1937 год.*

## Гарадскі сквер

Цяжка паверыць, але раней тут знаходзіўся жылы квартал. Размяшчаўся ён паміж вуліцамі "Першая", "Другая", "Трэцяя". Менавіта так у народзе ў перыяд далучэння Заходняй Беларусі да Польшчы называлі цяперашнія вуліцы: 17 Верасня — "Першая", Гагарына — "Другая", Савецкая — "Трэцяя". Ёсць вялікая верагоднасць таго, што яны мелі іншыя, скажам, афіцыйныя назвы, але прості люд называў іх так.

Раён вуліц "Першай", "Другой" і "Трэцяй" у мястэчку Ганцавічы быў своеасаблівым цэнтрам. Іх кампактна і амаль поўнасцю засяляла яўрэйскае насельніцтва. Ці не пры кожным доме існавала невялічкая вытворчасць — пякарня, шавецкая майстэрня, рамонт абутку альбо гандлёвая кропка.

Большасць пабудоў, як і па ўсім мястэчку, так і тут, была з дрэва, ды і дамы вельмі цесна туліліся адзін да аднаго, што стварала вялікую пажаранебяспечнасць. У 1934 годзе загарэлася прыватная пякарня па вуліцы "Першай". Шчыльная забудова спрыяла хуткаму распаўсюджванню агню, на баку стыхіі таксама быў і дастаткова моцны вецер. Праз некалькі гадзін гарэў увесь цэнтр мястэчка. Вуліцы "Першая", "Другая", "Трэцяя" згарэлі поўнасцю. Часткова былі знішчаны агнём цяперашнія вуліцы Заслонава, Камуністычная, Чапаева. Нягледзячы на вялікія страты пасля пажару 1934 года, мястэчка хутка адбудавалася.

## Цэнтральная плошча

Сучасны выгляд плошча стала набываць толькі ў 1970-я гады, калі пачаўся масавы знос старых пабудоў і ўзвядзенне новых. Старыя будынкі, якія перажылі перыяд усеагульнай "рэканструкцыі", можна з лёгкасцю пералічыць — гэта музей ды магазін "Падарункі". У будынку, дзе сёння знаходзіцца раённы краязнаўчы музей, у 1930-я гады размяшчаўся клуб, у 1950-я — пачатковая школа, 1960-я — музычная, а ў 1990-я — дзіцячая бібліятэка. Музей тут месціцца з кастрычніка 2002 года.

Побач з будынкам музея цяпер знаходзіцца гарадскі Дом культуры, на месцы якога быў касцёл. Адпаведна энцыклапедыі "Каталіцкія храмы Беларусі" пад рэдакцыяй А. Калугіна, касцёл Звеставання Найсвяцейшай Панне Марыі быў пабудаваны ў 1911 годзе, калі быў адкрыты часовы храм і пачата будаўніцтва новага мураванага, завяршыць якое перашкодзіла Першая сусветная вайна. Па іншых звестках, касцёл у Ганцавічах пабудаваны ў 1921 годзе і быў больш падобны да каплічкі з асобнай званіцай. Падчас пажару 1934 года гэты касцёл згарэў. У 1934—1936 гадах на гэтым жа месцы з'явіўся новы драўляны касцёл. Святыня будавалася пад кіраўніцтвам ксяндза Францішка Смаршчэўскага. Званы набыў пан Свіжынскі. У 1939 годзе парафію ўзначаліў ксёндз Курэк, але ў 1940-м яго арыштавалі бальшавікі. Людзі і цяпер памятаюць словы святара: "Дзе няма Бога, там няма хлеба. Там, дзе няма Бога, там няма культуры".

Касцёл прастаяў на гарадской плошчы да 1957 года. Пасля Другой сусветнай вайны ў ім яшчэ некаторы час праводзіліся набажэнствы, а потым будынак пераабсталявалі пад Дом культуры. У канцы 1950-х гадоў касцёл разабралі, а з матэрыялаў па вуліцы Перамогі ў сасновым бары збудавалі Зялёны тэатр. Чаму Зялёны? Яго лепей было б назваць летнім, таму што працаваў ён толькі ў летнюю пару. А можа, яго назвалі Зялёным з-за колеру афарбоўкі — нязменна зялёнай?.. На ранейшым месцы касцёла пабудавалі сучасны Дом культуры.

У плябані — доме ксяндза — пасля вайны размясцілася рэдакцыя газеты "Сялянская праўда"; калі скасавалі Ганцавіцкі раён як адміністрацыйна-тэрытарыяльную адзінку — Дом піянераў, а з 1966 года — зноў рэдакцыя газеты. Менавіта з гэтага года "раёнка" пачала насіць назву "Савецкае Палессе". У 1999 годзе новы будынак касцёла быў пабудаваны з цэглы па той жа вуліцы Касцёльнай-Кастрычніцкай.

Каля Дома культуры знаходзіцца сучасны трохпавярховы будынак вузла сувязі. Раней, у 1930-я гады, на гэтым месцы стаяў белы дом з калонамі, які належаў яўрэю Каплану. У ім пасля вайны часова размяшчаўся райкам партыі. На месцы гасцініцы ў 1920—30-я гады было пажарнае дэпо добраахвотнай пажарнай аховы мястэчка Ганцавічы.

У будынку магазіна "Падарункі" ў 1950—1960 гадах знаходзілася адзіная на ўвесь гарадскі пасёлак цырульня. Якраз насупраць, праз вуліцу, стаяла так званая "Чайная". У адной яе палове — з боку вуліцы 17 Верасня — размяшчаўся сам аб'ект грамадскага харчавання, у другой — з боку плошчы — аўтобусная станцыя. Насупраць сённяшняга будынка краязнаўчага музея была кузня яўрэя Шмэркі.

## Вуліца Кастрычніцкая

Вуліца Кастрычніцкая, а ў гады далучэння Заходняй Беларусі да Польшчы — Касцёльная, заўсёды была галоўнай магістраллю. На месцы, дзе цяпер знаходзіцца хлебазавод, яшчэ ў канцы XIX стагоддзя працаваў шклозавод. Давайце разгледзім гісторыю калісьці знакавага для Ганцавіч прадпрыемства.

6 ліпеня 1898 года Будаўнічым аддзяленнем Мінскага губернскага праўлення быў адобраны праект пабудовы ў маёнтку Ганцавічы Слуцкага павета завода па вытворчасці шкла. Гэты праект пададзены ў Будаўнічае аддзяленне лідскімі купцамі Вільгельмам Краеўскім і Юліем Столем 15 красавіка таго ж года. І ўжо ў 1899 годзе прадпрыемства запрацавала. У 1921-м шкляны завод пераходзіць у асабістае ўладанне Юлія Столе і пачынае называцца "Завод аконнага і люстранога шкла Акцыянернага таварыства Ю. Столе". У 1924—1926 гадах з-за эканамічнага крызісу прадпрыемства было закрыта. Пасля яно перапрафіліравана пад харчакамбінат, дзе варылі патаку, пяклі пернікі, выпускалі цукеркі і іншую слодыч.

Насупраць шклозавода, цераз вуліцу Касцёльную-Кастрычніцкую, размяшчаліся ведамасныя дамы шклозавода і будынак банка.

* * *

На гэтым месцы, на скрыжаванні вуліц Кастрычніцкай і Ламаносава, мы завяршаем нашу экскурсію-падарожжа па гістарычным цэнтры горада Ганцавічы.

**Фота з фондаў Ганцавіцкага раённага краязнаўчага музея**



*Цэнтральная плошча мястэчка Ганцавічы, у глыбіні — касцёл і званіца, здымак зроблены да 1934 года.*

# ...Застаецца ў цэнтры круга Дом, што дзецям зберaглі

## Міхась РУДКОЎСКІ

### Мой родны Востраў

*Ёсць ліра ў мяне!*
**Э. Межэлайціс**

*Ёсць Востраў у мяне. Паміж бароў,*
*Як між заліваў хвалістых, ляжыць ён.*
*Там жоўты месяц плавае у жыце*
*У песнях трактароў і камароў.*

*Туды з далечыні лятуць здаўна*
*Буслоў і жураваў ключы-чароды,*
*І гусі апускаюцца на броды,*
*Жыруюць і гняздзяцца у чаўнах.*

*Ёсць Востраў у мяне. З нягод і скрух*
*Я да яго лячу, як да святыні:*
*Ён даў дыханне мне, і зрок, і імя*
*І, разамкнуўшы небасхілу круг,*

*“Ідзі, — сказаў і вывеў на разлог, —*
*Перад табой адкрытая дарога.*
*Ідзі і зведай рух жыцця зямнога,*
*І мудрым стань, нібы мужычы бог”...*

*Я не мудрэц. Але адрозню ўсё ж*
*Здалёк і сталь нарога і папіры...*
*Ёсць Востраў у мяне — ў мяне ёсць ліра,*
*І ліра тая, пэўна, значыць штосьці...*

## Іван КІРЭЙЧЫК

### Дарога дадому

*Неўпрыкмет адступае знямога,*
*Адпадае сама па сабе,*
*Калі бліжай дадому дарога,*
*Калі мама чакае цябе.*

*І забыты бальшак глухаваты,*
*І праз неруш пратоптаны снег, —*
*Сустракай мяне, крайняя хата,*
*З самым добрым святлом у акне!*

*Недзе ў прыцемках посвіст палоззя*
*Чуйна ловіць абвостраны слых,*
*Мне насустрач двайнятк-бярозы*
*Ужо выбеглі з вёскі ўдваіх.*

*Мне рамонкам запахне прыветна*
*Са стажка, што да долу прымёрз,*
*Нібы сам яго толькі што з лета*
*Я сюды, да сядзібы, прывёз.*

*Мяне садзік пазнае здалёку,*
*Што ля хаты прыціх да пары.*
*І слязінку адчуеш на воку,*
*Зачыняючы брамку ў двары.*

*Будзе ў хаце гамонка прыўзнятай,*
*І да пеўняў ніхто не засне...*
*Сустракай мяне, крайняя хата,*
*З самым цёплым святлом у акне.*

## Мікола КУПРЭЕЎ

* * *

*Мілая бярозка, не бядуй:*
*мы яшчэ з табою ўстрапянемся.*
*Толькі заўтра на зары*
*Ў сукенку найбялейшую адзенься.*

*Белую кашулю я і сам*
*на сябе надзену, прычашуся.*
*І пойдзем мы з табою каля рэк*
*нашай добрай роднай Беларусі.*

*Мілая бярозка, не бядуй:*
*мы з табой яшчэ пачуем,*
*як прыходзіць вечар на палі,*
*і ў траве ля Начы заначуем.*

*А раніцой ты веццем узмахнеш*
*светла і зялёна, як ніколі.*
*І будзем мы абняўшыся стаяць,*
*слухаць, як расце пад намі поле.*

## Віктар ГАРДЗЕЙ

* * *

*На траве, на спелай гронцы*
*Росны вечнасці налёт.*
*Не спыніць кружэнне сонца*
*І вады кругазварот.*

*Вечна ўсё: зямлі вярчэнне,*
*Лісця шум і тлум дарог.*
*Вечнае гадоў кружэнне*
*На асі людскіх трывог.*

*Кружым полем, кружым лугам,*
*Кружым вечна па зямлі.*
*Застаецца ў цэнтры круга*
*Дом, што дзецям зберaглі.*

## Алесь КАСКО

* * *

*Яе светласць мова...*
*Чысты свет дзяцінства,*
*свет вясковы.*
*Золак звонкі.*
*Студняў, вёдраў перазовы.*
*Гаманкое лісце.*
*Яблык гупае ружовы.*
*Школа — з гулкім рэхам,*
*водарам сасновым.*
*Русакосая суседка*
*з “Родным словам”...*
*Надвячорак. Песня.*
*Зноўку — аб шчымлівым*
*і заўжды вясновым.*
*Прызба. Доўгія размовы.*
*Казка матчына:*
*“Жыў-быў каваль бядовы...”*



Фота Анатоля Клешчука

*Бацькаў успамін —*
*балючы і суровы...*
*Мова! Мова!*
*Памяці, і вернасці,*
*і сутнасці аснова.*

## Уладзімір МАРУК

* * *

*Вёска Гута, скажы мне, Гута...*
**А. Сербантовіч**

*Гута — крыштальнае дно*
*Самых высокіх нябёсаў.*
*Хаты бацькоўскай акно*
*З дзедавым полем зжылося.*

*Не наглядзяцца яны,*
*Як выпраўляемся ў людзі...*
*Гута.*
*Крышталю званы*
*Песняй напоўнілі грудзі.*

*І немагчыма ступіць*
*Нам на мяжу адчужэння:*
*Цяжка, як цяжка любіць*
*Гуту майго пакалення,*

*Дзе ад яго і відно*
*Тое, што нам засталося —*
*Гэта крыштальнае дно*
*Самых высокіх нябёсаў.*

## Іван ЛАГВІНОВІЧ

### У Малькавічах вечарую

*Звяла вечаровая зара*
*нечапанай ганарлівай кветкай,*
*і на плот бляшаны звон вядра*
*пасля дойкі выліла суседка.*

*Пагудзеў да Лунінца цягнік,*
*пашумеў да Ганцавіч аўтобус.*
*Месяц, што над селішчам узнік,*
*нагадаў мне з нашай школы глобус.*

## Мікола АНТАНОЎСКІ

* * *

*Над высокім жытам — жаваронак,*
*А ў высокім жыце — васілёк,*
*І сузор’ем гаркаватых гронак*
*Арабіны свецяцца здалёк.*

*Капялюш зрывае пругкі вецер:*
*Выкінь, братка, гарадскі убор.*
*Тут цябе па-простаму прывецяць*
*Жаваронак, колас, светлы бор.*

*Капялюш здаўна тут не ў пашане,*
*Паважае поле картузы,*
*Бо чынілі полю пакаранні*
*Капялюш ды зрэдку маразы...*

*Патаемны зноў праб’ецца голас,*
*Славячы душэўную красу,*
*І — грашней знячэўку спляжыць колас,*
*І радней па ім журлівы сум.*

*Капялюш без жалю, без праклёнаў*
*Паляціць у жыта незнарок...*
*Над высокім жытам — жаваронак,*
*А ў высокім жыце — васілёк.*

## Ірына ДАРАФЕЙЧУК

* * *

*Зямля, што помніць крокі першыя*
*Маіх нясмелых босых ног,*
*К табе душой, дыханнем, вершамі*
*К табе, на любы твой парог,*
*Якога ўжо няма, да веснічак,*
*Да вокнаў з відам на лясы,*
*Да сумнай восеньскае велічы,*
*Да летняй звонкае расы...*

*Зямля, што помніць слова кожнае*
*Прызнанняў, песень, цішыні...*
*Зямля, што дні на ночы множыла,*
*І шчасцем поўніліся дні.*
*Зямля, што праставала сцежкамі*
*Ад босых ног і — да высноў...*
*Зямля, што павядзе да вечнасці*
*І прыме ў вечнасць без умоў.*

## Анатоль КУДЛАСЕВІЧ

* * *

*У кожнага свая Айчына.*
*Ад першых да апошніх дзён*
*У сэрцы кожнага —*
*бацькоўскі кут адзіны,*
*Ды кожны да чужых краёў жадзён,*
*Здаецца кожнаму, што недзе*
*на чужыне,*
*За светам, там*
*квітнее сад,*
*А ў садзе тым саспелыя ажыны,*
*І ловяць рукі небны зоркапад.*
*Амаль што кожны думкаю юначай,*
*Як птах, ляціць за небакрай,*
*Ды рэдка хто па старасці заплача*
*Ад выстылай духоўнай недастачы,*
*О, Божа, хоць за гэта не карай!*

## Святлана ЛОКТЫШ

* * *

*Не заві мяне незямною:*
*Я — не я без маёй зямлі.*
*Продкі гладзілі землю сахою*
*І ў яе потым самі ляглі.*

*Першы ўздых, першы крок дзіцячы*
*І “кахаю” упершыню,*
*Беды, радасці і нястачы —*
*Толькі з ёю адной дзялю.*

*Калі ж лёс перадам патомкам,*
*Тым закончу жыццёвы шлях:*
*Адыду — у зямлю,*
*і рамонкам*
*Узрасту на яе лугах.*

## Анатоль ТРАФІМЧЫК

* * *

*Цягнік наш у заўтра не йдзе.*
*Прыпынкі яго — не гады.*
*Турбуе пякучае “дзе?”,*
*Хвалюе пакутна “куды?”*

*Мне хочацца ведаць “чаму?”*
*Ніяк не спасцігнецца “як?”*
*І не абміну я чуму.*
*Нас цягне цягнік, а ці так?*

*Аднак я з гаротнай зямлі*
*Яшчэ паднімаюся ўвысь.*
*Каб толькі не знікла “калі?”,*
*Зрабіўшыся посным “калісь”.*

## Ала МІРЗАЛІЕВА

* * *

*Прыгожае ўзышло на п’едэстал.*
*І недарэчна цешыцца сцвярджэннем,*
*Што непаўторны твой духоўны стан*
*Каштоўней за мадоннаў Адраджэння.*

*Яны жывуць, глядзяць на нас з вякоў*
*Вачыма непрытворнай прыгажосці.*
*А нас, як толькі ўстыне ў жылах кроў,*
*Ці ўспомніць шчырым*
*добрым словам хтосьці?*

*Ды, веру, хтосьці ўспомніць. Хоць адзін,*
*Хоць брат, ці сябар, ці сусед калішні,*
*Што сціпла жыў, быў неблагі як сын*
*І што сярод паэтаў быў не лішні.*

*...І апяваў у вершах Прыгажосць.*
*Сцяжынку ж да вяршынь пакінуў іншым.*
*Тут кожны непаўторны, кожны — ёсць.*
*Не можа быць двух Дантэ ці да Вінчы.*

# Па-за межамі "правінцыйнасці"

Марына ВЕСЯЛУХА

**Брэсцкае выдавецтва "Паліграфіка", што ўжо некалькі год паспяхова працуе не толькі на рэгіянальным, але і на рэспубліканскім кніжным рынку, атрымала дыплом лаўрэата Міжнароднага конкурсу "Мастацтва кнігі" дзяржаў-удзельніц СНД у намінацыі "Садружнасць" — за кнігу "Брэсцкая крэпасць. Вайна і мір". Пагадзіцеся, вартая ўвагі падзея. Каб павіншаваць "Паліграфіку" з узнагародай, а таксама пагутарыць пра адметнасці выдавецкай дзейнасці ў рэгіёне, наш карэспандэнт сустрэлася з дырэктарам выдавецтва і аўтарам канцэпцыі і тэксту вышэйзгаданай кнігі Аляксандрам Суворавым.**



**— Аляксандр Міхайлавіч, раскажыце, калі ласка, крыху пра гісторыю і асноўныя кірункі працы "Паліграфікі".**

— Наша кампанія існуе ўжо некалькі гадоў. Выдавецкая дзейнасць прапісаная ў яе статуце першапачаткова, але насамрэч да пэўнага часу гэта была, так сказаць, рэзервовая графа. Усё змянілася ў 2009 годзе, калі вырашылі зрабіць выпуск літаратуры асноўным кірункам працы. Калі казаць пра кірункі выдавецкай дзейнасці, моцна спрашчаючы,— іх два. У адным знаходзіцца камерцыйная прадукцыя, і яна прыносіць нам прыбытак. Гэта, напрыклад, рэкламныя каталогі, праспекты, буклеты, іміджавыя і юбілейныя выданні, календары. Іншы аспект — кнігі і брашуры грамадскага фармату. Тут мала грошай, часам наадварот, фінансавыя страты, затое гэта цікава.

**— Ці адчуваеце вы як берасцейскае, па сутнасці, рэгіянальнае выдавецтва, канкурэнцыю са сталічнымі калегамі?**

— Вядома, адчуваем. Даўно мінулі тыя часы, калі сталічныя выдавецтвы займаліся выключна вялікімі праектамі, што маюць агульнарэспубліканскае гучанне. Выдавецкі рынак стаў больш шчыльным. Цяпер многія сталічныя выдавец-твы актыўна ідуць у рэгіёны. Варта наблізіцца юбілейнай даце якой-небудзь адносна буйной і вядомай кампаніі, першымі на гарызонце з прапановамі па "друкаванай падтрымцы" мерапрыемстваў узнікаюць прадстаўнікі сталічных выдавецтваў. У прынцыпе, гэта бізнес, таму крыўдаваць на чыюсьці хуткасць і поспех не зусім разумна. Іншая справа, калі людзі бяруць з кліентаў грошы, а выконваюць заказ па прынцыпе "для правінцыі і так добра". Зразумела, існуе і здаровая канкурэнцыя, якую мы толькі вітаем. Напрыклад, на рэгіянальным рынку актыўна працуюць сталічныя выдавецтвы, што займаюцца выпускам краязнаўчай літаратуры, кніг у сферы турызму.

**— Вашы кнігі запатрабаваныя толькі ў межах вобласці, краіны? Як наладжана распаўсюджванне прадукцыі?**

— Гэта Брэст, наша краіна і Расія. У апошнім выпадку прадукцыя экспартуецца стыхійна, самавывазам, ніякіх таваправодных каналаў у Расійскай Федэрацыі няма. У маштабе краіны выданні распаўсюджваюцца праз крамы "Белкнігі" або асобныя гандлёвыя прадпрыемствы, якія самі нас знаходзяць. У цэлым павінен прызнаць, што распаўсюджванне — самы слабы аспект дзейнасці выдавецтва. На жаль, няма часу надаць яму належную ўвагу.

**— У дзейнасці выдавецтва значная роля адводзіцца гістарычнай і краязнаўчай тэматыцы. Дзе чэрпаеце ідэі для новых праектаў у гэтай сферы?**

— Сапраўды, дагэтуль большасць выданняў з другога кірунку можна аднесці да краязнаўчых. Можна, але гэта будзе, мабыць, не зусім дакладна. Уся "фішка" ў тым, што нават тыя кнігі, у аснове якіх — адметны мясцовы матэрыял, — зробленыя з улікам правіл добрай гістарычнай публіцыстыкі. У гэтым, думаецца, наша канкурэнтная перавага. Іншае пытанне, што такая падача тэмы патрабуе зусім іншых высілкаў. Затое і прадукт атрымліваецца іншага ўзроўню — ён выходзіць за межы правінцыйнасці. Мы адразу разважаем, ці можа праект быць цікавы і прывабны для ўсіх гасцей рэгіёна, таму спрабуем знайсці нестандартныя рашэнні. Гэта тычыцца ўсяго: структуры выдання і графікі, жывой мовы, наяўнасці нейкіх схаваных парадоксаў і з'яў, унікальных акцэнтаў, раскрытых у расповедзе. Ідэі ж для новых праектаў нараджаюцца самі, калі вы любіце край, дзе нарадзіліся або жывяце, і з павагай ставіцеся да яго гісторыі.

**— А якімі кнігамі ганарыцеся больш за ўсё?**

— Шчыра кажучы, рэдка бывае, каб нейкі праект цалкам нас задавальняў. Заўсёды знаходзяцца нейкія "гузікі, не прышытыя да гарнітура". Але гэта зразумелыя творчыя пытанні. Ганарыцца можна было б, мусіць, кнігай "Брэсцкая крэпасць. Вайна і мір". Гэта цалкам наватарская праца. Дакладная, падрабязная, з выразнай унутранай арганізацыяй складанага матэрыялу, без затрымкі толькі на эпізодзе 1941 года. Мне як аўтару не сорамна, калі на форумах у Інтэрнэце яе называюць лепшым выданнем пра Брэсцкую крэпасць. На другое месца, мусіць, змясціў бы кнігу "На лініі агню. Воіны-інтэрнацыяналісты Брэсцкай вобласці ў афганскай вайне 1979 — 1989".

**— Падзяліцеся планамі на будучыню. Чаго варта чакаць ад "Паліграфікі" ў бліжэйшы час?**

— Планаў шмат, але на жаль, многія з іх паставіў пад знак пытання эканамічны крызіс. Усё-такі кнігі — не тавар першай неабходнасці, наш рынак знаходзіцца ў стане выжывання. Таму, дазвольце, я буду крыху забабонным і пра праекты пакуль распавядаць не стану.

**— У выдавецтве не так даўно пабачыла свет новая кніга пра Ганцавіцкую зямлю…**

— Так, яе асаблівасць перадусім у зноў-такі "неправінцыйным" падыходзе. Мы бачылі, з якой надзеяй і жаданнем дапамагалі нам мясцовыя жыхары ў правядзенні фотасесій, зборы матэрыялу… Таму імкнуліся зрабіць якасны прадукт — без скідак на "пасрэднасць" раёна, пра якую нам па ходу справы не раз то тут, то там казалі. Давайце думаць інакш: у Беларусі проста няма нецікавых і непрывабных месцаў! Спадзяюся, у нас усё-такі атрымалася паставіць планку вышэй, і з выхадам кнігі "Ганцаўшчына. Традыцыі шчодрай зямлі" будзе зададзены новы стандарт для выданняў, прысвечаных асобным раёнам краіны.

## *Прэзентацыя*

# Дарога да святынь



Юзэфа ВОЎК

У Пінскай рэгіянальнай друкарні не так даўно пабачыла свет выданне "Праваслаўныя храмы Ганцаўшчыны". Кніга, прысвечаная гісторыі 10 храмаў рэгіёна, стала вынікам творчага праекта "Святыні: Ганцаўшчына праваслаўная", над яе стварэннем працавалі работнікі Ганцавіцкай цэнтралізаванай бібліятэчнай сістэмы, навуковы супрацоўнік раённага краязнаўчага музея В. Герасіменя, настаўніца гісторыі Ганцавіцкай гімназіі Г. Шапялевіч. Аўтары гісторыка-дакументальных артыкулаў распавядаюць пра храмы, што знаходзяцца на тэрыторыі іх горада, вёсак. Але расповеды змяшчаюць і фотаздымкі, некаторыя з іх сапраўды рарытэтныя, датаваныя 1913, 1940 гадамі.

Выданне дапамагае прасачыць лёсы праваслаўных прыходаў рэгіёна, заўважыць агульныя ці, наадварот, адметныя рысы іх развіцця. Так, цэрквы Ганцаўшчыны (па сутнасці, як і іншых раёнаў Беларусі) маюць падобныя лёсы. У народзе існавала паданне, што ў мясцовасці быў храм. Ён звычайна быў драўляны, таму мог згарэць або падвергнуцца разбурэнню. Часам пра такія храмы ёсць пісьмовыя згадкі, часам толькі "ў народзе кажуць". Драўляныя цэрквы (некаторыя з іх захаваліся і сёння) адкрываліся ў XVIII ст. ці ў 1860-х гадах (царква Праабражэння Гасподняга ў вёсцы Будча), наступныя пакаленні вернікаў іх рамантавалі, надавалі больш сучасны выгляд. Храм маглі арганізаваць і ў звычайнай сялянскай хаце, а ўжо пазней ён перамяшчаўся ў паўнавартасны будынак царквы. Яшчэ адзін этап развіцця — будаўніцтва новых цэркваў у наш час. Гэта, у прыватнасці, царква ў імя свяціцеля Мікалая Цудатворца ў аграгарадку Малькавічы (1992 — 1994), Свята-Ціханаўскі храм у г. Ганцавічы (асвечаны ў 2005 годзе).

## *Нагода*

# З новай крамай!

**Да сённяшняга дня ў Ганцавічах не было сучаснай кнігагандлёвай кропкі, якая б адпавядала запытам пакупнікоў. І вось адбылося! ААТ "Белкніга" адкрывае тут свой кніжны павільён. Цяпер можна не сумнявацца ў тым, што патрэбы гараджан і вяскоўцаў у кніжнай прадукцыі будуць цалкам задаволены. Разнастайны асартымент, гнуткая цэнавая палітыка і шырокі спектр паслуг — вось несумненныя складнікі поспеху новай кнігагандлёвай кропкі.**

Кацярына СІМАН,
вядучы маркетолаг
ААТ "Белкніга"

Яркая шыльда найбуйнейшай беларускай кнігагандлёвай сеткі "Белкніга" ўспыхне 4 верасня над павільёнам у горадзе Ганцавічы па адрасе: вуліца Будаўнікоў, 8в. Пакупнікоў у гэты дзень чакаюць розныя конкурсы, цікавыя прызы, а таксама скідкі.

У павільёне ААТ "Белкніга" можна будзе набыць выданні рознай тэматычнай скіраванасці: мастацкія творы айчынных і замежных аўтараў, кнігі па мастацтве, фотаальбомы пра гарады і прыродныя запаведнікі Беларусі, дзіцячую, вучэбна-метадычную, навукова-папулярную літаратуру, даведнікі і энцыклапедыі. Таксама будуць прадстаўлены гульні, якія дапамагаюць развіваць дзяцей, атласы, календары, паштоўкі, канцылярскія тавары і многае іншае. Пакупнікоў сустрэнуць кваліфікаваныя і ветлівыя прадаўцы, якія дапамогуць вызначыцца з выбарам. А пры адсутнасці кнігі з радасцю дапамогуць пакінуць на яе заказ.

Запрашаем не толькі наведаць новы кнігагандлёвы павільён падчас Дня беларускага пісьменства, але і стаць пастаяннымі і любімымі пакупнікамі.

# Авторская книга? Зелёную улицу!

**В эпоху всеобщей грамотности практически каждого время от времени посещает желание оставить на бумаге свои мысли, эмоции, послание потомкам. Иногда материала набирается на целую книгу. Она вполне может состояться, если вы, услышав волшебные слова “маленький тираж”, обратитесь в частное издательство А. Н. Вараксина.**



*На фото: издатель Алексей Вараксин.*

Ольга ПАВЛЮЧЕНКО

**— Алексей Николаевич, сколько лет существует издательство?**

— Уже более пяти лет мы работаем в этом сегменте. И верны цели, для которой всё затевалось, — изданию малотиражной литературы. Назовём такую книгу, вышедшую в количестве от 20 до 300—500 экземпляров, авторской.

> *Главное направление — выпуск современной литературы, начинающих авторов, творчество которых находится в процессе становления, далеко не бесспорно, иногда эпатажно.*

**— С каких проектов начинали?**

— Издавали книги по истории, научную литературу. Перед тем, как основать издательство, я сотрудничал с Институтом социологии НАН Беларуси. Он и был нашим первым заказчиком. Мы издали много интересных работ, среди которых и справочник “Наука Республики Беларусь”. Познакомившись с первыми изданиями, стали приходить авторы, не только из числа тех, чьи работы рекомендовал к публикации Учёный совет, но и люди науки, которые что-то писали для души. (Причём приходили без всякой рекламы.) Чаще издавали сборники поэзии, реже — прозу, ещё реже — драматургию. Не всегда это были одинаково интересные проекты. С одной стороны, частное издательство — сторона материально заинтересованная, но иногда приходится отказывать, если рукопись не соответствует определённым критериям. В остальных случаях стремимся придать произведению литературную форму.

**– А какие авторы для вас образец?**

– Бродский, Ахматова, Цветаева, Мандельштам, Булгаков. Но мы с уважением относимся к каждой предложенной рукописи. Поэтому отказываем не часто.

Книга, кем бы она ни была написана, — памятник тому времени, в котором человек живёт: с его идеалами, устремлениями, волнениями… Согласитесь, уже через десять лет интересно сравнить то, что было, с тем, что происходит теперь. Например, как в 1990-е описывали природу.

**— Какие коррективы внесло в издательскую деятельность время?**

— Продумали несколько направлений, которые должны были обеспечить издательству “подушку”: первоначально планировали стать базой для издания собственного научного и художественного творчества, допечаток циркуляров, учебников и т.п. Но, поскольку мы — частное издательство, государственных заказов на допечатку учебников так и не получили. А ведь эти книги теряются, портятся, и допечатывать их большими тиражами нет смысла.

Планировали также, что можем тиражировать раритетные издания для фондов библиотек. Ведь есть масса редких книг и документов, которые не могут быть выданы непосредственно читателю. А с изданными копиями можно было бы спокойно работать. Труды, которые, например, сегодня есть только в фондах Национальной библиотеки Беларуси, могли бы появиться даже в районных.

Выживаем за счёт людей, которые хотят издать собственные книги. Главное направление — выпуск современной литературы, начинающих авторов, творчество которых находится в процессе становления, далеко не бесспорно, иногда эпатажно. (Одним из условий вступления в Союз писателей Беларуси является наличие одной-двух изданных книг. Неизвестному автору в крупное издательство пробиться крайне сложно, а у нас вполне реально.)

**— Малый тираж — это…**

— Оптимальный тираж издания — от 100 до 250 экземпляров. Формат чаще всего А5, в мягкой обложке, плотность бумаги — 60—65. От поступления рукописи до выхода в свет — около двух месяцев. Цена приемлемая. Сроки и стоимость выгодно отличают нас от других издательств.

В этом диапазоне книга стоит столько, что её без страха можно отдать на реализацию в книготорговую сеть. И в том случае, если она не пользуется спросом, книга не будет загромождать квартиру, а без проблем разойдётся в качестве подарка родным и друзьям.

Полагаю, когда-нибудь осуществится и ещё один из задуманных проектов — издавать историографии семей. Возрастает интерес к своим корням, хорошо, если станет традицией оставлять книгу для потомков. На помощь могут прийти и журналисты, и архивисты — те, кто умеет с подобной информацией работать, делать аналитические выкладки. Раньше это могли позволить себе только власть имущие. Сегодня — у всех желающих есть такая возможность.

Интересным было бы издание истории любой организации, которая существует 10—20 лет. Почему бы не поделиться успешным опытом работы?

**— Алексей Николаевич, если бы не Интернет, у издательства было бы больше заказчиков?**

— Интернет — не конкурент, а наш помощник.

Это искушение — сразу взять и обнародовать мысль, которая пришла в голову. Книга предполагает вдумчивый подход, мысли взвешенные. Одно дело — выдать что-то моментально, ярко, спонтанно, другое — опубликовать то, под чем не стыдно прочесть свою подпись через определённый промежуток времени. У многих авторов, выложивших свои труды в Интернете, остаётся желание запечатлеть их на бумажном носителе. Ведь по сути интернет-публикация — мотылёк-однодневка: красиво, но нужно специально отыскивать и коллекционировать. Так что через виртуальные публикации находим поэтов, прозаиков, психологов — треть наших издательских проектов.

**— Поэзия — моментальное фото сегодняшнего дня. Проза молодых — тоже, при отсутствии у них жизненного опыта. Идут ли к вам люди, уже состоявшиеся как профессионалы?**

— Да. Кто-то из авторов не хочет ожидать очереди на опубликование произведения в литературных журналах (которых у нас куда меньше, чем желающих напечататься). Издаём произведения членов Союза писателей Беларуси. Сейчас, например, работаем над изданием четырёхтомника Юрия Юлова “Мужская интеллектуальная фантазия”. В него войдут как хорошо известные читателям белорусских литературных журналов и сборников прозы, так и ранее не публиковавшиеся произведения этого интересного автора.

Некоторое время издавали дайджест “Деды”, где могли высказатьсяисторики, политики, обществоведы. Издаём и литературно-художественный журнал “Белая вежа”, в сентябре выйдет его третий номер.

Много пособий для обучения игре на народных инструментах. Как пример — “Школа игры на цимбалах”. Наша гордость — “Музыкальная литература. Хрестоматия 2-й половины XX века” (составитель — Валерий Каретников) и учебник “Музыкальная литература” (за работу над ним особенно благодарны Карелии Степанцевич). Постоянно сотрудничаем с гродненским автором методик по обучению музыке, хоровому искусству, музыкальной графике Инессой Двужильной.

Тематика наших изданий достаточно разнообразна. Есть и такие книги, как о переработке сахарной свёклы Николая Красюка. Приятно было, что нас искренне благодарили люди, которым мы её тираж отгружали. Думаю, пособий такого плана появится ещё много — это актуальное направление для нашей республики.

Традиционно область наших интересов — литература и история. Один из сотрудников отыскал “Скифскую историю XVI века” Андрея Лызлова, на которую любят ссылаться приверженцы диаметрально противоположных точек зрения на происхождение белорусского этноса. Мы издали её без комментариев и перевода, которые могут быть тенденциозными. Теперь, пожалуйста, ссылаясь, назови страницу — и пусть читатель обратится к оригиналу.

Считаем, что мемуары Изы Заслоновой “Повесть об отце” (Герое Советского Союза, награждённом двумя орденами Ленина и медалями, Константине Заслонове, легендарном руководителе подпольной организации в Орше во время Великой Отечественной войны) могли бы иметь больший тираж.

Требует системного осмысления и литература воевавших в Афганистане. Издаём отдельные книги памяти воинов-интернационалистов. Иногда сборники объединяют творчество тех,

> *Полагаю, когда-нибудь осуществится и ещё один из задуманных проектов — издавать историографии семей. Возрастает интерес к своим корням, хорошо, если станет традицией оставлять книгу для потомков. На помощь могут прийти и журналисты, и архивисты — те, кто умеет с подобной информацией работать, делать аналитические выкладки.*

кто проживает в одном районе города Минска. А вот издания, в которые были бы включены воспоминания ветеранов всей республики, нет. А ведь для художественного воплощения нужен достаточный документальный материал, свидетельства очевидцев.

**— Где продаётся продукция вашего издательства?**

— В основном её реализацией занимаются сами авторы — преподаватели в учреждениях, авторы — во время выступлений перед зрителями. Иногда, конечно, книги появляются в магазинах. К сожалению, в наших книжных нет разделов авторской книги. Нет специального магазина, как в Санкт-Петербурге, “Буквоед” — там стоят книги, тираж которых может составлять даже 10 экземпляров. По каталогу можно найти книгу по теме, автору.

С крупными интернет-магазинами не работаем — их интересуют только большие тиражи. Но от освоения “всемирной паутины” не отказались: начали сотрудничать с небольшим виртуальным книжным магазином, посмотрим, что из этого выйдет.

**Жураўлёў, В. П.** Класіка і літаратурная сучаснасць: духоўны патэнцыял чалавека / В. П. Жураўлёў; [навуковы рэдактар У. В. Гніламёдаў]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы. — Мінск: Беларуская навука, 2011. — 242 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-08-1266-7.

**Контексты мировой литературы**: сборник научных статей / Министерство образования Республики Беларусь, Полоцкий государственный университет; [редколлегия: Д. А. Кондаков (отв. ред.) и др.]. — Новополоцк: ПГУ, 2011. — 379 с. — Часть текста на белорусском языке. — 99 экз. — ISBN 978-985-531-205-6.

**Полная хрестоматия для начальной школы**: 1-й класс / [автор-составитель Николай Владимирович Белов]. — Минск: Харвест, 2011. — 383 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-6618-4 (в пер.).

**Полная хрестоматия для начальной школы**: 4-й класс / [автор-составитель Николай Владимирович Белов]. — Минск: Харвест, 2011. — 383 с. — 5000 экз. — ISBN 978-985-16-6621-4 (в пер.).

**Христианский гуманизм и его традиции в славянской культуре**: сборник научных трудов / Министерство образования Республики Беларусь, Гомельский государственный университет им. Франциска Скорины; [редколлегия: Т. Н. Усольцева (главный редактор), И. Н. Афанасьев, Н. В. Суслова]. — Гомель: ГГУ, 2009– — ISSN 2223-1579.

Вып. 3. — 2011. — 249 с. — Часть текста на белорусском и украинском языках. — 50 экз.

**Чтение: рецепция и интерпретация**: сборник научных статей: в 2 ч. / Министерство образования Республики Беларусь, Гродненский государственный университет им. Янки Купалы; [редколлегия: Т. Е. Автухович (отв. ред.) и др.]. — Гродно: ГрГУ, 2011. — 180 экз. — ISBN 978-985-515-410-6.

Ч. 1. — 447 с. — Часть текста на белорусском, украинском и французском языках. — ISBN 978-985-515-411-3.

Ч. 2. — 446 с. — Часть текста на белорусском и украинском языках. — ISBN 978-985-515-419-9.

**Juventus in litteratura**: материалы 68-й студенческой научной конференции БГУ, Минск, 27 апреля 2011 г.: [тезисы докладов] / Белорусский государственный университет, Филологический факультет, Кафедра зарубежной литературы. — Минск: РИВШ, 2011. — 51 с. — Часть текста на белорусском языке. — 50 экз. — ISBN 978-985-500-462-3.

### Беларуская літаратура

**Лазарук, М. А.** Беларуская літаратура: вучэбны дапаможнік для 8-га класа ўстаноў агульнай сярэдняй адукацыі з беларускай і рускай мовамі навучання / М. А. Лазарук, В. І. Русілка, І. М. Слесарава. — Мінск: Нацыянальны інстытут адукацыі, 2011. — 358 с. — 113500 экз. — ISBN 978-985-465-859-9 (у пер.).

**Максімовіч, В. А.** Шляхам спазнання існасці: літаратурны працэс другой паловы XIX – пачатку XXI ст. у постацях / В. А. Максімовіч; [навуковы рэдактар У. М. Конан]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут філасофіі. — Мінск: Беларуская навука, 2011. — 237 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-08-1274-2.

**Пра час "Узвышша"**: матэрыялы Узвышаўскіх чытанняў ... / [навуковы рэдактар М. І. Мушынскі]. — Мінск, 2002–

Вып. 5: (Мінск, 2008–2010). — РІВШ, 2011. — 307 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-500-459-3.

**Творчасць Янкі Купалы – духоўны і эстэтычны феномен**: IX Міжнародныя Купалаўскія чытанні: матэрыялы навуковай канферэнцыі (14 кастрычніка 2009 г.), [Мінск / рэдкалегія: В. П. Рагойша (галоўны рэдактар), А. Р. Мацевасян, А. С. Дражына]. — Мінск: Чатыры чвэрці, 2011. — 155 с. — 50 экз. — ISBN 978-985-6981-59-6.

### Беларуская мова

**Беларуская лінгвістыка** / Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы. — Мінск: Беларуская навука, 1972— ISSN 0320-7552.

Вып. 66 / [рэдкалегія: А. А. Лукашанец (галоўны рэдактар) і інш.]. — 2011. — 167 с. — Частка тэксту на рускай мове. — 130 экз.

**Беларуская мова**: 5-ты клас: выкананыя практыкаванні прыведзены да падручніка «Беларуская мова. 5 клас» у 2 ч. для агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання аўтараў В. П. Краснея [і інш. / складальнік: Г. У. Важнік]. — Мінск: Юнипресс, 2011. — 191 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-532-217-6.

**Беларуская мова**: 6-ты клас: выкананыя практыкаванні прыведзены да вучэбнага дапаможніка для 6-га класа агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання аўтараў В. П. Краснея, Я. М. Лаўрэля, С. Р. Рачэўскага «Беларуская мова» / [складальнік Т. Ф. Пінчук]. — Мінск: Юнипресс, 2011. — 254 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-532-618-3.

**Беларуская мова**: 7-мы клас: выкананыя практыкаванні да вучэбнага дапаможніка «Беларуская мова. 7 клас» аўтараў Г. М. Валочкі, С. А. Язерскай / [складальнік А. А. Тарайковіч]. — Мінск: Юнипресс, 2011. — 206 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-532-631-2.

**Беларуская мова**: 8-мы клас: выкананыя практыкаванні да вучэбнага дапаможніка «Беларуская мова. 8 клас» аўтараў: З. І. Бадзевіч, І. М. Саматыя / [складальнік Т. Ф. Пінчук]. — Мінск: Юнипресс, 2011. — 239 с. — 4000 экз. — ISBN 978-985-532-619-0.

## Чытальная зала

# Казкі — на дзвюх мовах



У Еўропе, і не толькі, ужо даўно стала тэндэнцыяй выдаваць папулярную кнігу ў тым жа афармленні, але перакладзеную на іншую мову. Два зборнікі самага любімага дзіцячага чытання "Залатая кніга казак" (у беларуска- і рускамоўным варыянтах), што пабачылі свет у 2011 годзе ў выдавецтве "Харвест", гэтую тэндэнцыю падтрымліваюць. Цяпер і ў бацькоў, і ў педагогаў дашкольных устаноў ёсць выдатны выбар — чытаць казкі па-беларуску або па-руску. У літаратурнай апрацоўцы прадстаўлены папулярныя ўзоры народнай творчасці "Як Васіль змея адолеў", "Кот і Ліса", "Пра дзікую Качку", "Як Мыш жаніха выбірала", "Як Заяц Варону выратаваў" і іншыя. Іх герояў ужо добра ведаюць дашкольнікі і малодшыя школьнікі. Зборнік казак на беларускай мове крыху адрозніваецца ад рускага варыянта. Ілюстрацыяй на вокладцы — у першую чаргу. І яшчэ некаторымі дэталямі: напрыклад, казка "Як Ян змея адолеў" змяніла героя. У беларускай кніжцы на дужанне з пачварай выйдзе не "просты вясковы мужычок Ян", а "просты вясковы мужык Васіль". Так сказаць, для нацыянальнага каларыту. Ва ўсім астатнім — афармленні, шрыфце — поўнае супадзенне. Сярод герояў і рускай, і беларускай складанкі на форзацы — шэранькі Вослік, які сватаўся да пераборлівай Мышы разам з Пеўнем, Качарам і Сабакам. Зрэшты, чаго ў казках толькі не бывае.



**Вольга НОРЫНА**

**Беларуская мова**: 8-мы клас: выкананыя практыкаванні да вучэбнага дапаможніка «Беларуская мова. 8 клас» аўтараў: З. І. Бадзевіч, І. М. Саматыя / [складальнік Т. Ф. Пінчук]. — Мінск: Юнипресс, 2011. — 206 с. — 3100 экз. — ISBN 978-985-532-632-9.

**Бобла, І. М.** Пропісь, 1: [вучэбны дапаможнік для 2-га класа першага аддзялення дапаможнай школы з беларускай мовай навучання] / І. М. Бобла, М. В. Лятошка, Ф. І. Шалабасава. — Мінск: Вышэйшая школа, 2011. — 47 с. — 1087 экз. — ISBN 978-985-06-1939-6.

**Бобла, І. М.** Пропісь, 2: [вучэбны дапаможнік для 2-га класа першага аддзялення дапаможнай школы з беларускай мовай навучання] / І. М. Бобла, М. В. Лятошка, Ф. І. Шалабасава. — Мінск: Вышэйшая школа, 2011. — 47 с. — 1087 экз. — ISBN 978-985-06-1940-2.

**Бобла, І. М.** Пропісь, 3: [вучэбны дапаможнік для 2-га класа першага аддзялення дапаможнай школы з беларускай мовай навучання] / І. М. Бобла, М. В. Лятошка, Ф. І. Шалабасава. — Мінск: Вышэйшая школа, 2011. — 47 с. — 1087 экз. — ISBN 978-985-06-1941-9.

**Красней, В. П.** Беларуская мова: тэставыя заданні для 5-га класа: дапаможнік для вучняў агульнаадукацыйных устаноў з беларускай і рускай мовамі навучання: у 2 ч. / В. П. Красней, Я. М. Лаўрэль. — Мазыр: Белы Вецер, 2011. — ISBN 978-985-538-166-3.

Ч. 1. — 2011. — 46 с. — 813 экз. — ISBN 978-985-538-167-0.

**Сівіцкая, Н. В.** Назвы адзення ў гаворках беларускай мовы / Н. В. Сівіцкая; [навуковы рэдактар Л. П. Кунцэвіч]; Нацыянальная акадэмія навук Беларусі, Інстытут мовы і літаратуры ім. Якуба Коласа і Янкі Купалы. — Мінск: Беларуская навука, 2011. — 214 с. — 300 экз. — ISBN 978-985-08-1275-9.

**Смольская, Т. М.** Беларуская мова. Юрыдычная лексіка: вучэбны дапаможнік для студэнтаў вышэйшых навучальных устаноў па юрыдычных спецыяльнасцях / Т. М. Смольская, Л. У. Хрышчановіч. — Мінск: РІВШ, 2011. — 239 с. — 600 экз. — ISBN 978-985-500-442-5.

### Мастацкая літаратура на асобных мовах. Нямецкая літаратура

**Rasanau, A.** Der Mond denkt, die Sonne sinnt: Wortdichte / Ales Rasanau. — Minsk: Lohvinau, 2011. — 110 с. — На нямецкай мове. — 500 экз. — ISBN 978-985-6991-30-4.

Разанаў, А. Месяц думае, сонца разважае

### Французская літаратура

**Растан, Э.** Сірано дэ Бержарак: гераічная камедыя ў 5 дзеях: у 2 кн.: пераклад з французскай мовы / Эдмон Растан; [пераклад з рускай мовы Каяновіча С. С.]. — Мінск: Печанко А. Г., 2011– — ISBN 978-985-7008-15-5.

Кн. 1: 1–2 дзеі. — 2011. — 135 с. — 30 экз. — ISBN 978-985-7008-16-2.

### Руская літаратура

**Пастарнак, Б. Л.** Доктар Жывага: [раман] / Барыс Пастарнак. Лёс чалавека: [апавяданні] / Міхаіл Шолахаў. Адзін дзень Івана Дзянісавіча: [апавяданне] / Аляксандр Салжаніцын: [да зборніка ў цэлым: укладанне і пераклад з рускай мовы Андрэя Каляды]. — Мінск: Логвінаў І. П., 2011. — 480 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-6991-23-6.

**Ряшенцев, Ю. Е.** Когда мне было лет семнадцать...: [мемуарная проза и поэтические произведения] / Юрий Ряшенцев. — Минск: Ковчег, 2011. — 285 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7006-17-5 (в пер.).

**Слово и дух: антология русской духовной поэзии (X–XX вв.)** / составление, подготовка текстов, вступительная статья и комментарии И. А. Чароты. — Минск: Свято-Елисаветинский женский монастырь в г. Минске, 2010. — 702, с. — Содержит авторов: Аверинцев С., Адамович Г., Аксаков И., Ананичев А., Анастасия (Шерешевская), монахиня, Андреев Д., Антоний, архиепископ Западно-Американский и Сан-Францисский, Антония (Берг), монахиня, Апухтин А., Арсений, иеромонах, Артемов В., Афанасий, игумен Брестский, Ахматова А., Байков Н., Балашов Э., Бальмонт К., Батюшков К., Бенедиктов В., Бехтеев С., Блок А., Бобринская В., Богатырев В., Богданович И., Боков В., Бородин Л., Брюсов В., Бунин И., Варлей Н., Варсонофий (Плеханков), схиархимандрит, Васильев А., Введенский В., священник, Верстаков В., Веселовская Н., Викулин Н., Владимир (Сабодан), митрополит, Волошин М., Всеволод (Филипьев), инок, Вяземский П., Ганецкий Е., Георгий (Конисский), архиепископ, Гермоген, епископ, Гиппиус З., Глинка Ф., Глушкова Т., Голенищев-Кутузов И., Горбовский Г., Городецкий С., Горчак С., священник, Гумилев Н., Гурьянов Н., протоиерей, Державин Г., Димитрий, митрополит Ростовский, Дмитриев И., Дудко Д., священник, Евграфов П., Есенин С., Жадовская Ю., Жемчужников А., Жуковский В., Жураковский А., священник, Заболоцкий Н., Забрудный В., священник, Запольский М., Золотцев С., Иванов В., Ивнев Р., Игнатий (Брянчанинов), епископ Кавказский и Черноморский, Иларион, митрополит Киевский, Иустин, епископ Рязанский, К. Р. (великий князь К. Романов), Казанцев В., Карамзин Н., Карташева Н., Кедрин Д., Кирилл, епископ Туровский, Клюев Н., Козлов И., Кольцов А., Коняев Н., Коринфский А., Костров В., Крылов И., Кублановский Ю., Кузнецов С., Кузнецов Ю., Куняев С., Куприянов В., Кюхельбекер В., Лермонтов М., Логвинов А., священник, Ломоносов М., Лошиц Ю., Ляпин И., Ляпустин С., Майков А., Макарий (Глухарев), архимандрит, Макаров А., Мамонтов В., Мандельштам О., Мария (Кузьмина-Караваева Е. Ю.), мать, Марков А., Мей Л., Мельников А., Мережковский Д., Михайловский В., священник, Мозгалов К., Набоков В., Надсон С., Нафанаил (Львов), архиепископ, Неволин А., Недогонов А., Нежданов В., диакон, Некрасов Н., Несмелов А., Никитин И., Николаева О., Пастернак Б., Петр (Михайлов), монах, Плещеев А., Погодин М., Покровский П., священник, Полежаев А., Полонский Я., Прасолов А., Прокофьев А., Пушкин А., Ребров А., Розенгейм М., Роман, иеромонах, Ростопчина Е., Рубцов Н., Рыленков Н., Рысков В., Савва, схиигумен, Савин И., Священник-исповедник, Северянин И., Серафим Вырицкий, старец, Серафим Святогорец, монах, Сидоров В., священник, Симеон Полоцкий, Славинецкий Е., иеромонах, Случевский К., Смертина Т., Соловьев В., Сологуб Ф., Солодовников А., Сорокин В., Спринчан Б., Спринчан В., Стефанович Н., Странник (архиепископ Иоанн (Шаховской)), Ступин Г., Сумароков А., Сухов Ф., Суховский В., Таисия (Леушинская), игумения, Тарковский А., Тихон (Черных), монах, Толстой А. К., Трохин А., диакон, Тряпкин Н., Тургенев И., Тютчев Ф., Уваров Н., священник, Федотов В., Феофан (Прокопович), архиепископ Новгородский, Фет А., Филарет (Дроздов), митрополит Московский и Коломенский, Филимон Валаамец, игумен, Флоренский П., священник, Фофанов К., Фролов Г., Хабаров О., Херасков М., Ходасевич В., Хомутов С., Хомяков А., Цветаева М., Чеканов Е., Черкашин В., Чумина О., Шаламов В., Шелехов М., Шенина А., Щербина Н., Языков Н., Яшвиль Вл. Гр., князь, Яшин А. — 3000 экз. — ISBN 978-985-6886-46-4 (в пер.). — ISBN 985-68-86-46-4 (ошибоч.).

### Літаратура Беларусі на рускай мове

**Белова, В. С.** Любовь остается: стихи и рассказы / Владислава Белова; [автор предисловия Мария Шевченок]. — Гродно: Гродненская типография, 2011. — 143 с. — Часть текста на белорусском языке. — 200 экз. — ISBN 978-985-6835-89-9.

**Бондаренко, Л. Д.** До последнего дыхания: стихотворения / Людмила Бондаренко. — Минск: Ковчег, 2011. — 148 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-7006-21-2.

**Воронов, И.** Выбора нет: роман / Игорь Воронов. — Минск: Книжный Дом, 2011. — 383 с. — 2050 экз. — ISBN 978-985-17-02-96-7 (в пер.).

**Воронов, И.** На грани реальности: роман / Игорь Воронов. — Минск: Книжный Дом, 2011. — 382 с. — 2050 экз. — ISBN 978-985-17-0295-0 (в пер.).

**Воронов, И.** Напарники: роман / Игорь Воронов. — Минск: Книжный Дом, 2011. — 382 с. — 2050 экз. — ISBN 978-985-17-0294-3 (в пер.).

**Воронов, И.** Расплата: роман / Игорь Воронов. — Минск: Книжный Дом, 2011. — 381 с. — 2050 экз. — ISBN 978-985-17-02-97-4 (в пер.).

**Гаврилов, В. И.** Далекие берега: [сборник фантастических произведений] / Вадим Гаврилов. — Минск: Белпринт, 2011. — 238 с. — 100 экз. — ISBN 978-985-459-213-8.

**Гринчик, Ю. Н.** Истерика истины: стихи, рассказы / Юрий Гринчик. — Минск: Печенко А. Г., 2011. — 67 с. — 99 экз. — ISBN 978-985-7008-13-1.

**Груздов, А.** Операция «Терминал»: роман / Аркадий Груздов, Елена Конышева. — Минск: Букмастер, 2011. — 284 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-002-0 (в пер.).

**Груздов, А.** Остров: роман / Аркадий Груздов, Елена Конышева. — Минск: Букмастер, 2011. — 252 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-004-4 (в пер.).

**Груздов, А.** Переговорщик: роман / Аркадий Груздов, Елена Конышева. — Минск: Букмастер, 2011. — 251 с. — 3050 экз. — ISBN 978-985-549-003-7 (в пер.).

**Дюбайло, Е. М.** Желтый город / Елена Дюбайло. — Минск: Минская фабрика цветной печати, 2011. — 143 с. — 3000 экз. — ISBN 978-985-454-594-3.

**Кружева полесских зарниц**: сборник стихов и прозы / Литературное объединение «Струмень»; [составитель М. И. Ляшук]. — Брест: Альтернатива, 2011. — 246 с. — Часть текста на белорусском языке. — 316 экз. — ISBN 978-985-521-229-5.

**Латушкин, А. К.** Тем, кто в Спасителя верит: стихи / Александр Латушкин. — Слоним: Слонимская типография, 2011. — 95 с. — 700 экз. — ISBN 978-985-6602-87-3.

**Лучшие армейские анекдоты**. — Минск: Букмастер, 2011. — 63 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-549-014-3.

**Лучшие медицинские анекдоты**. — Минск: Букмастер, 2011. — 63 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-549-015-0.

**Лучшие офисные анекдоты**. — Минск: Букмастер, 2011. — 63 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-549-017-4.

**Лучшие студенческие анекдоты**. — Минск: Букмастер, 2011. — 63 с. — 5050 экз. — ISBN 978-985-549-016-7.

**Марчук, Г. В.** Глаза и сон: роман / Георгий Марчук. — Минск: Букмастер, 2011. — 251 с. — 2050 экз. — ISBN 978-985-549-001-3 (в пер.).

**Микульчик, С. Н.** Бокал любви: песни, стихи / Сергей Микульчик. — Минск: Печенко А. Г., 2011. — 135 с. — 500 экз. — ISBN 978-985-7008-31-5.




## Кнігарня «Акадэмкніга», г. Мінск
## Кнігі беларускіх выдавецтваў

1. Александр Локотко и др. Туристическая мозаика Беларуси. — Минск: Беларуская навука, 2011.
2. Белорусская свадьба: тайные ключи семейного счастья. — Минск: Адукацыя і выхаванне, 2011.
3. Людміла Дучыц, Ірына Клімковіч. Сакральная геаграфія Беларусі. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011.
4. Беларуская літаратурная спадчына: анталогія. У 2 кн. Кн. 1. — Мінск: Беларуская навука, 2011.
*У першай кнізе анталогіі прадстаўлены тэксты найбольш каштоўных фальклорных і літаратурных помнікаў: ад твораў вуснай народнай творчасці і сярэднявечнай літаратуры да літаратуры XX ст. Літаратурныя тэксты суправаджаюцца сціслымі звесткамі пра аўтараў, каментарыямі да твораў, ілюстрацыямі. Разлічана на выкладчыкаў літаратуры, вучняў, абітурыентаў і студэнтаў, а таксама ўсіх, хто цікавіцца беларускай літаратурай і культурай.*
5. И. Ю. Воронкова. "Двадцать второго июня, ровно в четыре часа…" Минск и минчане в первые дни Великой Отечественной войны. — Минск: Беларуская навука, 2011.
6. Ніл Гілевіч. Збор твораў. — Мінск: Пантограф, 2010.
7. Юрий Татаринов. Города Беларуси. — Минск: Смэлток, 2010.
8. Беларускія байкі. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011.
9. Залатая кніга казак. — Мінск: Харвест, 2011.
10. Культура Беларусі: энцыклапедыя. Т. 2. — Мінск: Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2011.

## Кнігі расійскіх выдавецтваў

1. Фёдор Достоевский. Преступление и наказание. — Москва: АСТ, 2011.
2. Эрих Мария Ремарк. Триумфальная арка. — Москва: АСТ, 2010.
3. Павел Санаев. Похороните меня за плинтусом. — Москва: АСТ, 2010.
4. Анна Гавальда. Утешительная партия игры в петанк. — Москва: АСТ, 2011.
5. Пауло Коэльо. Алхимик. — Москва: АСТ, 2010.
6. Михаил Веллер. Легенды Невского проспекта. — Москва: АСТ, 2010.
7. Габриэль Гарсия Маркес. Сто лет одиночества. — Москва: АСТ, 2011.
8. Эдуард Тополь. Ты самая любимая. — Москва: АСТ, 2011.
9. Михаил Веллер. Мишахерезада. — Москва: АСТ, 2011.
10. Харуки Мураками. 1Q84 (тысяча невестьсот восемьдесят четыре) в 2-х т. — Москва: Эксмо, 2011.

**ДОРОГИЕ ЧИТАТЕЛИ!**

**Если вы хотите продать книгу из вашей домашней библиотеки или купить нужное вам издание, приложение "Кніжны свет" — к вашим услугам.**

**Заполните купон для бесплатного частного объявления о продаже или желании покупки книг, печатных периодических изданий.**

**ПРИМЕЧАНИЕ:** *объявления принимаются только при наличии вырезанного купона, а не его ксерокопии.*

Паэзія — настолькі прасветлена-лірычная, што калі знаёмішся з ёю, уражанне такое, быццам яна ўвабрала ў сябе ўсю пяшчоту Палесся з ягонай нерушавасцю і багаццем гэтага краю на добрых і шчодрых людзей.

Проза — тая ж лірычнасць, але з філасофскай засяроджанасцю, дзякуючы якой ва ўсёй шматграннасці, непаўторнасці зноў жа спасцігаеш усю пяшчоту і багацце Палесся і ягоных жыхароў палешукоў, якія, калі захочуць, любога беларуса могуць заткнуць за пояс.

Дзіцячыя творы — такое багацце фантазіі, што аж но дзіву даешся. А яшчэ ж яны прасякнуты тонкім гумарам, які час ад часу высвечваецца дыяментамі-іскрынкамі. Гэткім жа гумарам, дарэчы, напоўнены і шмат якія ягоныя празаічныя творы.

Публіцыстыка — нязменная выразнасць жыццёвай пазіцыі. Ён, у параўнанні з іншымі, не трыбун, аднак яго і маўчуном не назавеш: бярэцца за пяро публіцыста толькі тады, калі проста не можа не выказаць сваё стаўленне да таго, што адбываецца ў грамадстве.

Пераклады — нязменная павага да аўтара, да арыгінала, але разам з тым гэта і ўменне прыўнесці і тое сваё, што, не адмаўляючы таленту таго, каго пераўвасабляеш па-беларуску, дае магчымасць у нечым раскрыцца і ўласнаму таленту.

Гэта ўсё — Віктар Гардзей. І, бадай, нічога больш дадаваць не трэба.

**Алесь МАРЦІНОВІЧ,**
**лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь**

# Вёска самоты маёй...

**Чытачам “ЛіМа”, дарэчы, як і шматлікім гасцям свята беларускага пісьменства, асабліва не варта прадстаўляць Віктара Гардзея — вядомага паэта, празаіка і публіцыста, дзіцячага пісьменніка. Многія знаёмы з яго цудоўнымі вершамі, апавяданнямі, аповесцямі, раманам “Бедна басота”, які выклікаў шырокі чытацкі рэзананс. За кнігу аповесцей “Уратуй ад нячыстага” аўтару прысуджана Літаратурная прэмія імя Івана Мележа.**



**Уладзімір БАЦКАЛЕВІЧ,**
**фота Кастуся Дробава**

***— Віктар Канстанцінавіч, нашым чытачам цікава было б ведаць, як яны спалучаюцца ў рэальным жыцці — высокі паэтычны “штыль” і “пагарджаная”, як казаў Пушкін, проза?***

— Акурат на гэтае пытанне адказваць цяжка, таму што вельмі шмат часу, амаль два дзесяцігоддзі, у мяне заняла праца над вершаванай “Малой дзіцячай Чырвонай кнігай”, якая, нарэшце, пабачыла свет у выдавецтве “Беларусь” у двух тамах (фаўна і флора) і, здаецца, мае выключны поспех у маленькіх чытачоў. Зразумела, і “дарослыя” вершы, і проза неяк самі па сабе адышлі на іншы план, хоць не сказаць, што я пра іх забыў зусім. Усё вяртаецца на кругі свае, было б натхненне і здароўе. Што да паэзіі, то на пытанне лепш адказаць словамі Петруся Броўкі: “Не пытайся пра гэта, бо адказу не дам, як зрабіўся паэтам, я не ведаю сам”. А прозу пішу даўно, з маленства, у рэспубліканскім друку ўпершыню таксама з апавяданнем выступіў. Гэты факт нават зафіксаваны ў другім томе

> *Проста хацелася, каб у Беларусі больш ведалі пра наш палескі край, пра яго слаўных людзей, якія час ад часу становяцца прататыпамі маіх літаратурных герояў. Прыемна, што, нягледзячы на некаторую закамуфліраванасць характараў і учынкаў персанажаў, мае землякі пазнаюць сябе. Жыхары суседніх вёсак могуць сустрэцца ў адным творы, а Малое Сяло — гэта ўвогуле мая літаратурная рэспубліка. Што хачу, тое ў ёй і раблю, балазе, палешукам падабаецца, калі пра іх пішуць шчырыя і цёплыя словы.*

біябібліяграфічнага слоўніка “Беларускія пісьменнікі”. Сумяшчэнне паэзіі і прозы на дзіва простае. Надакучыла пісаць вершы — выручае проза. І наадварот. У першым выпадку — душа рамантычная, узнёслая, у другім — вельмі практычнае, суровае.

Пра “пагарджаную” прозу скажу асобна. Для мяне гэта было нават нечакана — Літаратурная прэмія імя Івана Мележа. Пісьменніка, якога глыбока паважаю за яго незвычайную чалавечую сціпласць і, не менш, за яго выдатныя празаічныя творы. Проста ў маім дзяцінстве былі цудоўныя кнігі Івана Мележа “Гарачы жнівень”, “У гарах дажджы”, раман “Мінскі напрамак”. Помніцца, чытаў іх запоем, часцей пры святле цьмянай газоўкі, таму што электрычнасць у нашу вёску Малыя Круговічы правялі толькі на пачатку шасцідзясятых гадоў. Якраз у той час, калі манцёры нацягвалі на слупах алюмініевыя драты, у бібліятэку паступілі “Людзі на балоце” — першы раман са славутага мележаўскага цыкла “Палеская хроніка”. О, гэта была радасць адкрыцця! Мае дзяўчаты-суседкі раман перахоплівалі з рук — так іх хвалявала горкае каханне Васіля і Ганны. Калі я прачытаў цудоўную кнігу пра высокую адухоўленасць і глыбокі трагізм так званага простага чалавека, а тым болей — палешука, рука сама пацягнулася да пяра, а пяро — да паперы.

***— Ганцаўшчына — дакладней, вёска Малыя Круговічы — малая радзіма пісьменніка. Таму само сабою напрошваецца пытанне: што для цябе, Віктар Канстанцінавіч, як чалавека і творцы, гэты куток Палесся?***

— Вытокі маёй прозы там, на Бацькаўшчыне, у вёсцы Малыя Круговічы, дзе я нарадзіўся і вырас. Вёска прыгожая, раскінулася на пагорках, сярод векавечных лясоў і ўзбалоткаў. І сёння тут жывуць сумленныя, працавітыя людзі. Весялосці, гумару ім не пазычаць, і гэты гумар у поўнай меры патрапіў і на старонкі маіх кніг. А справа была так. Маці мая памерла вельмі рана і, застаўшыся па сутнасці без нагляду, з пяцігадовага ўзросту я звычайна бавіў час то на калгаснай ферме, то на брыгадным двары. Там, сярод людзей, схапіў жывую беларускую мову, пачуў нямала вясёлых жартаў, дасціпных гісторый, якія пазней прыдаліся ў літаратурнай творчасці. Жыццёвага матэрыялу, калі б не зігзагі лёсу, напэўна, хапіла б яшчэ не на адну кнігу прозы, але пакуль што выйшла затрымка. Дарэчы, у маіх празаічных творах падзеі адбываюцца ў вёсцы Малое Сяло. Аднак на Ганцаўшчыне (ды і не толькі там) усе ведаюць, што Малое Сяло — гэта і ёсць мая родная вёска Малыя Круговічы. Відаць, самому Богу было заўгодна пасладзь мне ў падарунак гэтую маляўнічую і прыгожую вёску — вёску маёй журбы і самоты.

***— Аповесці “Дом з блакітнымі аканіцамі”, “Па Сеньку і шапка”, “Уратуй ад нячыстага”, раман “Бедна басота” і трылогія “Аселіца ў басейне Чорнага мора” прысвечаныя падзеям, якія адбываліся менавіта тут, на Ганцаўшчыне. Цікаўнаму чытачу няцяжка пазнаць у назвах населеных пунктаў, іх характарыстыках сапраўдныя Ганцавічы, Вялікія і Малыя Круговічы, Шашкі, Агарэвічы, Хатынічы, Сіняўку... З якой мэтай гэта зроблена?***

— Уласна кажучы, ніякая наўмысная мэта не кіравала мною, калі я пісаў свае празаічныя творы. Проста хацелася, каб у Беларусі больш ведалі пра наш палескі край, пра яго слаўных людзей, якія час ад часу становяцца прататыпамі маіх літаратурных герояў. Прыемна, што, нягледзячы на некаторую закамуфліраванасць характараў і рэальных учынкаў персанажаў, мае землякі пазнаюць сябе. Жыхары суседніх вёсак могуць сустрэцца ў адным творы, а Малое Сяло — гэта ўвогуле мая літаратурная рэспубліка. Што хачу, тое ў ёй і раблю, балазе, палешукам падабаецца, калі пра іх пішуць шчырыя і цёплыя словы. Вельмі многае гаворыць і вось гэты ўсхваляваны ліст, які неяк даслала мне мая любімая настаўніца беларускай мовы і літаратуры Вольга Віктаравіч: “Прачытала я раман “Бедна басота”, такія ёмістыя карціны Малога Сяла, іх герояў. Лясны Імшэчак, твае мілыя сэрцу дзіцячыя і юнацкія мясціны ў лесе...”

***— Многія, асабліва маладыя і пачынаючыя літаратары, табе шчыра ўдзячны за клопат пра іх творчы лёс, за бацькоўскую падтрымку і прафесійную параду. Без перабольшвання ты шмат зрабіў і для ўшанавання памяці пісьменнікаў Ганцаўшчыны. Пра гэта яскрава сведчыць кніга “Паміж Бобрыкам і Ланню”, якая выйшла ў серыі “Беларусь літаратурная” ў 2007 годзе. Гартаеш яе старонкі, і складваецца ўражанне, што многія пісьменнікі-землякі былі тваімі сябрамі, настаўнікамі.***

— Дапамагаў я шмат каму з маладых літаратараў, і не толькі землякам, асабліва калі працаваў у часопісе “Маладосць”. Сотні адрэдагаваных рукапісаў, дзясяткі прадмоў да паэтычных зборнікаў, мноства рэкамендацый у творчы саюз. Але з вялікай павагай стаўлюся і да сваіх літаратурных настаўнікаў — Уладзіміра Калесніка, Васіля Праскурава, Міхася Рудкоўскага, Івана Кірэйчыка. Роднае беларускае слова ў нас, на Палессі, ніколі не было ў заняпадзе, на Ганцаўшчыне, можа, як нідзе, любяць і паважаюць сваіх творцаў. У вёсцы Люсіна калісьці пачынаў настаўніцкі і пісьменніцкі шлях Якуб Колас, у вёсцы Чудзін адкрываў скарбы народнай мудрасці славуты этнограф і вучоны Аляксандр Сержпутоўскі. Зноў жа, у пасляваенны час на Ганцаўшчыне вырасла, узмужнела, набралася сіл для высокага палёту новае пакаленне творцаў: В. Праскураў, М. Рудкоўскі, І. Кірэйчык, М. Дубянецкі, М. Купрэеў, А. Кажадуб, А. Каско, У. Марук, М. Антаноўскі, І. Лагвіновіч, А. Трафімчык, С. Локтыш, І. Дарафейчук, А. Кудласевіч, А. Галаскок. З усімі я сябраваў, паважаў іх творчую працу. На сваю малую радзіму заўсёды прыязджаю з вялікім хваляваннем. У Малых Круговічах адзначаліся абодва мае юбілеі, адбылася прэзентацыя кнігі паэзіі “Трыадзінства”. Часта бываю ў раённай і дзіцячай бібліятэках, праходзілі сустрэчы і ў школах. Увогуле, усе ганцавіцкія паэты годна ўшанаваныя. Іх імёнамі названы вуліцы, створаны музеі Якуба Коласа і М. Рудкоўскага. А леташняй вясной быў устаноўлены памятны знак Івану Кірэйчыку, ураджэнцу вёскі Гута, з якой выйшаў і выдатны паэт Уладзімір Марук, чыя заўчасная смерць моцна ўзрушыла ганцаўчан. Для ўвекавечання памяці земляко-пісьменнікаў шмат зрабіў мой сябра Аляксандр Свірыд, а ў кнізе “Паміж Бобрыкам і Ланню” прадстаўлены літаратурныя сілы Ганцаўшчыны з мінулага стагоддзя да нашых дзён.

***— Напярэдадні Дня беларускага пісьменства свет пабачыла кніга пад тваім аўтарствам і рэдакцыяй “Ганцаўшчына — край легенд і талентаў народных”. Што, на тваю думку, у ёй цікавага, на што варта звярнуць увагу? Давай зробім такую своеасаблівую вандроўку.***

— Кніга “Ганцаўшчына — край легенд і талентаў народных” багата ілюстравана фотаздымкамі і апавядае пра гістарычную, культурную, духоўную спадчыну гэтага самабытнага і найпрыгажэйшага кутка Палесся. Тут захавалася шмат помнікаў гісторыі, археалогіі, народнага дойлідства, людзі свята ўшаноўваюць памяць землякоў, якія загінулі на франтах Вялікай Айчыннай вайны ці сталі ахвярамі фашысцкага тэрору. Асобны раздзел апавядае пра цярністы, нялёгкі шлях да Храма, да Боскага слова. На славутай палескай зямлі калісьці жылі і тварылі выдатны фальклорыст Аляксандр Сержпутоўскі і беларускі Пясняр Якуб Колас, а ў пасляваенны час літаратурная карта Ганцаўшчыны істотна пашырылася за кошт цэлай кагорты таленавітых паэтаў і празаікаў, чые імёны сёння добра вядомыя ў рэспубліцы. Цэлы раздзел у кнізе прысвечаны бібліятэкарам — захавальнікам кніжных скарбаў. Цяперашняе пакаленне ганцаўчан з любоўю і павагай адносіцца да спадчыны народных майстроў, беражэ фальклорна-этнаграфічныя, песенныя і міфалагічныя традыцыі нашых продкаў, жыва цікавіцца легендамі і паданнямі палескай глыбінкі. Усё гэта ёсць у кнізе, выхад якой прымеркаваны да традыцыйнага свята высокай культуры і духоўнасці — Дня беларускага пісьменства.

## Мастак і выданне



# Павел Татарнікаў: “Маё дзяцінства было шчаслівым”

**Почырк гэтага мастака пазнаецца адразу. У яго работах нібы праз лёгкую празрыстую дымку прадстае велічная гісторыя. Сёння ўва многіх краінах свету ведаюць імя Паўла Татарнікава, беларускага мастака, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, адзначанага і іншымі шматлікімі ўзнагародамі: у 1998-м — на конкурсе “Мастацтва кнігі” за “Аповесць мінулых гадоў”; у 1999-м — “Залатое пяро Бялграда” за ілюстрацыі да кнігі “Аповесць мінулых гадоў”, “Залаты яблык” BIB у Браціславе 2001 года за ілюстрацыі да зборніка беларускіх казак “Царэўна ў падземным царстве” і ў 2009-м — за англійскую кнігу “Артур — кароль Альбіёна” (“Arthur, High King of Albion”) і інш.**

**— Павел, паколькі наша рубрыка носіць назву “Мастак і кніга”, першае пытанне: якія кнігі — самыя любімыя?**

— Кнігу люблю з дзяцінства. А любімыя, можа, яшчэ і не прачытаў. Чытаю шмат мастацкай, навукова-папулярнай, навуковай літаратуры. Бацькі, адукаваныя людзі, разумелі, што пра гісторыю ў падручніках не ўсё напісана, распавядаць трэба асобна. Прыахвоцілі да гістарычнай тэматыкі. А пасля падлеткам сам запаўняў белыя плямы няведання. Тым больш што адкрыліся дакументы пра падзеі, якія раней замоўчваліся.

**— За якія ўрокі, атрыманыя ў дзяцінстве, вы асабліва ўдзячны бацькам?**

— Бацькі ніколі не стрымлівалі, не забаранялі мне рабіць тое, што хацеў: у мяне быў вольны доступ да паперы і фарбаў, імі быў напоўнены дом. Кніжак было шмат. Вялікая бібліятэка. Бацькі пастаянна куплялі новыя: і рэдкія, і замежныя, і ў сетцы кніжных крам “Дружба”, і прывозілі адусюль. Найбольш каштоўныя мне, зразумела, не дазвалялі размалёўваць, а астатнія — калі ласка. І я з задавальненнем насяляў іх старонкі рознымі чалавечкамі і ўсім астатнім, што дзеці звычайна малююць. Думаю, што гэта атачэнне і атмасфера паўплывалі на маё станаўленне як мастака.



Бацька быў вельмі добрым. Маё дзяцінства было шчаслівым: мы шмат часу праводзілі разам, па грыбы хадзілі, а з дзядзькам — на рыбалку. Шмат размаўлялі. Яшчэ адзін сакрэт: бацька любіў гатаваць. Ён вучыў мяне быць чэсным, у працы ў тым ліку. Для яго не існавала паняцця халтуры, каб сяк-так, зрабіць абы адбыць.

**— Ваганняў з выбарам прафесіі не было?**

— Адразу ведаў, што буду мастаком. Ну, калі не лічыць такіх выпадкаў: нагледзішся на які грузавік і скажаш, што будзеш шафёрам. Ці касманаўтам. Ці вадзіцелем аўтобуса: калі едзеш да бабулі ў Ваўкавыск, глядзіш, як ён круціць гэты “абаранак”. А яшчэ дзіцячая рыса — любіў пагуляць у салдацікі. Я магу гуляць і цяпер — прафесія дазваляе.

Пачатак — канечне, усё дома, у сям’і. У мастацкую школу не хадзіў. Мой бацька выкладаў у Брэсцкай мастацкай дзіцячай школе, так што дома, лічыце, былі індывідуальныя заняткі. Ісці ў музычную школу я адмовіўся наадрэз: бачыў, як старэйшая сястра пакутавала са скрыпкай. Тым больш ні ў кога не ўзнікала пытанняў — я ўвесь час маляваў. У трэцім класе даведаўся, што існуе школа-інтэрнат імя В. Ахрэмчыка, куды з усёй краіны едуць вучыцца адораныя дзеці. Перад паступленнем цэлы год трэціраваў бацькоў, што таксама паеду ў Мінск. Пераканаў, здаў іспыты і паступіў. Потым была вучоба ў Акадэміі мастацтваў.

**— Павел, відаць, кнігі з вашымі ілюстрацыямі толькі ў Аўстраліі не выдаваліся? На каго вы яшчэ працавалі?**

— Памыляецеся, якраз у Аўстраліі выходзіла кніжка. Галоўная ўмова маёй згоды — каб тэма, якую прапануюць, зацікавіла. Скажам, у першую чаргу было цікава аздабляць казку пра Снежную каралеву, а не тое, што работу прапанавала тайваньскае выдавецтва. Звярталіся і еўрапейцы, і японцы (выдавалі беларускія казкі). Не так даўно ілюстраваў кнігу серыі “Музычныя шэдэўры па лібрэта” Рыхарда Вагнера “Золата Рэйна”. Сёння і Кітай, і Карэя цікавяцца еўрапейскай культурай.

Сусветная тэндэнцыя — адна і тая ж кніжка можа выходзіць у выдавецтвах розных краін, на розных мовах. Мастацтва ўвогуле рэч інтэрнацыянальная. Калі звяртаюцца выдаўцы з розных краін, яны ўжо ведаюць, якую тэму лепей робіць мастак, папярэдне пазнаёміліся з яго творчасцю. А дапамагае ім у гэтым не толькі Інтэрнэт, а ў першую чаргу кніжныя кірмашы — пляцоўкі, дзе сустракаюцца выдаўцы і мастакі з усяго свету: Франкфурт, Балонья, Лондан, Берлін, Масква. Нават у Мінску яны бываюць, але ў нас чамусьці не ладзяцца сустрэчы з беларускімі ілюстратарамі…



**— Вы маглі б жыць у якой-небудзь іншай краіне?**

— Відаць, мог бы. Але не жадаю. Еўропа — свет лакальны, і там можа працаваць любы. Але не хочацца, каб беларуская моладзь з’язджала.

**— Што трэба для будучага росквіту беларускай кнігі?**

— Па-першае, захаваць чытацкую аўдыторыю. Моцная дзяржаўная падтрымка дзіцячай беларускамоўнай літаратуры.

Па-другое, падтрымка кнігавыдання. Каб бачылася перспектыва, тады лепшыя таленавітыя дзеці ішлі б вучыцца на аддзяленне графікі, манументальнага жывапісу, а не ў рэкламу і дызайн.

Увага да тых, хто працуе над кнігай. Толькі Міхаіл Баразна выдаў некалькі манаграфій па беларускай кніжнай графіцы. Апрача яго кніг, няма ў нас сур’ёзнай прафесійнай крытыкі, моцнай тэарэтычнай базы мастацтвазнаўцаў. Гэта ўвогуле датычыць беларускага выяўленчага мастацтва.

***Візітка:***
***Павел Татарнікаў нарадзіўся ў 1971 годзе ў Брэсце. У 1989-м скончыў Рэспубліканскі каледж мастацтваў імя В. Ахрэмчыка, у 1995-м — аддзяленне графікі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў. Член Беларускага саюза мастакоў з 1997 года.***

**— Назавіце, калі ласка, прыемныя і не вельмі моманты працы.**

— Успамінаць прыемна пра творчы працэс — асабліва там, дзе не было дыктату рэдактараў, аддзела маркетынгу, усялякіх дарадцаў, якія лепей ведаюць, як павінна выглядаць тая ці іншая ілюстрацыя.

З задавальненнем прыгадваю выданне “Сем цудаў Беларусі”, аўтарамі якога з’яўляюцца Уладзімір Ягоўдзік і Анатоль Бутэвіч. Але тут былі пэўныя рамкі, некаторая ўмоўнасць, свае правілы: выданне — серыйнае, вымагала прытрымлівацца адзінства стылістыкі. А я за дзесяць гадоў, пакуль ішла работа, не стаяў на месцы. Ідзе творчы рост, хочацца нешта змяніць, а рамкі не дазваляюць.

**— А ці здаралася вам адмаўляцца ад прапаноў?**

— Ёсць выпадкі і калі я не адказваю на лісты. Калі адчуваю: не мая тэма — нейкая фантасмагорыя, псеўдафіласофска-рэлігійнае вучэнне, такая белiберда, такая каша “філасафічная”. Хочуць, каб было прыгожа. Можна, канечне, прыгожа зрабіць, але хай робіць нехта іншы. Ці пішуць: “Нам прапанавалі звярнуцца да вас, мы паглядзелі вашы работы, вельмі спадабалася”. А там — дзіцячыя вершы пра рамонакі.

Цікавых праектаў таксама шмат, але ўсё не ахопіш. Бывае, адначасова рабіць трэба некалькі кніжак, тады даводзіцца і начамі пасядзець. Таму не вельмі люблю бываць у Мінску — заўсёды знойдзецца нешта, што будзе адцягваць ад працы. Набылі з жонкай домік на Валожыншчыне, зрабіў у ім майстэрню і стараюся больш часу праводзіць там.

**— Што тады дапамагае аднаўляць сілы?**

— Лазня, рэчка.

**— Калі б можна было, што б вы памянялі ў сваім мінулым?**

— Нейкую рысу, каб асэнсоўваць сваё жыццё, я яшчэ не падводзіў. Канечне, памылкі былі, нейкія ўчынкі, за якія было сорамна. Можа, некалі пакрыўдзіў маму, трэба было панізіць голас, можа, мала часу аддаваў бацьку і маме. Гэта, відаць, ва ўсіх, хто не жыве разам з бацькамі... Прыкрасць і шкадаванне прыходзяць, калі чалавек сыходзіць.

**Гутарыла Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

***Ілюстрацыі да серыі “Сем цудаў Беларусі” прадастаўлены выдавецтвам “Кавалер”.***

## Пад вокладкай

**Марына ВЕСЯЛУХА,**
**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**




**Баравікова, Р. А. Казкі астранаўта: Касмічныя падарожжы беларусаў / Раіса Баравікова; маст. М. Э. Міцкевіч. — Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2011. — 176 с.**

“Я вельмі баюся, што аднойчы наступіць момант, калі адно з усіх маіх касмічных падарожжаў стане апошнім. Зразумела, гэтага моманту не ўдалося пазбегнуць”, — так у скрусе разважае астранаўт-беларус. Але перад апошнім падарожжам яго чакае наведванне новых планет у розных сузор’ях, сустрэчы з іх загадкавымі насельнікамі, якія (як ні дзіўна, нават у далёкіх галактыках) размаўляюць па-беларуску. Захапляльныя гісторыі, што ўвайшлі ў кнігу, не толькі распавядуць пра прыгоды герояў, але і пазнаёмяць з цікавымі звесткамі пра зоркі і нават цэлыя сузор’і.




**Зэкаў, А. М. Генеральскі нумар / Анатоль Зэкаў. — Мінск: Мастацкая літаратура, 2011. — 286 с.**

У новую кнігу Анатоля Зэкава ўвайшлі апавяданні, былі, абразкі. Іх лёгкая мова дапаможа чытачу акунуцца ў будні і святы журналістаў раённых і сталічных выданняў, пасмяяцца з розных абставін вытворчага працэсу, зазірнуць у твары людзей, выхапленых меткім вокам пісьменніка з натоўпу. Іншым часам погляд гэты выклікае горыч: калі ў жанчыны не хапае грошай і на бутэльку віна, і на хлеб, яна адмаўляецца ад хлеба. Калі ў бібліятэцы наркалагічнага дыспансера знаходзіцца кніжка з надпісам “Піянеру з 1981 года” — і можна ўявіць скалечаны лёс колішняга хлопчыка ў чырвоным гальштуку.




**Рывкин, М. С. Краеведческие очерки и статьи / Михаил Рывкин; сост., предисл. и примеч. А. М. Подлипского. — Витебск: Витебская областная типография. 2011. — 160 с.**

Гэта даніна памяці аднаго са старэйшых гісторыкаў-краязнаўцаў Віцебска, без яго актыўнага ўдзелу складана ўявіць пасляваеннае жыццё горада, гісторыю яўрэйскай абшчыны. Міхаіла Рыўкіна не стала ў сакавіку 2010 года. Артыкулы, што ўвайшлі ў зборнік, былі апублікаваны раней у СМІ і навуковых зборніках. Гэта своеасаблівыя сустрэчы з выдатнымі людзьмі, старонкі з гісторыі Віцебска і Віцебшчыны, расповеды пра помнікі гісторыі і культуры, а таксама матэрыялы пра халакост на тэрыторыі Віцебскай вобласці.




**Глаттауэр, Д. Все семь волн / Даниэль Глаттауэр; пер. с нем. Р. Эйвадис. — Москва: Эксмо, Санкт-Петербург: Домино, 2011. — 336 с.**

Раман (працяг вядомай кнігі “Лепшы сродак ад паўночнага ветру”) перакладзены на 32 мовы, яго чытаюць у Еўропе, Амерыцы і Азіі, жыццесцвярджальны твор аўстрыйскага пісьменніка адразу ж стаў бестселерам. Яго называюць адной з самых рамантычных кніг у перапісцы, кранальнай гісторыяй тыповых людзей. Магчыма, гэтая “тыповасць” і звыкласць праблем робіць кнігу цалкам даступнай і прымальнай для чытачоў рознага ўзросту, з розных краін свету. Магчыма, яна прыйдзецца даспадобы і беларускаму чытачу — перш за ўсё аматару казкі ў рэальнасці.

***Водгукі дасылайце на электронны адрас аўтара: himarina@tut.by***

**Кнігі для агляду прадастаўлены магазінам “Кніжны салон”. Тэл. 385-60-89.**

## Надзея ПАРЧУК

### Прывітальнай песняй звонкай...

*Расчыняйце насцеж дзверы,
Ганцавічы, зранку!
Дайце веры, дайце веры
Новаму заранку,*

*Што блакітам умываўся,
Зорамі хрысціўся,
Ў Цну з-пад высяў углядаўся
І да вас спусціўся —*

*Блаславёны, улюбёны
У жыццё і радасць,
Непаўторна чыстазвонны
Прыляцеў, як Святасць!*

*Каб сказаць нам у прамове:
"Спадары і госці,
Дайце ласку роднай мове,
Яе прыгажосці!*

*Хай над любаю старонкай
Птушкай узаўецца,
Прывітальнай песняй звонкай
Ў сэрцы увальецца!*

*Берасцейскі горад мужны,
Талентаў радзіма,
Напаўняй любоўю душы,
Шчырасцю гасціннай!"*

## Яўгенія ЯНІШЧЫЦ

### У шуме жытняга святла

*Яшчэ расці маёй трывозе
І не любіць — на паўкрыла.
Убачу маму на дарозе
У шуме жытняга святла.*

*І покуль гэты поўдзень спелы
Дым тарфяны не завалок,
На зрэзе дня — рамонак белы
І пасівелы васілёк.*

*Снуецца беглая сцяжына —
Апошні збег майго сяла.
Гняздзечка птушкі і ажына —
У шуме жытняга святла.*

*І покуль дыхае планета,
Не вынішчаецца датла
Душа народа і паэта
У шуме жытняга святла.*

## Ніна МАЦЯШ

### Калыханка маме

*Быць разам выпадае нам так мала...
Забудзь трывогу вечную сваю,
Прыляж, мая натомленая мама,
Як некалі ты мне, табе спяю.
Задрэмлюць веі над вачыма карымі —
Не дам упасці й парушынцы я.
Сустрэнься ў сне з сабой, мая ласкавая,
З вясной сваёю, любая мая.*

*Хоць кропля з абяцанага нам маем
Збываецца праз золкія гады.
Прыляж, мая даверлівая мама,
Спяю табе, як мне спявала ты.
Задрэмлюць веі над вачыма карымі —
Не дам упасці й парушынцы я.
Сустрэнься ў сне з сабой, мая ласкавая,
З вясной сваёю, любая мая.*

*Любоў нябёсы над табой трымае,
Любоўю зораць дні ў тваім акне.
Прыляж, мая усмешлівая мама,
Спяю табе, як ты спявала мне.
Задрэмлюць веі над вачыма карымі —
Не дам упасці й парушынцы я.
Сустрэнься ў сне з сабой, мая ласкавая,
З вясной сваёю, любая мая.*

## Мікола ФЕДЗЮКОВІЧ

* * *

*Мінае год — усюды ён
свой пакідае след.
На дрэве новы круг відзён,
сад пасадзіў сусед...*

*Што адслужыла — ўсё на злом
мінулы год паслаў,
арбітай новай, бы вязьмом,
Зямлю аперазаў.*

*Нібы апоўначы трамвай,
звініць мінулы год...
Шкада, яго не затрымаць,
не абмінуць яго!*

## Васіль ГАДУЛЬКА

* * *

*Па-над хатамі, па-над гумнамі —
полаг неба, сатканы з хмар.
З прадчуваннямі ў сэрцы сумнымі
на знямелы глядзіш абшар.*

*Зноў куды ні кінь — і на выгане,
і ў палях — сівы снег ляжыць.
Пачакай: яшчэ сонца выгляне.
Сонца выгляне — будзем жыць.*

*Сэрцу дай сваймý супакоіцца,
акрыяць ад шэрай нуды.
Хай табе ў страшных снах не мроіцца
цёмнай ноччу прывід бяды.*

*Неаднойчы ўжо хмара засціла
чорным ценем наш доўгі шлях.
Хай нам сто разоў не пашчасціла,
хай чарнобыльскі ў сэрцах жах,*

*хай разлічана, што ў нядолі нам
жыць на гэтай зямлі сто год —
у вяках нікім неадолены
немагчыма скарыць народ.*

## Галіна БАБАРЫКА

### Пейзажы восені

*Страсае восень з дрэў лісты
Яшчэ нясмела і няспешна,
Паслухай...Чуеш? Ціха песню
Ў тумане шэпчуць чараты.*

*На ніцях — ягады-рубіны,
Імшары рдзеюць іх святлом.
Журботны вокліч. На крыло
Ланцуг узняўся жураўліны.*

*Ад сонца зажаўцела даль
Пад лёгкім цюлем павуціны,
На плечы стройная рабіна
Надзела каляровы шаль.*

*Зрывае восень з дрэў лісты
І сцеле, сцеле іх паспешна.
Ты чуеш? Словы новай песні
Дыван шапоча залаты.*



Фота Анатоля Клешчука

## Любоў ДЗІКАВІЦКАЯ

* * *

*Мне шкада,
Што птушкі адлятаюць.
І шкада,
Што вернуцца не ўсе.
Толькі зоркі
Так прывабна ззяюць
Дзесьці там,
На млечнай паласе.
Не спазнаць
Таемнасці Сусвету.
Незваротнай птушкай
Нашы дні
Нас нясуць
Праз зімы і праз леты
Ў непазбежнасць
Сіняй вышыні.*

## Зінаіда ДУДЗЮК

* * *

*Яшчэ хлапчук спазнаў ледзь-ледзь
Соль словаў запаветных,
Яшчэ яму расці, сталець,
А маці шые ветразь.
Мінаюць доўгія гады
Ў турботах непрыкметна.
Дзень белы, сіні, залаты...
А маці шые ветразь.
І вось расстайны выпаў час,
Калі пад песню ветру
Хлапчына ў маці на вачах
Ўздымае белы ветразь.
Што чайка роспачна крычыць?
Сын шчасна азірнецца.
І ўслед за ветразем ляціць
Сівой матулі сэрца.*

## Раіса БАРАВІКОВА

* * *

*З твайго саду да мяне на агеньчык.*
**Мікола Селяшчук, алей**

*У мяне палянка ёсць за садам,
многа там шыпшыны і травы,
дам табе высокую пасаду, —
будзь майго бяссоння вартавым.*

*Упадзе ў траву пялёстак клейкі,
задрыжыць расінка на плячы, —
адгукнуся голасам жалейкі,
каб не сумавалася ўначы.*

*Перадам з душы ўтрапёнасць слову,
што ірвецца спуджана здалёк,
у шыпшыннік, пад тваю ахову,
быццам саду лёгкі матылёк.*

## Марыя КОБЕЦ

* * *

*Лёсу майго калыска,
Продкаў зямля спрадвечная,
Сэрца маё — о Піншчына,
Шчасце маё — Берасцейшчына!*

*Вецер шапоча ўслых
Словы, што мне як ісціна,
Назвы, што зводзяць дых —
Піншчына, Берасцейшчына!*

*Край мой, прыгожы край,
Людскаю працай расквечаны!
Божа, ты шчасця дай
Піншчыне, Берасцейшчыне!*

## Валерый КУХАРЧУК

* * *

*Пасвячу чужому ліхтаром
на яго зацененае сэрца.
Хай убачыць, як яму няймецца,
як глытае дабрыню нагбом.*

*І тады прачнецца чалавек
і з душой асветленай наросхрыст
ахінецца ў жнівеньскія росы,
каб адмыцца ад грахоў навек.*

## Андрэй МАЗЬКО

### Восеньскі дождж

*Зноўку
Вісіць дзяруга
Шэрая
Замест неба.
Плача
Дождж-валацуга —
Дзесьці
Сагрэцца трэба.
Моліць
І просіць шчыра,
Нібы жабрак
Галодны,
Аж па зямлі
Маршчыны
Ад ручаёў
Халодных.
Ды зачынілі
Вокны.
Гасне
Святло-вуголле...
Рвуцца
Яго валокны
Аб парканы
І голле.*

## Мікола ПРАКАПОВІЧ

* * *

*А людзі вераць толькі ў дабрыню.
Усмешкай непадробнаю і шчырай
Сябрам сваім ніколі не зманю,
Іх не забудзе мой далёкі вырай.*

*Куды б мяне шляхі ні павялі,
Я з тою ж адпраўляюся сяўнёю.
Упэўнены: ў любым кутку зямлі
На дабрыню адкажуць дабрынёю.*

## Сцяпан СЯРГЕЙ

* * *

*Усё цячэ, змяняецца, знікае...
Ды што сусвету да смяротных нас?
Зноў дагарае восень залатая,
Ірдзее клён, нібы ў апошні раз.*

*Пасуцца ў лузе спутаныя коні,
І ранкам у напятай цішыні
Злятае мне ў раскрытыя далоні
Зжаўцелы ліст з халоднай вышыні.*

*Няўмольны час...
Ды, мабыць, справядліва,
Што ўсё змяняецца на гэтай вось зямлі,
Што плача дожджык вечарам тужліва
І ў вырай адлятаюць жураўлі.*

*За годам год, хвіліна за хвілінай
Адыдуць непрыкметна ў небыццё,
І так вось незаўважна ва ўспаміны
Перацячэ, нібы пясок, жыццё.*

*Нібы пясок праз вузенькае шкельца
Сцякае ўніз і падае на дно.
І глуха б'ецца стомленае сэрца,
І ноч ужо заглядвае ў акно.*

*І ў цемры той ні зорачкі, ні свечкі.
І толькі дзесьці ў чорнай глыбіні
Вада шукае ложа вечнай рэчкі
І падмывае карані.*

## Анатоль ШУШКО

### Чараўніца

*Ой, рана на Яна па быстрай вадзіцы
Вянкі папускалі дзяўчаты!
Адна Купалінка — мая Чараўніца —
Яшчэ не пакінула хаты.*

*Глядзіцца ў люстэрка, сама зіхатліва,
Як німфа, у німбе-вяночку.
Гадае мая варажбітка цнатліва
На зорных купалках пра ночку.*

*З куфэрка, дзе схованы тайны святыя,
Кагосьці самотна чакае,
І грэбень у косы густыя
Рукою-крылом апускае.*

*Ну як ёй сказаці, ну як пракрычаці:
"Каханне маё! Заклінаю!
Ўжо нават і маці знайшла ўва мне зяця.
Бо ты варажыла... Я знаю..."*

# Сцежкамі Напалеона

**У далёкім 1884 годзе адбылося адкрыццё руху па Палескіх чыгунках. На сталёвай рэйкавай галінцы паміж Баранавічамі ды Лунінцом, у мястэчку Ганцавічы, з'явілася станцыя. Ураджэнцу Варацэвічаў — вёскі Пінскага павета Мінскай губерні, — слыннаму беларускаму шляхціцу Напалеону Орду, які часта вандраваў і па дарогах роднага берасцейскага Палесся, рабіў замалёўкі адметных мясцін, скарыстацца новым цудам цывілізацыі ўжо не давялося. Сцяжына яго зямнога жыцця абарвалася ў 1883-м... А якое гэта было своеадметнае, яркае, духоўна багатае і драматычнае жыццё!**



**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Пра знанага ва ўсім свеце беларускага Напалеона — піяніста, кампазітара, музычнага дзеяча, педагога, патрыёта свайго краю, аўтара соцень архітэктурна-ландшафтных замалёвак, пейзажаў, якія маюць сёння не толькі эстэтычную, але і гістарычную, дакументальную каштоўнасць, даводзілася пісаць неадночы. Але кожны расповед пра Н. Орду не будзе лішні, бо мы, яго суайчыннікі, адносна нядаўна пачалі асэнсоўваць гэтую асобу як з'явішча сваёй, роднай культуры (яна мае складаны лёс культуры-донара) ды характэрную праяву нашай драматычнай і неадназначнай гісторыі. Сорак гадоў таму пра Н. Орду-мастака распавёў з беларускіх пазіцый Л. Дробаў. У 1980-х на старонках працы А. Ахвердавай наш таленавіты зямляк быў прадстаўлены як рознабаковы музыкант, музычны пісьменнік, сябра Ф. Шапэна і А. Міцкевіча... З часам яго творы загучалі ў канцэртах фестываляў "Адраджэнне беларускай капэлы", "Музы Нясвіжа". З'явіліся нотныя выданні; да 195-годдзя Н. Орды выйшаў альбом "Беларусь у малюнках Напалеона Орды"... А ў 2007-м вельмі шырока, пры ўдзеле ЮНЕСКА, адзначалася яго 200-годдзе. Мемарыяльную дошку ў гонар Н. Орды адкрылі ў цэнтры Парыжа, які амаль на чвэрць стагоддзя прытуліў колішняга бунтоўнага студэнта з Вільні, ураджэнца далёкай беларускай вёскі, дазволіў яму зрабіць выдатную, і не толькі як для эмігранта, кар'еру, але не змог сваім галавакружным бегемным бляскам суцішыць тугу па родным Палессі. Міжнародная навуковая канферэнцыя, прымеркаваная да знамянальнай даты, прайшла ў Мінску. З'явіліся новыя, у тым ліку электронныя і факсімільныя, выданні, адбыліся тэматычныя мастацкія пленэры і выстаўкі, канцэртныя праграмы. Нацыянальны акадэмічны канцэртны аркестр Беларусі пад кіраўніцтвам М. Фінберга заснаваў новы рэгіянальны музычна-асветніцкі фэст — "Тасцёўня Напалеона Орды", што цяпер кожны год адбываецца на радзіме творцы, у Іванаўскім раёне.

Хто ведае, мабыць, нейкі нячутны покліч, містычная мелодыя мусіла Н. Орду вяртацца да сваёй зямлі, да родных сцяжынак? Берасцейскае Палессе — сапраўды загадкавы асяродак духоўнага багацця. Наўкруг той самай рэйкавай галінкі, што між Баранавічамі ды Лунінцом, знойдзеш столькі адметных з'яў, ярких лёсаў! За паўкіламетра на захад ад Ганцавіч — колішняя сядзіба роду Падарэўскіх. Ці меў да іх дачыненне славуты паляк Ігнацы Падарэўскі (1860 — 1941): параўнаны з Ф. Лістам піяніст, кампазітар, дзяржаўны дзеяч, які нарадзіўся ў суседняй Украіне? Паблізу Ганцавіч месціўся маёнтак князя Радзівіла, за 40 вёрст — мястэчка Ляхавічы, адкуль выйшла нямала творчых людзей. Міхал Казімір Агінскі, "гетман-кларнет", стваральнік вядомай у Еўропе слонімскай "сядзібы муз", фундаваў на берасцейскай зямлі будаўніцтва Агінскага канала, або Порта Агінскага (1765 г.), — унікальнай воднай сістэмы, якая, на думку знаёмага мне брэсцкага настаўніка, можа быць адноўлена і даць фору "раскручанаму" Аўгустоўскаму каналу... Генадзь Цітовіч, стваральнік акадэмічнага калектыву, які сёння носіць яго імя, падчас працы ў пасляваенных Баранавічах арганізаваў самадзейны хор у вёсцы Вялікае Падлессе Ляхавіцкага раёна, слава якога перасягнула межы Беларусі... А Пружанская зямля? Гэта ж радзіма легендарнага Рыгора Шырмы! З Брэста — Уладзімір Солтан, аўтар незабыўнай оперы "Дзікае паляванне караля Стаха"; у Баранавічах нарадзіўся і жыве кампазітар Уладзімір Грушэўскі. Святая Воля, вёска ў Іванаўскім раёне, — радзіма дырыжора Вячаслава Воліча (сапр. Чарнуха). Маэстра, можна казаць, з маленства хадзіў Напалеонавымі сцежкамі...

У наступным годзе з дня нараджэння Н. Орды спаўняецца ўжо дзвесце пяць.

***На здымку: такой бачыў мастак Напалеон Орда радзінную сядзібу ў Варацэвічах.***

# Сакральнае і вечнае



**Лана ІВАНОВА**

Нацыянальны мастацкі музей Беларусі ладзіў увесну выстаўку "Адкрыццё святой прыгажосці". Экспанаваўся беларускі іканапіс: 10 твораў XVII — XIX стст., аднаўленых рэстаўратарамі музея. Выдатны вынік комплексу складаных і карпатлівых даследча-рэстаўрацыйных работ засведчыў: у Беларусі ёсць спецыялісты высокай кваліфікацыі, здатныя падоўжыць жыццё старажытных абразоў. Значыць, ёсць падстава для стварэння доўгачаканага Цэнтра рэстаўрацыі.

Вядома, некаторыя ўзоры беларускай школы іканапісу і храмавай скульптуры, вывезеныя ў 1960 — 70 гг. "з глыбінкі" экспедыцыямі Дзяржаўнага мастацкага музея БССР, былі неўзабаве і апрацаваныя. Аднак гэтым займаліся найперш брыгады расійскіх рэстаўратараў. Напрыклад, берасцейская "Троіца" (другая чвэрць XVIII ст.), якая трапіла ў НММ Беларусі з Уваскрэсенскай царквы Альгомеля, а паходзіць з Іаана-Багаслоўскай царквы в. Вялікае Малышава, пабывала ў рэстаўратараў Дзяржаўнага рускага музея. Аркушы малюнкаў знакамітага Шарашоўскага Евангелля XVI ст. з Пружаншчыны (збор НММ Беларусі) — у Дзяржаўнай цэнтральнай навукова-мастацкай рэстаўрацыйнай майстэрні імя акадэміка І. Грабара. Але і ў далёкія 70-я адказную справу давяралі супрацоўнікам Спецыяльных навукова-рэстаўрацыйных вытворчых майстэрняў Міністэрства культуры БССР. "Маці Боская адзігітрыя Смаленская" (XVI ст.) беларускага майстра, вывезеная ў 1977 г. з Прачысценскай царквы сяла Дубянец, што ў Брэсцкай вобласці, на працягу двух наступных гадоў была раскрыта А. Шпунтам — цяпер ён рэстаўратар вышэйшай катэгорыі, удзельнік сёлетняга праекта "Адкрыццё святой прыгажосці". Драўляную скульптуру архангела Міхаіла (1470 — 1480), выяўленую экспедыцыяй музея ў Троіцкім касцёле мястэчка Шарашова ў 1970 г., у 1973 — 1980 гг. рэстаўрыраваў П. Журбей — сёння таксама адзін з вядучых спецыялістаў музея. Між іншым, старажыл Шарашова А. Белабродскі распавёў колішнім даследчыкам пра тое, што ў 1930-я гг. у тамтэйшы касцёл прывезлі скульптуры з касцёла Святой Троіцы Бяроза-Картузскага манастыра. З часам амаль 50 тых твораў апынулася ў сталічным музеі...

Працы хопіць не на адно пакаленне "рэанімататараў" сакральнай спадчыны беларусаў, уратаванай і захаванай да сённяшніх дзён, бо аднаўлена толькі яе часцінка.



***На здымках: "Маці Боская Адзігітрыя Смаленская" з дубянецкай Прачысценскай царквы; касцельная скульптура архангела Міхаіла (дрэва, разьба, яечная тэмпера, пазалота) з Шарашова.***

# Настальгічны светлапіс



**Святлана БЕРАСЦЕНЬ**

Што мы ведаем пра фотамастака Яна Балзункевіча, які на пачатку ХХ стагоддзя з імпэтам спраўднага краязнаўцы вандраваў па Беларусі, фіксуючы выявы старажытных гарадзішчаў, каплічкі ды прыдарожныя крыжы, помнікі на пагостах, а перадусім — хрысціянскія храмы? На жаль, нічога апроч сціплай інфармацыі, змешчанай у альбоме "Хрысціянскія храмы Беларусі на фотаздымках Яна Балзункевіча. Пачатак ХХ стагоддзя" (укладальнікі А. Кулагін і У. Герасімовіч, Мінск, "Ураджай", 2001), знайсці не ўдалося. Ці можна лічыць яго нашым земляком? Колькі пражыў? Як склаўся лёс?.. Пакуль гэта пытанні без адказаў. Відавочна, яго біяграфія чакае свайго даследчыка.

Між тым, узоры своеасаблівай дакументальнай творчасці Я. Балзункевіча, якія захоўваюцца ў аддзеле рукапісаў Цэнтральнай навуковай бібліятэкі імя Якуба Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі і частка якіх апублікаваная ў згаданым альбоме, з'яўляюцца ўнікальным культурна-гістарычным скарбам.



Рэпрадукцыі старых фатаграфій, немудрагелістых і шчырых, назаўжды захавалі колішнія аб'ектыўна дакладныя выявы гістарычных краявідаў, святых мясцін і храмаў — каталіцкіх ды праваслаўных. Манументальная веліч адмысловай рытмікі мураваных сцен ды кранальная цеплыня матываў драўлянага народнага дойлідства, што некалі ўразілі фотамастака, воляю гісторыі трансфармаваліся. Аблічча культавых будынкаў або мяняліся, часам да непазнавальнасці, або наогул ператвараліся ў друз і знікалі. Таму з такім асаблівым настальгічным пачуццём углядаемся мы ў манахромны светлапіс Я. Балзункевіча — быццам вяртаемся ў незваротную атмасферу колішняй Беларусі, вандруем па яе старасвецкіх дарогах, што спрадвек вялі да храмаў.

Здымкі Яна Балзункевіча захавалі для нас і адметнасці берасцейскай зямлі — цяперашняга Баранавіцкага раёна. Вось так выглядаў на пачатку ХХ стагоддзя знакаміты сёння гатычны помнік — Троіцкі касцёл у вёсцы Ішкалдзь. Пабудаваны да 1472 г. па фундацыі М. Неміровіча, у 1866-м гэты храм быў пераасвечаны ў праваслаўную царкву, а пасля 1918 г. вернуты каталікам. Касцёл дзейнічае і сёння. Дзейнічае і касцёл Святога Юра ў вёсцы Паланэчка. Ён ўзведзены ў 1899 г. паводле праекта архітэктара К. Вайцахоўскага і з'яўляецца помнікам драўлянага дойлідства (неаготыка з рысамі мадэрну).

Жана ЛАШКЕВІЧ,
фота Кастуся Дробава

# Трэба ўмець чытаць!

*“Як лёгка было б зразумець адно адному, каб не існавала слоў. Тады можна было б гаварыць і не рупіцца пра словы”.*
***Эжэн Іянеска***

**“Падстава тэатра і рэжысёра — гэта рэпертуар, а значыць, літаратура. Літаратура і аўтарская задума, якую рэжысёр мусіць умець прачытаць. У тэатры трэба ўмець чытаць...” Адвольнае цытаванне класіка выдае крэда рэжысёра Уладзіміра Савіцкага: у тэатры, як бачыце, трэба ўмець чытаць!**



Мы з Савіцкім — раўналеткі. Правадырамі нашага дзяцінства, якое выпала на 1960-я, яго неаспрэчнымі аўтарытэтамі былі дзядулі і бабулі, якія вучылі шанаваць тое, што маеш, сваё. Спадарожнікамі — расповеды пра вялікую вайну, уключанае на ноч радыё і адказнае чытанне цэнтральных газет. З газет дзяды ўмелі вычытаць... усё. Уменню чытаць даводзілася навучацца міжволі. Праз дваццаць гадоў калегавання я пачула ад Савіцкага: “У аўтара ўсё напісана, чытаць трэба ўважліва...”

...Савіцкі гадаваўся ў дзедавым доме з невялікім садам, але і дом, і сад былі гарадскія. Горада Баранавічы. І, як усе баранавіцкія дамы й сады, добра памяталі, як бывала за немцамі, за палякамі і за саветамі; пад немцамі меліся на ўвазе “немцы чатырнаццатага году” (Першай сусветнай вайны). Пра немцаў сорак першага казалі зусім інакш.

Паміж процьмай хлапечых заняткаў Валодзя Савіцкі хадзіў у школу. Здаецца, на пятым годзе навучання школьнікаў абавязалі мэтава наведаць тэатр, якога Баранавічы не мелі. Настаўнікам раілі сталічны ТЮГ, але Савіцкаму пашанціла трапіць адразу ў Купалаўскі. Навучаны чытаць і слухаць, школьнік Савіцкі глядзець яшчэ не ўмеў, але... Цягам тэатральнага доследу, паводле Савіцкага, “пад скуру лезла нейкая зараза...” Балазе, у родных Баранавічах трапіўся чалавек, апантаны драматычным гуртком. Галоўным героем пастановак мелася быць вялікая вайна, але “ўблытаўся” Гогаль з Чэхавым. І — усё. Усё для Уладзіміра Савіцкага вырашылася. У 1976 годзе ён паехаў рабіца артыстам, трымаць іспыты ў Мінскі інстытут культуры, які на той час раскашаваў купалаўскімі акцёрамі ў выкладчыках...

Генеральную лінію рэжысёра Уладзіміра Савіцкага я магла б вывесці з цытат сваіх аглядных артыкулаў і рэцэнзій на яго пастаноўкі. Першыя датаваныя пачаткам 1990-х: Савіцкі перажываў гэтак званы студыйны бум дзевяностых, стварыўшы тэатр-студыю “Абзац” з “Няскончанай драмай” Францішка Аляхновіча, на якой “...я сядзела ды іранізіравала, пасмейваючыся і з сябе, і з Аляхновіча, упарцілася рэжысёравай празрыстай дзейнасці, маўляў, за такія просталінейна-літаратурныя ісціны я б на сцэне ніколі не заступілася, а ўжо мераць іх па сабе... Я прагледзела іхнія аб’ёмы ды ёмістасці: пасля рэжысёра Уладзіміра Савіцкага іх, узбуйненых сцэнаю, ужо не прамінеш. І тое, што спектакль адбыўся адзінадзіны раз і невядома, ці прычакаем мы разу наступнага, спрыяе тэатральнай легендарнасці, накшталт таго, як жыццёвая драма ў спектаклі сілкуе драму ўяўную, пісаную.”

Колькі лічаных разоў публіка дзівілася з “Раскіданага гнязда” Янкі Купалы (спектакль ішоў пад назвай “Сумная аповесць”), дзе “такт й далікатнасці стараннямі Уладзіміра Савіцкага выстачае кожнаму і ўсім... бо менавіта гэтыя якасці абыходжання з тэкстам Купалы, з людзьмі ягонае п’есы ды з людзьмі ў зале і падводзяць да думкі: перадусім не сацыяльныя катаклізмы... не грамадска-палітычныя неўразумеласці вызначаюць чалавечыя радасці-пакуты. Богам закладзена куды больш важкае, складанае ды непрадбачанае... Хораша, спакойна будзе толькі **там**. Гэта ці не значыць — не шукай дарэмна. Жыві. **Тут**”.

А потым былі Васіль Быкаў, Ян Баршчэўскі, Уладзімір Караткевіч, Уладзіслаў Галубок, Кандрат Крапіва, зноў Купала, зноў Аляхновіч, і ці не кожны спектакль ставаў падзеяй і нават тэатральным адкрыццём літаратуры. Няйначай **эпоху** сціпла распачаў рэжысёр Савіцкі, замірыўшы з тэатральнай сцэнай героя Уладзіміра Караткевіча ў “Дзікім паляванні караля Стаха” 2005 года; праўда, малая сцэна Купалаўскага тэатра, дзе гэта адбылося, сталася для іх малаватаю.

“...На персанажаў Кандрата Крапівы Савіцкі глядзіць з нашае “цудоўнае далечы” — і сцэнічнае жыццё... апавядае пра стан знаёмы, клопат тутэйшы, дзень сённяшні”.

“...Калі з Мікітам Зноскам дваццаць гадоў таму мы набывалі голас, дык “панам міністрам” (“Пан міністар” Ф. Аляхновіча. — **Ж. Л.**) цяпер гэты голас аддаём... А Савіцкі рушыў далей: замест звыклага Філі-свінабоя, які колькі разоў ужо тупаў на беларускай сцэне, вывеў... спраўнага героя найноўшага часу”.

Ат! Чаму ж я не пішу пра тое, што ў акцёрах Уладзімір Савіцкі ажно дзесяць гадоў служыў бабруйскай Мельпамене і звёў сяброўства з рэжысёрамі Міколам Труханам ды Віталём Баркоўскім; што трапіў пад уплыў іх прафесійнай налаўчонасці, прывезенай ад Анатоля Эфроса; што сам апантана навучаўся рэжысуры, а потым кштalціўся ў Юрыя Любімава і Алега Табакова; што, уражаны ў дзяцінстве Купалаўскім тэатрам, у гэты самы тэатр быў прыняты ставіць спектаклі?! Што свой чалавечы юбілей аздзначыў мастацкім кіраўніком Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача...

“Кіраўнік, начальнік, галоўны, — у тэатры гэта ўсяго толькі назвы, словы, — сведчыць рэжысёр. — Але не давайце веры таму, хто не дбае пра слова, каму ў тэатры не рупіць літаратура. Ці лёгка было б зразумець адно аднаго, каб яе не існавала? Ніводная літаратура не пацярпела ў славутыя трыццатыя так, як беларуская. А яна толькі-толькі падымалася, была вельмі й вельмі цікавая, дзейсная, адметная. Пачынаючы з Купалы, з паэта-сімваліста, драматурга яна падымалася над зямлёй, лунала, давала нагоду для такога ўяўлення, якое складана знайсці ў іншай літаратуры. Яна дала нагоду для тэатра новага пакалення... Трэба ўмець ёй паддацца, умець яе прачытаць, трэба ёй адпавядаць на сцэне. Часам у яе трэба вучыцца тым, хто піша для тэатра сёння. Такая мая генеральная лінія...”

...Тэатр заўсёды распавядае пра дзень сённяшні. Сёння Уладзімір Савіцкі шукае расповед для заўтрашняга дня.

***На здымку: Уладзімір Савіцкі, ураджэнец Берасцейшчыны, мастацкі кіраўнік Беларускага рэспубліканскага тэатра юнага гледача.***

# Сакрэты залатароў



**Залачонае срэбра, залатая саломка, залацістая паціна на каменным узоры, зіхоткая нітачка ў парчовай тканіне... Старажытныя майстры, ствараючы самыя розныя прадметы хрысціянскага культу, нібы дадавалі да іх рукатворнай прыгажосці часцінку сонечнага ззяння. Залатары, чаканшчыкі, ювеліры, ткачы, разьбяры, кавалі... Воляю Божай рабілі яны сваю адмысловую справу, не здагадваючыся, што пакідаюць на зямлі каштоўныя помнікі культуры, унікальныя творы і нават шэдэўры ў многіх відах і жанрах дэкаратыўна-прыкладнога мастацтва.**

Святлана БЕРАСЦЕНЬ

Як траплялі да вучоных культурныя скарбы берасцейскай зямлі? Вядома, кожнаму даследаванню папярэднічалі пошукі ды знаходкі. У спецыяльнай літаратуры такіх прыкладаў — мноства. Вось якім чынам папоўніў калекцыю Брэсцкага абласнога краязнаўчага музея кубак, зроблены ў перыяд 1588 — 1622 гг. Гансам Бойтмюлерам, золатакавалём з германскага горада Нюрнберга. У 1962 г. вясковец В. Макарэвіч, жыхар Страдзеча, што ў Брэсцкім раёне, знайшоў скарб і, як мае быць, здаў яго дзяржаве. У скарбе знаходзіўся і старажытны кубак (срэбра, ліццё, чаканка, гравіроўка, залачэнне). Праўда, на ім адсутнічала накрыўка. Затое захаваліся клеймы — найкаштоўная інфармацыя для спецыялістаў, якія, сярод іншага, атрымалі дадатковы факт у пацвярджэнне актыўных стасункаў нашых продкаў з еўрапейскімі суседзямі. Дарэчы, пра ўплыў нямецкага гравёрнага мастацтва, а таксама пра дасведчанасць у дасягненнях Віленскага манетнага двара (працаваў у 1545 — 1627 гг.) распавядае яшчэ адна знаходка з таго самага берасцейскага скарба. Гэта кубак (срэбра, ліццё, чаканка, гравіроўка, залачэнне), выраблены пры канцы XVI — на пачатку XVII стст. Клеймаў на ім няма. Дык можа, стваральнікам кубка быў таленавіты месціч?

Іншы факт сведчыць пра глыбінныя повязі беларускіх майстроў з традыцыямі культавага мастацтва Візантыі. У 1964 г. знакамітаму вучонаму Пятру Лысенку, пад кіраўніцтвам якога спецыялісты Інстытута гісторыі Акадэміі навук БССР вяліся раскопкі ў Пінску, пашанцавала на рэдкасную археалагічную знаходку: абразок “Хрыстос Эмануіл” (пачатак XII ст., камень, разьба, пазалота). Цяпер гэты мініяцюрны помнік памерам 3,5х2х0,6 см, захоўваецца ў Інстытуце гісторыі НАН Беларусі. Паводле даследаванняў, яго іканаграфія грунтуецца на візантыйскіх узорах і паўтарае пэўны візантыйскі арыгінал. Аўтарам паўтору мог быць і правінцыйны разьбяр з Візантыі, але хутчэй за ўсё, мяркуюць спецыялісты, ім быў менавіта мясцовы майстар.



У 1960-я гады, сумнавядомую эпоху ваяўнічага савецкага атэізму, беларускія вучоныя, людзі таленавітыя, адукаваныя і сумленныя, стараліся ўратаваць ад разрабавання ці знішчэння той мастацкі скарб, што цягам стагоддзяў зберагаўся ў касцёлах і цэрквах. Дванаццатая экспедыцыя Дзяржаўнага мастацкага музея БССР выявіла ў 1969 г. на Берасцейшчыне сапраўдныя скарбы. Сярод іх — пацір (срэбра, ліццё, чаканка, гравіроўка, залачэнне). Без клеймаў, але з выгравіраваным надпісам па-польску, які пазначае і канкрэтнага мясцовага “вытворцу”, і дату стварэння: 1666 г. Рытуальны келіх знаходзіўся ў Петрапаўлаўскай царкве ў Ружанах. Цяпер ён — у зборы Нацыянальнага мастацкага музея Беларусі.

Калекцыю нашай галоўнай скарбніцы мастацтва ўзбагацілі і знаходкі той самай экспедыцыі, месцам знаходжання якіх была Георгіеўская царква ў Давыд-Гарадку. Два паціры, “грабніца” (даразахавальніца) і дыскас — вырабы давыд-гарадоцкіх залатароў 1740 — другой паловы XVIII ст. Тады ў Давыд-Гарадку працавалі залатары Сямён Шаўчыловіч, Ярко, Сямён Ляўчук, таксама залатары з Нясвіжа Арон Кішаловіч, Земан Натовіч, Янкель Лянковіч. Яны ўдзельнічалі і ў аздабленні іканастаса Георгіеўскай царквы. Пра мастацтва тамтэйшых умельцаў пісала знаная даследчыца Н. Высоцкая, адзначаючы іх высокі прафесіяналізм, спанатранасць у розных тэхніках працы з металам, імкненне перадаць стылістычныя асаблівасці сваёй эпохі ды ўнікнуць пры гэтым абсалютнага падпарадкавання прынятым канонам, нівеліроўкі мясцовых густаў.

Найвялікшай праявай беларускай самабытнасці ў мастацтве, звязаным з хрысціянствам, застаецца феномен дэкаратыўна-прыкладной творчасці, выяўлены ў 1958 г. у царкве Прасвятой Маці Божай у Лемяшэвічах Брэсцкай вобласці.



Царскія вароты (канец XVIII ст., салома, пляценне, ткацтва, шоўк, аксаміт) — шэдэўр, які знаходзіцца сёння ў зборы НММ Беларусі, атрымаў другое жыццё пасля рэстаўрацыі, здзейсненай Л. Лось у 1976 г. Сёння гэта сапраўды рарытэт. А ў канцы XVIII — пачатку XIX стст. царскія вароты з саломы былі распаўсюджаны ў беларускіх цэрквах.

Нямала пішацца пра тое, у якіх умовах, пад чыім уплывам фарміраваліся і развіваліся традыцыі нашых майстроў, закладваўся падмурак нацыянальнай прафесійнай школы. А скарбы культурнай спадчыны па-ранейшаму ахінутыя таямнічым вэлюмам часу і ўжо ніколі не раскрыюць усіх сакрэтаў сваіх стваральнікаў і колішніх гаспадароў.

***На здымках: каменны абразок; кубак германскага майстра са скарба, знойдзенага ў Брэсцкім раёне; царскія вароты з царквы ў Лемяшэвічах.***

# У прадчуванні кніжнага рэнесансу

Алена ДРАПКО,
фота Кастуся Дробава

**Сярод культурных з'яў, якія маюць заканамернасць штогод паўтарацца, захапляе іх непаўторнае напаўненне насычанымі падзеямі. А чым здзівіць нас на гэты раз Дзень беларускага пісьменства? Прыадкрыць завесу таямнічасці і высветліць, якія падзеі сталі кропкамі адліку для супрацоўнікаў Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі, удалося ў размове з намеснікам дырэктара па навуковай рабоце, заслужаным дзеячам культуры Рэспублікі Беларусь Людмілай КІРУХІНАЙ.**



**— На чым акцэнтуеце ўвагу?**

— На працягу 2009—2010 гг. мы праводзілі рэспубліканскае навуковае даследаванне, мэтай якога было вывучэнне сучаснага стану і тэндэнцый развіцця дзіцячага чытання ў рэспубліцы. Гэта грунтоўнае і маштабнае даследаванне мы ўзгаднялі з Міністэрствамі культуры і адукацыі Беларусі, бібліятэчнай супольнасцю нашай краіны. Яно ахапіла дзіцячую аўдыторыю ад 7 да 15 гадоў. Мы вывучалі таксама, як ставяцца і ўплываюць на дзіцячае чытанне бібліятэкары, настаўнікі, бацькі. Даследаванне выразна акрэсліла праблемную сітуацыю. Усім вядома, што цяпер зніжаны інтарэс да чытання кніг. Паколькі вывучэнне мовы і чытанне пачынаюцца са школы, мы звярнулі ўвагу на тое, як і што чытаюць дзеці, калі вывучаюць родную мову, літаратуру. Тут выявілася даволі супярэчлівая сітуацыя. Інтарэс да дзіцячай кнігі існуе, і нават 70 працэнтаў дзяцей пацвердзілі, што чытаюць, але ў большасці сваёй гэта звязана з праграмай сярэдняй школы. Пры гэтым па-за межамі навучальнага працэсу да пэўных жанраў і аўтараў звяртаецца каля 40 працэнтаў нашых дзяцей. Што ж чытаюць дзеці, які перыядычны друк іх цікавіць? Высветлілася, найбольш папулярныя жанры — фантастыка і дэтэктывы, а вось творы беларускіх аўтараў, на жаль, вельмі мала запатрабаваны.

**— Як можна змяніць сітуацыю, каб дасягнуць адпаведных вынікаў і далучыць насельніцтва да чытання беларускага?**

— Паводле вынікаў даследавання мы зрабілі пэўныя прапановы. Нам неабходна распрацаваць нацыянальную міжведамасную праграму па развіцці дзіцячага чытання ў нашай краіне і задзейнічаць у межах гэтай праграмы ўсіх зацікаўленых. У першую чаргу пісьменнікаў: трэба ствараць адпаведную літаратуру на роднай мове, каб яе развіваць і захоўваць і каб яе вывучалі з маленства! У нас не хапае навукова-папулярнай літаратуры для дзяцей, якая садзейнічае інтэлектуальнаму развіццю і добра матывуе жаданне звярнуцца да літаратурнага твора. Нам неабходна вярнуцца да ідэі стварэння дзіцячага выдавецтва, якое павінна планаваць і выдаваць менавіта дзіцячую літаратуру, распаўсюджваць яе. Патрэбен своеасаблівы дзяржаўны заказ на выданне літаратуры для дзяцей: і навукова-папулярнай, і даведачнай, і энцыклапедычнай.

Наступны крок — яе папулярызацыя. Тут бібліятэкі маюць пэўны вопыт, і разам з Саюзам пісьменнікаў Беларусі, выдавецтвамі і іншымі ўстановамі, якія будуць мець дачыненне да выканання праграмы, маглі б дасягнуць пэўных станоўчых вынікаў. Таксама можна праводзіць розныя акцыі з мэтай папулярызацыі выдавецкай дзейнасці і сучасных пісьменнікаў, у тым ліку маладых аўтараў. Неабходна ствараць сучаснымі сродкамі інфармацыйных тэхналогій нешта кшталту інтэрнэт-партала, які б прадстаўляў нашу літаратуру. Варта пашырыць кола перыядычнага друку для дзяцей. У нас няшмат такой перыёдыкі, і самі дзеці пры апытанні гэта адзначылі. Не хапае таксама коміксаў і газет. А гэта менавіта той матэрыял, якім можна зацікавіць.

**— Якія мерапрыемствы Нацыянальная бібліятэка будзе праводзіць у святочныя дні ў Мінску?**

— Падчас святкавання Дня беларускага пісьменства заўсёды вылучаюцца лепшыя літаратурныя творы ў розных намінацыях. У гэтым годзе мы сумесна з Міністэрствам інфармацыі зробім тэматычную выстаўку гэтых твораў у сценах Нацыянальнай бібліятэкі. А яшчэ напярэдадні нас чакае свята Дня ведаў. Плануецца ў сувязі з гэтым шэраг выставак. У бібліятэку прыйдуць дзеці, гэта ўжо традыцыя апошніх пяці гадоў. Для некаторых тут прагучыць першы званок.

**— З праблемамі якога характару вы сутыкаецеся пры падрыхтоўцы мерапрыемстваў да такіх свят?**

— Калі меркаваць па мінулых гадах, то мы паказвалі Нацыянальную бібліятэку як сучасны інфармацыйны і сацыякультурны цэнтр: што мы сабою ўяўляем, якія ў нас магчымасці, чым мы карысныя кожнаму як галоўная бібліятэка краіны, да будаўніцтва якой усе мелі дачыненне. Сёння мы паказваем, як адпавядаем патрабаванням сучаснасці. І з улікам таго, што Дзень беларускага пісьменства святкуецца ў розных мясцінах, галоўнае пытанне не толькі ў тым, як захаваць крыніцы, што ёсць у нашых фондах, але і як забяспечыць доступ да іх у аддаленым рэжыме.

— Што да святкавання Дня беларускага пісьменства, то існуюць адпаведныя планы ў міністэрствах інфармацыі і культуры Рэспублікі Беларусь, якія налічваюць шэраг мерапрыемстваў. І Нацыянальная бібліятэка Беларусі таксама ў іх прымае ўдзел. Акрамя ўсяго, мы атрымалі даручэнне зрабіць выстаўку з нашых фондаў. Таму на свяце абавязкова будзе экспазіцыя старадрукаў — у прыватнасці, пэўная колькасць выданняў XVI — XVIII стст, якія прадставіць наш спецыяліст.

Як вядома, кнігадрукаванне ў Беларусі ў XVI ст. перажывала рэнесанс. Захаваліся выданні, якія сведчаць пра гэта, таму мы і прапануем пазнаёміцца з імі ўсім аматарам даўніны. Яшчэ Нацыянальная бібліятэка прэзентуе на свяце фаліянты са сваіх фондаў, якія датычаць літаратурнай творчасці Якуба Коласа. Вядома, што Колас меў дачыненне да Ганцаўшчыны, і ёсць творы, якія пацвярджаюць гэта, — прыжыццёвыя, арыгінальныя.

Штогод у час правядзення свята мы робім падарунак мясцовай кніжніцы, якая прымае гасцей. Сёлета папоўнім фонд Ганцавіцкай раённай бібліятэкі. Плануем правесці прэзентацыю мультымедыйнага дыска, прысвечанага юбілею Максіма Багдановіча. Гэта выданне змяшчае творы паэта, выданні з аўтографамі розных аўтараў, якія маюць дачыненне да Багдановіча, да яго грамадскіх, літаратурных зносін. На дыску будзе і бібліяграфія, прысвечаная паэту — гэта каля 2 тысяч крыніц. Яна прадстаўляе цікавасць для тых, хто вывучае спадчыну паэта, выкладае літаратуру. Будзе магчымасць пазнаёміцца з этнаграфічным матэрыялам, творамі жывапісцаў, графікаў, як нашых, так і замежных, што звярталіся да творчасці Максіма Багдановіча. Будзе таксама гучаць музыка, прысвечаная паэту і на яго вершы напісаная. Наведвальнікі змогуць набыць гэта выданне-дыск.

Яшчэ адзін вельмі важны момант — наш удзел у "Ганцавіцкіх чытаннях". Падчас іх будзе абмяркоўвацца неабходнасць прыняцця нацыянальнай праграмы развіцця чытання. Нацыянальная бібліятэка выступіць з адпаведным дакладам.

# Край, дзе акрыляецца душа

**Брэсцкая абласная бібліятэка імя Максіма Горкага — актыўны ўдзельнік усіх падзей, што адбываюцца на Берасцейшчыне. Праекты, якія нарадзіліся ў яе сценах, ведаюць па ўсёй Беларусі. Да бібліятэкі горнуцца людзі, спрычыненыя да распаўсюджвання ведаў і мастацкага слова, ды і ўсё насельніцва, якое стала заўсёднікам змястоўных прэзентацый, выставак, сустрэч. Да Дня беларускага пісьменства тут падрыхтавалі шмат цікавага. Пра некаторыя асноўныя падзеі, якія непасрэдна арганізуе кніжніца, "ЛіМу" распавяла намеснік дырэктара Ала МЯСНЯНКІНА.**

Ірына ТУЛУПАВА

— Па прапанове Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь бібліятэка ўдзельнічае ў працы павільёна "Сучасная беларуская кніга", дзе будуць прадстаўлены дзве выстаўкі з нашага фонду. Адна з іх прысвечана 120-годдзю Максіма Багдановіча: "Паэтычная крыніца Максіма Багдановіча". Другая — 130-годдзю Якуба Коласа, яна будзе мець назву "Святло несці".

Як вядома, падчас Дня беларускага пісьменства плануецца адкрыць помнік Якубу Коласу ў Ганцавічах. Класік беларускай літаратуры настаўнічаў у вёсках Люсіна Ганцавіцкага раёна і Пінкавічы Пінскага раёна. Менавіта там нарадзіліся ідэі напісання маіх любімых твораў, у прыватнасці, яго аповесць "У палескай глушы". Думаю, наведвальнікам выстаўкі будзе цікава даведацца, якія матэрыялы пра жыццё і творчасць Коласа ў той час на Ганцаўшчыне і Піншчыне ёсць у фондах бібліятэкі. Мы ўпершыню прадстаўляем іх на выстаўцы ў такім аб'ёме.

Плануецца размясціць каля 200 кніг. Будуць прадстаўлены прыжыццёвыя выданні творцы, што пабачылі свет да 1956 года. Таксама — сучасныя кнігі па вывучэнні спадчыны пісьменніка. У прыватнасці, выстаўку ўпрыгожаць выданні М. Мушынскага "Мае каласавіны: з вопыту вывучэння літаратурнай і грамадска-культурнай дзейнасці Якуба Коласа", А. Манкевіч "Праз прызму жыцця: стылёва-жанравыя асаблівасці апавяданняў Якуба Коласа", І. Навуменкі "Якуб Колас: нарыс жыцця і творчасці", зборнік матэрыялаў Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі, якая адбылася ў Мінску ў верасні 2007 г., "Янка Купала і Якуб Колас у сістэме дзяржаўна-культурных і духоўна-эстэтычных прыярытэтаў XXI стагоддзя" ды іншыя найцікавейшыя выданні нашага часу.

Каля 160 асобнікаў будзе на выстаўцы ў гонар юбілею Максіма Багдановіча. Сярод іх — факсімільнае выданне зборніка "Вянок". Зацікавяць удзельнікаў свята і кнігі пра жыццёвы і творчы шлях аўтара "Веранікі", прысвячэнні яму.

Акрамя таго, у святочныя дні ў нашай бібліятэцы адбудуцца сустрэчы Аляксандра Карскага — праўнукам Яўхіма Карскага — са студэнтамі гістарычнага факультэта Брэсцкага дзяржаўнага ўніверсітэта. Ён раскажа ім пра свайго прадзеда. Як вядома, 1 студзеня 2011 года споўнілася 150 гадоў з дня нараджэння акадэміка Яўхіма Карскага. Яго праўнук наведае вёску Будча Ганцавіцкага раёна, дзе пахаваны бацька акадэміка Я. Карскага Фёдар Навіцкі. Ён быў святаром мясцовай царквы. Побач з храмам — яго магіла. Аляксандр Аляксандравіч збіраецца пакінуць у мясцовай бібліятэцы некаторыя працы і выданні — у знак пашаны да памяць і павагу да роду Карскіх.

# Падзея на славутай зямлі

**Да Дня беларускага пісьменства Ганцавіцкая раённая бібліятэка імя Васіля Праскурава аб'явіла адмысловую акцыю, якая паспрыяе пашырэнню ведаў пра гісторыю і падзеі, пра эканоміку, культуру, быт і мову нашых папярэднікаў. Пра акцыю распавядае Галіна ПУПАЧ, загадчык аддзела маркетынгу.**

### Конкурс сярод насельніцтва

— Бібліятэка сёлета абвясціла конкурс старых выданняў. Мы заклікаем жыхароў горада і раёна прыносіць у кніжніцу свае старыя кнігі. Гэта можа быць мастацкая, навукова-папулярная альбо энцыклапедычная літаратура, выдадзеная да 1950 года. Такое абмежаванне нам параіла даведчаная ў гэтым пытанні наменсік дырэктара Брэсцкай абласной бібліятэкі імя М. Горкага Ала Мяснянкіна. Трошкі хваляваліся напачатку, думалі, што чытачы не падтрымаюць прапанову. Але жыхары з задавальненнем удзельнічаюць у акцыі, шукаюць у сваіх архівах сапраўдныя рарытэты. Уражвае, як беражліва людзі ставіліся да кніг і перыядычных выданняў, нават самі рабілі падшыўкі! Так, супрацоўнік падатковай службы Валерый Лосік перадаў на конкурс падшыўку часопіса "Наука и жизнь" за 1892 год!

Вынікі конкурсу будуць падводзіцца па трох намінацыях: самая даўняя кніга для дарослага чытача, для дзіцячага чытання і самае рарытэтнае перыядычнае выданне. З гэтых друкаваных выданняў у Дзень беларускага пісьменства будзе арганізаваная адмысловая выстаўка на вуліцах горада. Пераможцаў чакаюць узнагароды.




### Скарбы ад землякоў

— Вельмі актыўна бібліятэка займаецца выдавецкай справай, — працягвае Галіна Пупач. — Апошнім часам убачылі свет зборнікі твораў маладых аўтараў, легенды і паданні Ганцаўшчыны, кнігі Алеся Каско "Нічога больш" і Івана Лагвіновіча "Элегія палескага матыля". Мы цэлы год працавалі над тым, каб як мага шырэй прадставіць творчасць нашых землякоў-пісьменнікаў падчас свята. Таму прэзентацыя кніг А. Каско і І. Лагвіновіча адбудзецца ў Дзень беларускага пісьменства.

Бібліятэка з асаблівай увагай ставіцца да літаратараў Ганцаўшчыны, бо гэта людзі, якія надаюць славу і гонар краю, і варта больш расказваць пра іх жыццё і дзейнасць. Мы ўвогуле імкнёмся як мага шырэй вывучыць і прадставіць літаратурную спадчыну. З гэтай нагоды ладзіцца шмат мерапрыемстваў, выдаюцца кнігі, збіраюцца матэрыялы пра аўтараў, успаміны сучаснікаў. Кожны год мы праводзім вечары памяці Міхася Рудкоўскага, Івана Кірэйчыка, Уладзіміра Марука. Распачала гэтую дзейнасць дырэктар Тамара Валовіч. Яна арганізавала Праскураўскія чытанні, якія мы імкнёмся праводзіць масава, з удзелам грамадскасці. Звычайна яны ўключаюць цыкл мерапрыемстваў. Васіль Праскураў — гэта чалавек-асоба, добры і спагадлівы, інакш бы не ўспаміналі яго так шчыра родзічы, сябры, героі нарысаў, супрацоўнікі, вучні.

### З матчыным запаветам

— У бібліятэках нашага раёна праходзяць акцыі "Час чытаць на беларускай мове". Арганізуюцца выставы, дзе мы прадстаўляем лепшыя творы беларускіх аўтараў. Гэта і класіка, і навінкі друку, і перыядычныя выданні. У нас ёсць уліковыя дакументы, дзе фіксуецца колькасць выдадзенай чытачам беларускай літаратуры за дзень. Ведаем людзей, хто пастаянна чытае беларускія кнігі. Па чытацкіх фармулярах лічым, хто больш прачытаў за год. Вось і да пачатку верасня вызначым пераможцаў, якія будуць узнагароджаны.

Таксама ў верасні чытачы змогуць завітаць у літаратурны куток. Гэта асобны пакойчык, дзе мы прадставім матэрыялы, фотаздымкі, партрэты, якія распавядуць пра багатую літаратурную спадчыну Ганцаўшчыны. Тут жылі і жывуць людзі, якія таленавіта валодаюць словам, умеюць берагчы, ушаноўваць, папулярызаваць матчыну мову і беларуская Песняра.

**Запісала Марына ЕЛІСТРАТАВА, фота аўтара**

***На здымку: унікальная падшыўка часопіса "Наука и жизнь" за 1892 г.***

## Рукапісная спадчына

# Арабаграфічнае "ўбранне" беларускага пісьменства

**Кніжная спадчына нашай поліэтнічнай і поліканфесіянальнай дзяржавы багатая і разнастайная. Рукапісныя кнігі з'явіліся ў Беларусі ў X стагоддзі і пражылі доўгі век: існавалі да пачатку кнігадрукавання і пазней, паралельна з ім. Для кнігапісання выкарыстоўваліся не толькі розныя мовы, але і розныя алфавіты. Тэксты на беларускай мове пісалі кірыліцкімі, лацінскімі і нават арабскімі літарамі. Арабскі алфавіт для сваіх рэлігійных кніг выкарыстоўвалі татары-мусульмане.**

**Алена ЦІТАВЕЦ, загадчык сектара кнігазнаўства аддзела рэдкіх кніг і рукапісаў ЦНБ НАН Беларусі**

Першыя звесткі пра знаходжанне татараў на тэрыторыі Беларусі гісторыкі адносяць да пачатку XIV ст. Перасяленцы паступова ўжыліся ў мясцовы палітычны і сацыяльна-эканамічны ўклад. Адсутнасць праяў агрэсіўнасці і нецярпімасці з боку татараў-мусульман дазволіла ім выжыць, захаваць сваю веру, хаця адносіны да іх былі не заўсёды роўныя. Мірнае суіснаванне розных этнасаў і канфесій у спецыфічных умовах Вялікага Княства Літоўскага садзейнічала ўмацаванню талерантнасці карэннага насельніцтва, што з'яўляецца адной з найбольш прывабных рыс беларускага менталітэту.

Умовы пражывання ў пераважна хрысціянскім асяроддзі ў аддаленасці ад сваёй гістарычнай радзімы спрыялі інтэграцыі татараў у культуру карэннага насельніцтва. У XVI — пачатку XVII ст. татары ВКЛ паступова страцілі родную мову і сталі карыстацца беларускай, а пазней і польскай (з XIX ст. татары беларуска-літоўскіх губерняў карысталіся таксама рускай мовай). Каб зберагчы на новай радзіме ісламскую рэлігію, татары пачалі перакладаць на беларускую і польскую мовы свае рэлігійныя кнігі.

Уся літаратура была арабаграфічнай (арабскі алфавіт лічыўся свяшчэнным). Нават тэксты на беларускай і польскай мовах пісаліся арабскімі літарамі. Да гэтых моў быў спецыяльна дастасаваны арабскі алфавіт, у які былі ўведзены яшчэ дзве літары для абазначэння гукаў, характэрных для беларускага вымаўлення ([дз] — [дз'], [ц] — [ц']). Цікава, што беларуская мова гэтых дакументаў адрозніваецца ад мовы кірыліцкіх пісьмовых помнікаў, бо, бадай, не мае ўплываў царкоўнаславянскай мовы. У некаторых выпадках арабскім пісьмом нават больш дакладна перададзена гаворка таго часу.

Змест рукапісаў фарміраваўся з сярэдзіны XVI да канца XVIII ст. Пазней тэксты перапісваліся да другой паловы XX ст. амаль без змяненняў. Да нас дайшлі толькі тыя рукапісы, што былі створаны ў XVII—XX стст. Яны захоўваюцца ў дзяржаўных і прыватных кнігазборах. На жаль, іх засталося вельмі мала. Усяго ў свеце зафіксавана некалькі сотняў, у дзяржаўных калекцыях Беларусі — 50. Яны захоўваюцца ў Цэнтральнай навуковай бібліятэцы Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі, Нацыянальнай бібліятэцы Беларусі, бібліятэцы Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў, Гродзенскім дзяржаўным музеі гісторыі рэлігіі і Музеі гісторыі Клеччыны.

Калекцыя ЦНБ НАН Беларусі складаецца з 15 рукапісаў канца XVII — першай чвэрці XX ст. Большасць кніг напісаная на дзвюх або трох мовах (арабскай, цюркскай, "беларуска-польскай") арабскім пісьмом, у асобных рукапісах сустракаюцца запісы перапісчыкаў і ўладальнікаў не толькі арабскімі літарамі, але лацінскімі і кірыліцкімі (у тым ліку і на рускай мове).

Пра перапісчыкаў мы ведаем вельмі мала, іншы раз толькі прозвішча, якое пастаўлена на рукапісе, і месца жыхарства. У большасці пісцоў прозвішчы славянскага тыпу, а імёны цюркскія ці арабскія: "*Писалъ сию книгу Мустафа Ждановичъ февраля 18 дня 1854 года, тогжъ месяца февраля окончилъ*". Кнігапісанне лічылася пачэснай богаўгоднай справай, а рукапісныя рэлігійныя кнігі — свяшчэннымі. Перапісчыкамі звычайна былі вернікі з добрай рэпутацыяй. Яны не капіравалі тэкст рэлігійных кніг механічна, іх працы папярэднічала малітва, якая дапамагала ўвайсці ў спецыяльны настрой. Пісцы стараліся захоўваць даўнія традыцыі: пісалі гусіным пяром, самі выраблялі чарніла з раслін.

Рукапісы захоўваліся ў татарскіх сем'ях у вялікай пашане, пераходзілі з пакалення ў пакаленне. У запісах на кнігах можна знайсці звесткі пра ўладальнікаў кніг ("*Дворонинъ гор. Слонима Илья сын Ивана Шегидевичъ*") і важныя падзеі іх жыцця ("*Сынъ Захария Мухи родился 11 декабря 1902 г. въ среду — 5 ч. 30 м. утр, коему дано того дня имя Алей*"; "*Сынъ Захария Мухо родился 15 декабря 1904 г. въ среду утречкомъ, а въ пятницу 17 декабря дано имя Ибрагимъ*").

Калі на некаторых кнігах захаваліся прозвішчы перапісчыкаў і ўладальнікаў, то імёны стваральнікаў беларускіх і польскіх тэкстаў, мясцовых мусульманскіх перакладчыкаў (за рэдкім выключэннем) невядомыя. З усіх рукапісаў, што захоўваюцца ў дзяржаўных калекцыях Беларусі, толькі ў найстарэйшым (у тэфсіры 1686 г. з калекцыі ЦНБ НАН Беларусі) пазначаны перакладчык — Ур'яш ібн Ісмаіл, імам мусульман горада Мінска. Магчыма, ужо ў XVII ст. у асяроддзі мінскай суполкі татараў існавала традыцыя перакладу і перапісвання рэлігійных кніг, што сведчыць пра высокі ўзровень развіцця духоўнай культуры татараў Беларусі. Дзякуючы ім унёску беларускае пісьменства набыло яшчэ і арабаграфічнае "ўбранне".

# Свята крочыць па краіне

***Да Дня беларускага пісьменства падрыхтаваліся кніжніцы ўсіх куточкаў Беларусі***

### *Берасцейшчына:*

**1 верасня** бібліятэкары Лагішынскай гарпасялковай бібліятэкі Пінскага раёна правялі ўрок ведаў "З чаго пачынаецца Радзіма".

**2 верасня** Пінкавіцкая сельская бібліятэка Пінскага раёна запросіць чытачоў на бібліятэчна-бібліяграфічны ўрок "Структура кнігі".

**9 верасня** Пружанская раённая дзіцячая бібліятэка правядзіць пасяджэнне клуба "Крынічка" — "Постаці далёкай мінуўшчыны".

### *Віцебшчына:*

**1 верасня** Полацкая цэнтральная гарадская бібліятэка імя Ф. Скарыны правяла тэматычны ўрок "Тут край маіх бацькоў".

**Віцебская** гарадская дзіцячая бібліятэка імя У. Караткевіча правяла ўрок ведаў "Родны край у свеце лепшы".

**Віцебская** гарадская бібліятэка імя А. Пушкіна правяла ўрок "Мая радзіма — Беларусь".

### *Гомельшчына:*

**1—30 верасня** Гомельская абласная ўніверсальная бібліятэка праводзіць выстаўку "Кніга кніг — Евангелле" з фондаў Веткаўскага музея народнай творчасці.

**Брагінская** раённая цэнтралізаваная бібліятэчная сістэма арганізуе падарожжа ў "Краіну Яе Вялікасці Кнігі".

**Тураўская** дзіцячая бібліятэка праводзіць урок-гутарку "Бібліятэка — скарбніца мудрасці".

### *Гродзеншчына:*

**З 4 па 11 верасня** ў Гродзенскай вобласці аб'яўлены інфармацыйны тыдзень "Вечнае святло Максімавай зоркі", прымеркаваны да 120-годдзя з дня нараджэння М. Багдановіча.

**8 верасня** аддзел краязнаўства Гродзенскай абласной навуковай бібліятэкі імя Я. Ф. Карскага арганізуе Шостыя Гарадзенскія чытанні, прысвечаныя беларускаму філолагу-славісту, этнографу, фалькларысту Яўхіму Карскаму.

**1 верасня** Лідская цэнтральная бібліятэка імя Янкі Купалы ладзіла гісторыка-літаратурную кампазіцыю "За сівой смугой стагоддзяў". Дапоўніла мерапрыемства кніжная выстаўка-прагляд "Каля вытокаў слова і кнігі".

**У Дзятлаўскай** раённай дзіцячай бібліятэцы прайшла інфармацыйная гадзіна "Святая заступніца Беларусі". Дзеці пазнаёміліся з жыццёвым шляхам Еўфрасінні Полацкай.

### *Магілёўшчына:*

**У Магілёўскай** абласной бібліятэцы да Дня беларускага пісьменства запланаваны кніжныя выстаўкі на абанеменце і ў аддзеле беларускай і краязнаўчай літаратуры "Вучоны і паэт у кардынальскай мантыі" (да 280-годдзя з дня нараджэння С. Богуш-Сестранцэвіча, рымска-каталіцкага царкоўнага дзеяча, заснавальніка Магілёўскай друкарні), "Промні асветніцтва", "Паклон беларускаму слову";

**6 верасня** пройдзе інфармацыйна-пазнавальная гадзіна "Апошні беларускі летапіс: Магілёўская хроніка Т. Сурты і Ю. Трубніцкага";

**У Клімавіцкай** цэнтральнай бібліятэцы адбудзецца пасяджэнне клуба "Незабыўныя сустрэчы" пад назваю "І будзе слова земляком гучаць над роднаю старонкай".

### *Міншчына:*

**1 верасня** ў Дзяржынскай цэнтральнай раённай бібліятэцы адбудзецца пасяджэнне клуба вясёлых знаўцаў "Як кніжка з'явілася".

**4 верасня** Жодзінская цэнтральная гарадская бібліятэка падрыхтавала "агляд аднаго жанру" — "Гісторыя Беларусі праз прызму гістарычнага рамана". Увазе чытачоў будуць прапанаваны кнігі пра Радзівілаў, Міндоўгаў, Гедыміна, Рагнеду, Вітаўта, Еўфрасінню Полацкую…

**10 верасня** ў Слуцкай цэнтральнай раённай бібліятэцы адбудзецца прэзентацыя выдання Слуцкага Евангелля "Слуцкое Евангелие — православная святыня Беларуси".

# “Такім я помню нашага Васеньку...”

## З успамінаў сястры Васіля Праскурава Ганны Праходскай



**Я на чатыры гады старэйшая за Васю, але як цяпер помню час яго нараджэння, бо нарадзіўся ён не ў радзільным доме, а пад сялянскай паветкай роднага двара. 25 жніўня 1926 года ў вёсцы Негаціна Дубровенскага раёна Віцебскай вобласці. Бацька ў гэты вечар вярнуўся з нарады са сваімі сябрамі-леснікамі, і з’яўленне доўгачаканага сына адзначылі вясёлай вечарынкай, на якую сабралася і ўся наша радня.**

Танцы працягваліся ўсю ноч, бо тата добра граў на скрыпцы. Ён таксама быў адмысловым паляўнічым, пчаляром, земляробам. Мама, Саклета Максімаўна, — працавітая і добрая жанчына — пасля замужжа пражыла ўсё сваё жыццё ў адной сям’і са свёкрам і свекрывёй. Гадавала і выхоўвала нас, чацвярых дзяцей (старэйшая памерла ад скарлатыны), прывучала да фізічнай працы, вучыла вышываць, вязаць, шыць. Тры з нас сталі настаўніцамі.

У пяцігадовым узросце Вася чытаў кнігі. Вельмі хутка запамінаў вершы, якія вучыла я, дапамагаў мне, калі я збівалася. З чацвёртага класа ён сам складаў вершы і высылаў іх у рэдакцыі газет “Піянер Беларусі” і “Пионерская правда”. Там іх друкавалі, а яму прысылалі ганарар. Вучыўся Вася выдатна, кожны клас заканчваў з пахвальнай граматай і падзякай бацькам за выдатнае выхаванне сына.

У 1941годзе ён закончыў Святошыцкую сямігодку, далейшая вучоба была спынена Вялікай Айчыннай вайной. Бацька памёр, а Вася, пятнаццацігадовы хлопчык, застаўся аратым на тры гаспадаркі з адным канём. У сям’і было напаўгалоднае існаванне: немцы забралі апошнюю карову, не было і хлеба, выжывалі на зялёных, з травы, праснаках. Сястра маці і браціха прыносілі нам малако, а Вася за гэта апрацоўваў іх соткі, бо гаспадары былі на фронце. Ён сам навучыўся кляпаць касу і прыстаўляць яе да касся, сам засяваў і баранаваў загоны, рэзаў і калоў дровы. Гэтаму ён вучыўся і ў мяне.

Ён любіў лес і леснікоў, аб’ездчыкаў, ляснічых, прысвячаў ім свае нарысы, у якіх заклікаў берагчы лес, не глуміць бяроз у час спуску бярозавіку.

З ранняга дзяцінства ён прывык рана ўставаць і на золку бегчы ў лес, у свае любімыя мясцінкі, дзе набіраў поўны кош баравікоў, якія мы з ім прадавалі на базары, каб купіць падручнікі для навучання.

З вясковымі сябрамі Васіль збіраўся ў партызаны, але паблізу не было атрада, а ў Цёмны лес Магілёўскай вобласці не змаглі перабрацца.

У 1944 годзе ён быў прызваны ў рады Чырвонай Арміі. Праслужыў шэсць год — у Венгрыі, Аўстрыі, Германіі. У час службы пісаў вершы і нарысы, якія друкаваліся ў армейскіх газетах. Не пакідала яго жаданне і да вучобы. Калі прыязджаў у адпачынак, забраў падручнікі за сярэднюю школу і ў вольны час рыхтаваўся, каб экстэрнам здаць экзамены.

Пасля дэмабілізацыі ён прыехаў да мяне ў Ганцавічы, бо маці памерла, а сястра ўзяла прымака. У вячэрняй школе здаў экзамены за сярэднюю школу і паступіў на факультэт журналістыкі БДУ, які закончыў з чырвоным дыпломам. Доўгі час працаваў рэдактарам газеты “Савецкае Палессе”.

У брата была мара — пабудаваць сваю хату, пасадзіць дрэвы вакол яе, выхаваць добрых дзяцей. Ён яе здзейсніў, хоць нялёгка было гэта зрабіць: доўга выплачваў ссуду, узятую на будаўніцтва дома.

Вакол дома выраслі дрэвы, цвітуць кветкі, толькі няма гаспадароў. З глыбокім болем у сэрцы прыходжу сюды. Боль сціхае, калі ўбачу на падворку семярых любімых унукаў Васіля Фёдаравіча і чатырох дачок, такіх мілых і працавітых, дабрадушных і міласэрных, якім быў ён сам, дарагі, мой любімы брацік Васенька!

*Ганны Фёдараўны Праходскай, старэйшай сястры вядомага нарысіста Васіля Праскурава, на жаль, ужо таксама няма ў жывых, але ў Ганцавічах яе добра ведаюць і памятаюць. Амаль сорак гадоў яна працавала ў сярэдніх школах раёна выкладчыцай беларускай мовы і літаратуры, была завучам і намеснікам дырэктара гарадской СШ № 2. У 1970 годзе Г. Праходскай прысвоена званне “Заслужаны настаўнік Беларусі”. Успаміны Ганны Фёдараўны пра малодшага брата захоўваюцца ў цэнтральнай раённай бібліятэцы, якая ўжо шмат часу носіць імя лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі, выдатнага пісьменніка Васіля Праскурава.*



# Старэйшы брат

## З успамінаў малодшай сястры Міхася Рудкоўскага Ірыны Рудкоўскай

Першае дзіця ў нашай сям’і — дачушка Генька — памерла ў паўтарагадовым узросце. Потым нарадзіўся Міша, затым сястра Ліда і, нарэшце, я. Калі з’явілася на свет я, Мішу было адзінаццаць гадоў. Мама расказвала:

— Як толькі ты нарадзілася, была яшчэ зусім маленькая, браць цябе на рукі Міша баяўся. Ён, прыйшоўшы са школы і паклаўшы торбачку з кнігамі, перш за ўсё падыходзіў да калыскі, нагінаўся над ёю і заміраў, прытуліўшыся сваёй шчакою да тваёй шчочкі.

У дзяцінстве я, як, мабыць, і большасць дзяцей, вельмі баялася цемры. Баялася адна ў пакоі спаць... Бывала, вечарам засну, а потым прачнуся. Звычайна дзеці моцна спяць, а вось мне страх не даваў моцна спаць. Прачнаюся і доўгадоўга не магу зноў заснуць. А вось калі дадому прыязджае Міша — тады іншая справа, тады кладзешся спаць смела. Прачнешся — у зале гарыць лямпа, брат чытае альбо нешта піша. І табе так спакойна-спакойна засынаецца. Ані страху, ані боязні.

Міша ўжо працаваў настаўнікам у суседняй з Вострававам вёсцы Кукава. Лета. Ён у водпуску. У калгас наш прыслалі на практыку дзвюх навучэнак Столінскага тэхнікума — Алу і Міру. У Мішы з Алай ці то не любоў была. Хадзіў на спатканні. І вось аднойчы ён, прыгнуўшы з пашы статак кароў, прынёс дадому букецік суніц. Так, так, менавіта букецік. Відаць, раслі яны ў траве, бо ягадкі з кветачкамі былі на высокіх “ножках”. Паставіў Міша гэты букецік, а я — за яго: “З’ем”. Ён — да мяне, я — наўцёкі: “З’ем, з’ем”. Нацешыўшыся, я цэлы і непашкоджаны вярнула букецік брату.

А каханне сапраўднага паміж імі, відаць, не было. Яны рассталіся. Не памаглі і суніцы.

Міша вельмі любіў маці. І яна яго, здаецца, любіла больш, чым нас, дзвюх дачок. Мо таму, што ён быў адзіным сынам. Мо таму, што яе першае дзіця памерла ў паўтарагадовым узросце. І Міхаська таксама хварэў... А мо таму, што яе мацярынскае сэрца прадчувала цяжкі сынаў лёс. Да таго ж, ён рана пакінуў бацькоўскую хату, паступіўшы пасля сямігодкі ў педвучылішча.

Міша па-асабліваму адносіўся да мамы — вельмі цёпла, пяшчотна. Незвычайным для вясковага жыцця было тое, што ён заўсёды пры сустрэчы цалаваў матуліну руку. Такое тады можна было бачыць толькі ў кіно. Ды і мама спачатку бянтэжылася, нібы саромелася, а потым прывыкла.

Шмат кранаючых да слёз слоў знайшлося ў Міхася для маці, роднага дома і ў яговых вершах:

*Перад тым, як упасці,*<br>
*Навекі прапасці, —*<br>
*Песні чатыры хацеў бы*<br>
*я скласці.*<br>
*Найпершая песня —*<br>
*маці...*

Маці для Міхася — усё, што ёсць самае святое ў чалавека:

*Рушыцца ў свеце ўсё:*<br>
*Горы, імперыі, нацыі,*<br>
*А застаюцца адны*<br>
*Трывогі і маці.*

Мама жыла ў роднай хаце з сям’ёй старэйшай дачкі Ліды, у Вострава. Хварэла яна даўно. Але ў бальніцу не хацела класціся нізашто. Тады мы бралі машыну і прывозілі яе ў Хатынічы. Балазе, тут участковая бальніца была насупраць нашага дома. А з дактарамі мы межаваліся сядзібамі. Яны прыходзілі да нас дадому, назіралі яе, а медсёстры рабілі ўколы. Палягчэе маці, просіцца яна назад у Востраў. І так да наступнага разу.

Але восенню 1977 года ёй стала зусім кепска. Яна слабела. Я адчула трывогу. Патэлефанавала брату, і ён адправіўся ў сумную дарогу.

Брэсцкі аўтобус прыходзіў да нас вечарам. Я выйшла сустрэць Мішу, каб хоць тыя метраў 150 ад прыпынку да нашай кватэры не здаліся яму аднаму такімі пякельнымі. Ганцавіцкая зямля сустрэла яго непагаддзю. Ішоў нудны дождж, рваў голле вецер. Неба, здаецца, плакала разам з намі.

Міша зайшоў у хату, падышоў да ложка, на якім ляжала аслабленая маці, апусціўся на калені і, як заўсёды, пацалаваў ёй руку. Сэрца быццам абарвалася ў яго грудзях. Ён зразумеў: са смерцю мамы рвецца тое, што наймацней за ўсё звязвала яго з родным куткам, які даваў яму жыццёвыя сілы і служыў паэтычным натхненнем...

З часу пахавання маці (а бацька памёр сямю гадамі раней, у 1970 годзе) вандраванні Міхася ў ваколіцах роднага Вострава, калі ён быў там, часцей за ўсё заканчваліся цішаю бацькоўскіх кладоў. Потым у адным са сваіх вершаў “Дома без маці” Міша напіша:

*Прыедзеш дадому,*<br>
*у кут запаветны —*<br>
*Як брата цябе*<br>
*сустракаюць,*<br>
*Хапае ўсяго ў застоллі*<br>
*прыветным,*<br>
*І толькі яе не хапае.*<br>
*І добра табе, і гасцінна*<br>
*ў хаце,*<br>
*Ды толькі (ці гэта здаецца?)*<br>
*Чамусьці бацькоўская*<br>
*хата без маці —*<br>
*Што грудзі жывыя*<br>
*без сэрца.*

Я з упэўненасцю магу сказаць: светлыя і мілы вобраз мамы дапамагаў Міхасю ў найбольш цяжкія часіны жыцця да самага яго скону.

**в. Хатынічы**

# Адсюль — вытокі

**Нарадзіўся я ў вёсцы Гута. У 1955 годзе скончыў сярэднюю школу, пасля чаго да восені працаваў у калгасе, а тады служыў на Балтыйскім флоце. Дэмабілізаваўшыся ў маі 1958 года, адразу ж паступіў вучыцца на завочнае аддзяленне журналістыкі Белдзяржуніверсітэта і пачаў працаваць спярша літсупрацоўнікам, пазней загадчыкам аддзела ганцавіцкай раённай газеты “Сялянская праўда”.**

Павінен зазначыць, што працоўнае жыццё давялося мне пачынаць намнога раней — здаецца, ці не з васьмігадовага ўзросту, бо, застаўшыся без бацькі, які быў на фронце, дзе пад канец вайны і загінуў, ды пры хворай маці, мусіў ужо тады сам зарабляць і на пражытак, і на абутак, і зрэдзь на школьныя падручнікі. Таму ў школу наведваўся толькі тады, пакуль ляжаў снег, астатнім часам наймаўся да вяскоўцаў у пастухі і, паколькі наша Гута сваіх выпасаў амаль не мела, з ранняй вясны і да позняй восені хадзіў за статкам па нашых абшарных ганцавіцкіх лясах. Свае прабелы па школьнай праграме сяк-так папаўняў самастойна. І гэтак — аж па дзясяты клас.

Пісаць пачаў рана, аднак адносна позна надрукаваўся ўпершыню — недастатковасць ведаў нават школьных, а таксама кніжная беднасць маёй палескай глыбінкі па тым часе давалі пра сабе адчувальнае знацццё. Балазе, хоць землякі-вяскоўцы шанавалі роднае слова, зрэшты, шануюць яго і цяпер, а яшчэ я меў магчымасць штодзённа быць сам-насам з прыродай, без якой сёння нават і не ўяўляю чаго-небудзь напісанага мною больш-менш вартага, — такой сцяжынай настойліва я і карабкаўся да ўласнага надрукаванага слоўка.

Пасля быў флот. Служыў, шмат чытаў і пісаў, паспяхова друкаваўся пераважна ў газеце “Страж Балтики”, частка тых флоцкіх вершаў пазней увайшла ў калектыўны зборнік паэтаў-балтыйцаў “Песня, рожденная морем”, выдадзены Калінінградскім кніжным выдавецтвам.

Таксама не магу не ўспомніць, як хораша і прыязна сустрэў мяне некалі Рыгор Барозкін (менавіта ён змясціў нізкі маіх вершаў спярша ў “Советской Отчизне”, а потым і ў «Нёмане»), якія клапотныя пісьмы пасля дасылаў, устрывожаны, чаму не дасылаю вершаў яшчэ. Адбылося ж вось што...

Я вяртаўся да роднага слова, і, як ні дзіўна, зрабіць гэта мяне “вымусіў” рускі чалавек, Мікалай Сідарэнка, і ўсяго адной толькі фразай, дый то сказанай як бы між іншым, як бы і не мне. Было тое ўжо на зыходзе маёй службы. Тады, помніцца, пахваліў паэт мае вершы, запрашаў на вучобу ў Літінстытут імя М. Горкага, дзе сам вёў семінар, а потым асцярожна пацікавіўся, чаму не пішу на роднай мове. Я адказаў нешта такое, што, маўляў, па-руску мне пішацца лягчэй дый друкавацца ёсць дзе. Паківаў мой субяседнік



сваёй сівой галавой і сказаў ціха, але ж няйнакш стрэліўшы над маім вухам: "Вось так у вас, беларусаў, і атрымліваецца: самі пішаце па-руску, а на родную мову пасля перакладваюць вас... іншыя". І ўсё. А мне ой жа як было над чым задумацца. І на ўсё жыццё.

Вяртанне да роднай мовы давалася цяжка, хоць і ведаў яе, лічу, дасканала. За колькі гадоў я не змог напісаць ніводнага больш-менш вартага верша. Я вымушаны быў пераходзіць да прозы, бо не пісаць ужо не мог, пры гэтым не адвяргаючы назусім і вершы. Лічу, што толькі пад уздзеяннем цудоўных нарысаў блізкага друга і паплечніка Васіля Праскурава на той сваёй нявыкрутнай часіне я так захапіўся гэтым цікавейшым і патрэбнейшым жанрам. Вынікам былі потым кніжкі "Пялёсткавы бераг", "Багацце душы — людзям", "Каласам хіліцца долу", "Калінавая квецень", калектыўны зборнік "Вярнуце шчасце", шматлікія публікацыі ў рэспубліканскіх газетах і часопісах.

Але найперш я схіляю сваю галаву перад той нашай "раёнкай" у Ганцавічах, якая давала нам крылы для палёту, — Міхасю Рудкоўскаму, Васілю Праскураву, Міхаілу Дубянецкаму, пазней — Віктару Гардзею, Алесю Кажадубу, Алесю Каско, майму аднавяскоўцу Уладзіміру Маруку. Нехаця мы разляталіся ад яе, ад мясцін спрэс казачных задзіўленняў, тых самых, якія калісь зачаравалі маладога Якуба Коласа на стварэнне такой надзіва паляшуцкай аповесці "У палескай глушы" — пакідалі іх, бо мусілі: у маі 1962 года Ганцавіцкі раён быў ліквідаваны.

Пасля таго нейкі час я працаваў адказным сакратарам міжраённай газеты ў Ляхавічах, карэспандэнтам рэспубліканскага радыё ў Пінску, а затым у "Чырвонай змене", спярша літсупрацоўнікам, потым уласным карэспандэнтам па Гомельскай вобласці. Пасля "Чырвонкі" быў намеснікам адказнага сакратара "Гомельскай праўды", карэспандэнтам часопіса "Работніца і сялянка", брэсцкай абласной газеты "Заря".

* * *

*Іван Кірэйчык памёр зімой 1996 года ў Гомелі. Але землякі не забылі паэта і публіцыста. Яго імем названа вуліца ў вёсцы Гута, а на былым хутары, дзе ён правёў свае дзіцячыя і юнацкія гады, клопатамі мясцовага энтузіяста і шчырага сябра ганцавіцкіх пісьменнікаў Аляксандра Свірыда вясной 2010 года быў адкрыты памятны знак.*

***Успаміны Івана Кірэйчыка ў рэдакцыю "ЛіМа" перадала ўдава паэта Вера Фёдараўна Кірэйчык.***

# Мае землякі



**Ганцавіцкі раён — самабытны куточак беларускай зямлі. Над ім, як і над усёй Беларуссю, лунаюць буслы. Грацыёзныя постаці чапляў раз-пораз вабяць погляд падарожніка, шлях якога ляжыць уздоўж рэчкі Лань, Лактышоўскага вадасховішча. І сапраўднае свята нараджаецца ў душы, расце адчуванне гонару за сваю Радзіму, калі з паўсотні, а можа, і шмат болей, белых прыгажунь плывуць у паветры. У блакіце неба, на фоне сіняй сцяны далёкага лесу кожны ўзмах іх крылаў успыхвае срэбнай маланкай пад промнямі сонца... Прыгажосць, прастора, празрыстасць паветра, спакой і суладдзе на зямлі.**

**Марыя МУХА,**
**дырэктар Ганцавіцкага раённага Дома рамёстваў,**
**фота аўтара**

Камусьці можа падацца занадта пафаснай гэтая думка. Але без адчування велічнасці свайго краю, без адчування сябе неадрыўнай часткай роднай зямлі нельга быць стваральнікам. Ці не праўда?

З 1997 года працуе Ганцавіцкі раённы Дом рамёстваў. Яго задачы адраджаць, захоўваць і развіваць традыцыйныя беларускія рамёствы дапамагаюць здзяйсняць працавітыя, шчырыя людзі, якія проста закаханыя ў сваю работу. Адна з іх — Ульяна Віннік. "Люблю ягады збіраць, люблю кветкі даглядаць, люблю ў агародзе корпацца... люблю працу — і ўсё тут!" — так аднойчы ў размове сказала Ульяна Пятроўна. Гэта знатная ткачыха, душа фальклорнага калектыву вёскі Боркі, гасцінная гаспадыня, хату якой не пакінеш не пачаставаўшыся. Наша сяброўства з Ульянай Пятроўнай доўжыцца каля 15 гадоў. За гэты час ёю вышыта і саткана столькі ручнікоў і паясоў, што можна выкласці імі дарогу да райцэнтра. А колькі імпэту, творчай захопленасці, хітраватай бадзёрасці ў позірку, рухах, усмешцы! Гледзячы на гэтую жанчыну, проста немагчыма застаявацца абыякавым да ўсяго, што яна робіць, пра што гаворыць. Ульяна Пятроўна часты госць у Доме рамёстваў: яна і кросны заснаваць дапаможа, і новымі ўзорамі падзеліцца, і за кубачкам гарбаты, што заварана на зёлках, сабраных рупнай рукой Яўгеніі Станкевіч, сумна не будзе. Ужо шмат гадоў без ручнікоў У. Віннік не абыходзіцца ніводная выстаўка народнай творчасці ў раёне ды вобласці. А сямейны дуэт Віннікаў у складзе самой Ульяны Пятроўны і яе мужа Аляксандра Дзям'янавіча цешыць душы землякоў ужо не адно дзесяцігоддзе. Вакол іх гуртуецца мясцовы фальклорны калектыў.

Яўгенія Станкевіч — майстар па вышыўцы і карункапляценні. З 1997 года яе лёс таксама цесна звязаны з Домам рамёстваў. Напачатку яна прыйшла як зацікаўлены наведвальнік. Затым ёй захацелася выслухаць нашу думку пра сваю творчую працу, параіцца. Незаўважна стала актыўным удзельнікам усіх выставак народнай творчасці, вечароў сустрэч, майстар-класаў. У характары Яўгеніі Адамаўны мяне заўсёды заваражвае ўменне вучыцца ўсяму і ўсюды. З кожнай новай сустрэчы яна нешта бярэ для сябе, звяртае ўвагу на тое, што вельмі проста не заўважыць, а насамрэч гэтая дробязь з'яўляецца ключом да рашэння творчай ідэі. Інтэлігентная, дасведчаная, адкрытая да супрацоўніцтва і адказная за даручаную справу, Яўгенія Адамаўна з'яўляецца неад'емнай часткай нашага калектыву.

Ніна Казак працуе майстрам па ткацтве ў Доме рамёстваў ужо дзесяцігоддзе. Час хуткаплынны. Вымаўляеш "дзесяцігоддзе" і не разумееш: калі ж яно прайшло-праляцела? Здаецца, толькі ўчора я прыкладвала ўсе намаганні, каб угаварыць Ніну Мікалаеўну прыйсці да нас на працу ткачыхай. На дапамогу паклікала Т. Наумік і М. Казак — суседку і маці Ніны Мікалаеўны. Дапамаглі, угаварылі і напачатку сталі дарадцамі і памочнікамі маладой ткачысе. Сёння Ніна Казак — прызнаны майстар сваёй справы. Бачылі б вы, як туляцца да яе дзеці, што займаюцца ў ткацкім гуртку, якім кіруе Ніна Мікалаеўна! З якой ахвотай і гатоўнасцю выконваюць яе заданні і даручэнні, каб затым пахваляцца аднаму перад адным, чыю ж работу ацаніла настаўніца вышэй. Бываючы на выстаўках, я часта назіраю, з якой годнасцю, схаванай у паставе, позірку, паважных, размераных рухах, гэта жанчына размаўляе з людзьмі, адкрывае ім таямніцы народнага ткацтва. Кожны, хто звяртаецца да ткачыхі, напаўняе сваю душу тымі ж пачуццямі, якімі валодае майстрыха. Вось гэта і ёсць галоўнае багацце нашага народа — чалавечая годнасць, гонар за сваю Радзіму, добразычлівасць да бліжняга.

> *Бываючы на розных выстаўках, я часта назіраю, з якой годнасцю, схаванай у паставе, позірку, паважных, размераных рухах, гэта жанчына размаўляе з людзьмі, адкрывае ім таямніцы народнага ткацтва. Кожны, хто звяртаецца да ткачыхі, напаўняе сваю душу тымі ж пачуццямі, якімі валодае майстрыха. Вось гэта і ёсць галоўнае багацце нашага народа — чалавечая годнасць, гонар за сваю Радзіму, добразычлівасць да бліжняга.*



Прыедзьце да нас, пазнаёмцеся з Вольгай Дзічкай, Праскоўяй Жалезнай, Марыяй Занька... Спіс можна доўжыць яшчэ на дзясяткі імёнаў. Пры гэтым можна смела сказаць, што традыцыі народных рамёстваў на Ганцаўшчыне не згінуць, бо ёсць моладзь, якая іх падхапіла і ўмела спалучае з інавацыямі сённяшняга дня.

Педагогі па прафесіі, Лілія Кудравец і Святлана Варвашэвіч — творцы па стане душы. Яны займаюцца вышыўкай, аплікацыяй з розных матэрыялаў, вязаннем, карункапляценнем. Іх творчыя работы і работы дзяцей, якіх яны навучаюць майстэрству, неаднойчы адзначаліся ўзнагародамі. Наталля Рабцэвіч — майстар па ткацтве Дома рамёстваў. Першыя ўрокі яна ўзяла ў сваіх маці — Ніны Мікалаеўны — і бабулі. І цяпер размаўляе з імі на адной мове, бо ў свае 24 гады спасцігла асноўныя сакрэты старадаўняга рамяства. У 2010 годзе ручнікі Наталлі разам з матчынымі на рэспубліканскім фестывалі-кірмашы рамёстваў "Вясновы букет" былі прызнаны лепшымі традыцыйнымі ручнікамі Беларусі. Наталля вучыцца сама, вучыць майстэрству ткання паясоў дзяцей, якія наведваюць гуртох пад яе кіраўніцтвам.

Алена Шаматульская займаецца карункапляценнем. Яшчэ школьніцай яна выходзіла пераможцай раённых алімпіяд па працоўным навучанні, у дзясятку лепшых ўваходзіла па выніках абласных алімпіяд. Яе работы прадстаўляліся на абласных і рэспубліканскіх выстаўках і святах народнай творчасці спачатку як удзельніцы дзіцячага гуртка, а цяпер як паўнапраўнага члена клуба майстроў "Багач", што існуе пры раённым Доме рамёстваў. Алена — студэнтка Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М. Танка, але сувязь з намі не губляе і кожнае лета ўдзельнічае ва ўсіх нашых творчых праектах.

Гаворачы пра майстроў і майстэрства, не абыдзеш увагай імя Віталя Шапялевіча. У Дом рамёстваў ён прыйшоў упершыню, атрымаўшы накіраванне на практыку з Мірскага мастацкага вучылішча, дзе ў той час набываў прафесію ганчара і рэзчыка па дрэве. Энергічны, дзейсны, з творчым падыходам да самых празаічных даручэнняў, ён ніколі не спыняецца на дасягнутым. Як і ўсе творчыя людзі, заўсёды ў пошуку новых шляхоў, новых вобразаў. І гэты пошук не бясплодны. Сёння Віталь найперш спецыяліст па мастацкай апрацоўцы дрэва, які крок за крокам набліжаецца да мэты стаць сапраўдным майстрам гліняных цудаў.

Сняжана Наумік з вёскі Хатынічы ў свае няпоўныя 30 гадоў — шматдзетная маці, гаспадыня ва ўласным доме і мастак. Фарбы, якімі Сняжана малюе родныя краявіды, перадаюць прыгажосць вясковага наваколля, вабяць вока кветкі і садавіна на яе нацюрмортах. Запыталася ў яе мінулай восенню, калі дамаўлялася пра ўдзел у абласной выстаўцы самадзейных мастакоў "Храмы Берасцейшчыны", як жа яна спраўляецца з дзецьмі, гаспадаркай, маляваннем. А яна мне ў адказ пра тое, што яшчэ і па журавіны ходзіць. Я толькі здзіўлена паглядзела, а Сняжана працягвае: "Я назбіраю, а тата вынесе, бо сама не ў стане падняць сабраную па ягадцы ношу. А з дзецьмі ды па гаспадарцы муж дапамагае. Ён любіць, калі я малюю".

Вось такія яны, мае землякі. Шчырыя, працавітыя, творчыя. Нават калі яны не займаюцца вышыўкай, разьбой ці бандарствам, яны — творцы, бо ствараюць сваё жыццё такім, якім хочуць яго бачыць, і ўмеюць радавацца плёну сваёй працы, бо ў кожным куточку нашага раёна гучаць песні. Такія ж, як лунаді ціхаю летнюю ноччу над рэчкаю Лань ля вёскі Лактышы, калі хлопцы і дзяўчаты — выпускнікі школы — везлі ў чаўнах жывыя кветкі з прыланскіх лугоў на апошні школьны званок.

# Вітайма спадкаемцу




**Дзень беларускага пісьменства традыцыйна стаўся сапраўдным святам роднага слова. І не адно таму, што мае статус дзяржаўнага, але і служыць аднаўленню нашых гарадоў і мястэчак, вяртае на радзіму, а для кагосьці і адкрывае часам забытыя імёны, выхоўвае гонар ды годнасць, беражлівыя адносіны да айчынных скарбаў.**



**Віктар КАВАЛЁЎ**

Гэта свята стала ў нашай краіне акцыяй дзяржаўнай значнасці і важнай грамадска-культурнай падзеяй. Дзень беларускага пісьменства ўжо прымалі (некаторыя і па два разы) гарады Тураў, Полацк, Заслаўе, Мір, Навагрудак, Орша, Мсціслаў, Нясвіж, Пінск, Камянец, Паставы, Шклоў, Барысаў, Смаргонь, Хойнікі. Сёлета — Ганцавічы. Спадкаемцам у наступным, 2012 годзе, абраны горад Глыбокае на Віцебшчыне.

Горад Глыбокае — цэнтр Глыбоцкага раёна, які знаходзіцца ў 187 км на захад ад Віцебска. Чыгуначная станцыя на лініі Крулеўшчына — Варапаева, на скрыжаванні аўтадарог Полацак — Вільнюс і Докшыцы —Шаркаўшчына. У межах Глыбокага — азёры Кагальнае і Вялікае, з якога выцякае р. Бярозаўка (Беразвеч). Горад згадваецца ў Метрыцы Вялікага Княства Літоўскага ў 1514 годзе як двор, цэнтр маёнтка Зяновічаў. Але па апошніх звестках даследчыкаў Глыбокае на цэлае стагоддзе старэйшае. Пагартаем разам гістарычны летапіс горада.

1556: мястэчка, якое рэчка Бярозаўка падзяляла на дзве часткі — паўднёва-заходняя належала Зяновічам і ўваходзіла ў склад Ашмянскага павета Віленскага ваяводства; паўночна-ўсходняя — Корсакам, уваходзіла ў склад Полацкага ваяводства. Цэнтрам паўднёва-заходняй часткі была гандлёвая плошча з крамамі, свірнамі, уніяцкай царквой з плябаніяй, шпіталем; тут знаходзіўся Глыбоцкі замак. Паўночна-ўсходняя частка Глыбокага таксама мела ў цэнтры гандлёвую плошчу, ад якой пачыналіся шляхі на Дзісну, Полацк і мястэчка Беразвечча.

1563—1579: у Лівонскую вайну маскоўскія захопнікі ўчынілі ў Глыбокім і ваколіцах значную шкоду; напрыканцы вайны праз мястэчка праходзілі вялікалітоўскія войскі Стэфана Баторыя ў час яго вызваленчых паходаў на Полацк і Пскоў.

Кан. XVI ст.: у Глыбокім заснавалі кальвінскі збор, бібліятэку і школу; аднак на пачатку XVII ст. на месцы збора збудавалі касцёл св. Міхала (праіснаваў да 1650).

1628: у Глыбокім пачаў дзейнічаць Траецкі касцёл.

1636: ваявода мсціслаўскі і староста дзісенскі І. Корсак заснаваў на сваёй частцы Глыбокага касцёл і кляштар ордэна кармелітаў, пры якім дзейнічала вучэльня.

2-я пал. XVII ст.: з пачаткам вайны Расіі з Рэччу Паспалітай (1654 — 1667) Глыбокае захапілі маскоўскія войскі; яны збудавалі тут невялікую драўляную крэпасць — "острог", у якой размяшчаўся гарнізон.

Студзень 1659: мястэчка вызваліў атрад вялікалітоўскага войска.

6 лістапада 1661: каля Глыбокага войскі Вялікага Княства Літоўскага на чале з С. Чарнецкім разбілі маскоўскія войскі пад камандаваннем І. Хаванскага (больш як 18 тыс. чал.), захапіўшы 6 гармат, вялікі запас пораху, больш як 6 тыс. павозак з правіянтам. У бітве загінула больш чым 6 тыс. маскавітаў, ацалелыя ўцяклі ў Полацк.

24 ліпеня 1667: паспалітае рушанне глыбачан у некалькі соцень чалавек дало адпор марадзёрам венгерскай харугвы літоўскага польнага гетмана В. Валовіча.

1668: паўднёва-заходняя частка Глыбокага перайшла да Радзівілаў.

1702: паводле інвентару сядзібны комплекс Радзівілаў у Глыбокім улучаў галоўны аднапавярховы драўляны будынак, флігель, пякарню, двухпавярховы лямус з галерэямі, свірны, стайні, вазоўні, сажалку, ставок з вадзяным млынам, іншыя гаспадарчыя будынкі; у маёнтку налічвалася 263 двары.

1742: у Глыбокім збудавалі сінагогу.

1775: у мястэчку было 310 дамоў, у Корсакавай частцы — 100 двароў.

XVIII — XIX стст.: пры Глыбоцкім кляштары кармелітаў працавалі школа, бібліятэка, фізічны кабінет, аптэка, шпіталь; мелася 40 музыкаў.

Кан. XVIII ст.: на Глыбоцкіх могілках збудавалі Ільінскую капліцу і мэмарыяльную калону ў гонар Канстытуцыі 3 мая.

1793: у выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай Абодвух Народаў апынулася ў складзе Расійскай імперыі, у Дзісенскім павеце.

Ліпень — снежань 1812: у расійска-французскую вайну Глыбокае займалі французскія войскі. З 18 ліпеня на працягу 6 дзён у Глыбокім знаходзіўся Напалеон.

XIX ст.: паўднёва-заходняя частка Глыбокага перайшла да Вітгенштэйнаў.

Красавік — май 1831: каля Глыбокага адбыліся баі паўстанцаў з царскімі войскамі.

1842: паўднёва-ўсходняя частка мястэчка знаходзілася ў валоданні дзяржавы, паўднёва-заходняя заставалася прыватнаўласніцкай; цэнтр воласці.

1886: у мястэчку працавалі народнае вучылішча, піваварны, вінакурны, цагельны заводы; было некалькі складоў з таварамі і прыватных крам; у нядзелю збіраліся рынкі, штогод — два кірмашы.

Пач. XX ст.: з пачаткам Першай сусветнай вайны да Глыбокага праклалі чыгунку.

1917: у выніку ваенных спусташэнняў у мястэчку засталося ўсяго 111 двароў.

Люты — снежань 1918: Глыбокае занялі нямецкія войскі, а ў жніўні 1919 — ліпені, кастрычніку 1920 — польскія войскі.

5 ліпеня 1920: у ваколіцах Глыбокага адбыліся баі савецкіх і польскіх войскаў, у якіх загінула 1,5 тыс. чалавек.

1921: у складзе міжваеннай Польскай Рэспублікі, мястэчка, цэнтр Дзісенскага павета Віленскага ваяводства.



Фота з сайта www.glubokae.vitebsk-region.gov.by

10 лістапада 1933: да Глыбокага далучылі населеныя пункты з аднайменнай гміны — калонію Глінішчы і маёнтак Глыбокае.

1939: у Глыбокім працавалі цукерачная фабрыка, гарбарны завод, млын, павятовая ўправа, польская гімназія, прыватныя крамы, склады тавараў; кожны чацвер праводзіліся базары, штогод — 4 кірмашы.

Кан. 1939: у складзе БССР.

15 студзеня 1940: атрымала статус горада, цэнтр раёна.

2 ліпеня 1941 — 3 ліпеня 1944: знаходзілася пад нямецкай акупацыяй; цэнтр акругі рэйхскамісарыята "Остланд". Гітлераўцы знішчылі ў Глыбокім і раёне 10133 чал., у 3 лагерах смерці — больш як 37 тыс. чалавек, у тым ліку ў Беразвецкім лагеры смерці больш як 27 тыс. савецкіх і італьянскіх ваеннапалонных.

Сучасны горад захаваў радыяльную планіроўку са свабодным унутрыквартальным размяшчэннем вуліц, якая склалася ў XVII — XVIII стст. Захаваліся будынкі XVIII — XIX стст.: буйнейшыя архітэктурныя комплексы — касцёл і кляштар кармелітаў (1639 — 1654), Траецкі касцёл (1764 — 1782, перабудаваны ў 1902 — 1908), фрагменты забудовы XIX — пач. XX ст. На могілках Капцёўка знаходзяцца Ільінская капліца і мемарыяльная калона ў гонар Канстытуцыі 3 мая 1791 (абедзве канца XVIII ст.). У межах сучаснага Глыбокага ўвайшоў комплекс Беразвецкага базыльянскага манастыра (XVIII ст.).

У горадзе знаходзяцца знакамітыя сваёй якасцю тавараў прадпрыемствы харчовай і дрэваапрацоўчай прамысловасці: Глыбоцкі малочнакансервавы камбінат, мясакамбінат, кансервавы, камбікормавы заводы, доследны лясгас…

Але ж горад адметны і культурным жыццём. Так, у раёне функцыянуе 76 устаноў культуры, у тым ліку 33 клубныя ўстановы, 35 бібліятэк, 8 кінаўстановак, 2 дзіцячыя школы мастацтваў, 4 сельскія музычныя школы, Глыбоцкі Дом рамёстваў, Глыбоцкі гісторыка-этнаграфічны музей, Івеські культурны гісторыка-турыстычны цэнтр, культурна-дэндралагічны комплекс у вёсцы Мосар — філіял гісторыка-этнаграфічнага музея, Цэнтр рамёстваў у гарадскім пасёлку Падсвілле — філіял Глыбоцкага Дома рамёстваў, бібліятэка-музей этнаграфіі ў аграгарадку Азярцы, Дом фальклору ў вёсцы Запруддзе. Ва ўстановах культуры раёна працуюць 220 калектываў самадзейнай творчасці, у тым ліку 16 маюць ганаровае званне "народны". Традыцыйным у раёне стала правядзенне такіх народных свят, як Купалле, Масленіца, калядныя гулянні… З пачатку мінулага стагоддзя горад з'яўляецца цэнтрам ганчарнага рамества, г.зв. "глыбоцкай керамікі".

Ганарацца глыбачане і сваімі знакамітымі землякамі. Гэта — грамадскі і палітычны дзеяч, пісьменнік, гісторык, філолаг, літаратуразнавец, этнограф Вацлаў Ластоўскі, пісьменнік, журналіст Тадэвуш Даленга-Мастовіч, мастак, скульптар, этнограф, археолаг, педагог, адзін з заснавальнікаў беларускага нацыянальнага гістарычнага жывапісу Язэп Драздовіч, акцёр, рэжысёр, тэатральны дзеяч, стваральнік нацыянальнага прафесійнага тэатра Ігнат Буйніцкі, грамадска-палітычны і культурны дзеяч Клаўдзій Дуж-Душэўскі, партыйны дзеяч Барыс Волін, савецкі авіяканструктар Павел Сухі, гісторык Фёдар Дамінікоўскі, мастак Юрый Багушэвіч…

Свята пісьменства займае пачэснае месца сярод важнейшых падзей культурнага жыцця нашага грамадства, яно аб'ядноўвае людзей, нагадвае пра неабходнасць захавання і ўзбагачэння духоўнай спадчыны. Бо для беларуса ў веды, пісьменства і духоўныя каштоўнасці заўсёды былі невычэрпнай крыніцай аптымізму, апорай у пераадоленні ўсіх цяжкасцей і перашкод. Невыпадкова менавіта Беларусь стала радзімай многіх выдатных асветнікаў, дзеячаў культуры, літаратараў і навукоўцаў сусветнага ўзроўню.

***На здымках: паштовая марка з выявай П. Сухога; герб г. Глыбокае; сабор Нараджэння Прасвятой Багародзіцы.***

## Афарызм

***Выбірай: быць пасрэднасцю на мове суседа або нечым значным на сваёй.***

**Уладзімір Караткевіч**

**Выходзіць з 1932 года**
**У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў**
**Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА "Саюз пісьменнікаў Беларусі", РВУ "Літаратура і Мастацтва"**
**Галоўны рэдактар Алесь Мікалаевіч КАРЛЮКЕВІЧ**



**Юрыдычны адрас:**
220034, Мінск,
пр. Незалежнасці, 39, п.4а
**Адрас для карэспандэнцыі:**
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
**Тэлефоны:**
галоўны рэдактар — 284-84-61
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
**Аддзелы:**
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04, 284-66-71
аддзел "Кніжны свет" — 284-66-71
бухгалтэрыя — 284-66-72
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ "Літаратура і Мастацтва".
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
**Выдавец:**
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова "Літаратура і Мастацтва".
**Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства**
"Выдавецтва "Беларускі Дом друку"
г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 1800 рублёў
Наклад — 3466
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 01.09.2011 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь
Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 4212
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12